# Крыніца

8(68)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Крыніца № 8 (68) 2001

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнік:** Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года

**Галоўны рэдактар**
Ала КАНАПЕЛЬКА

**Аддзел культуралогіі**
Валянцін АКУДОВІЧ

**Аддзел паэзіі**
Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Аддзел прозы**
Анатоль СІДАРЭВІЧ

**Мастацка-тэхнічная ґрупа:**
Кастусь ДРОБАЎ,
Ірына КЛІМКОВІЧ,
Наталля ХАРОЛЬСКАЯ,
Святлана ЯВАР

Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 06.08.2001. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 11,16. Тыраж 752 экз. Зак. 2191.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.







# Валеры Маракоў

*І зноўку пойдзе караван,*
*І бераг мора будзе біцца.*
*Жыццё, як мора-акіян...*
*А лёс мой – віхар-навальніца.*

# Жыццяпіс

*14(27) сакавіка 1909 г.* – у вёсцы Акалонія пад Мінскам нарадзіўся будучы паэт Валеры Маракоў. У тым жа годзе бацькамі – Дзмітрыем Мараковым і Вольгай Майсіевіч – быў ахрышчаны ў Сенніцкай царкве;

*1924 г.* – скончыў 4-ю Мінскую ўзорную сямігадовую школу;

*1925 г.* – пасля школы да канца года працаваў печнікам разам са сваім бацькам; у беларускім друку пачалі з'яўляцца першыя вершы;

*снежань 1925 г.* – прызначаецца сакратаром рэдакцыі часопіса "Піянер Беларусі";

*1926 г.* – паэта прымаюць у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк";

*1926 г.* – выдае першы зборнік вершаў "Пялёсткі";

*1927 г.* – выдае другі паэтычны зборнік "На залатым пакосе";

*1927 г.* – напрыканцы года "Маладняк" і Наркамат асветы БССР накіроўваюць паэта на вучобу ў Мінскі Белпедтэхнікум імя У. Ігнатоўскага;

*1929 г.* – пасля заканчэння двух курсаў Белпедтэхнікума В.Маракова адклікаюць з вучобы і прызначаюць загадчыкам літаратурнага аддзела газеты "Савецкая Беларусь", дзе ён і працаваў, з невялікімі перапынкамі, да канца 1930 года;

*1930 г.* – выйшла з друку чарговая кніжка "Вяршыні жаданняў";

*1930–1934 гг.* – працуе сакратаром, а пасля намеснікам рэдактара часопіса "Чырвоная Беларусь", рэдактарам якога быў Міхась Чарот;

*красавік 1931–чэрвень 1934 г.* – вучыцца ў Беларускім дзяржаўным вышэйшым педагагічным інстытуце (з 1935 года – Мінскі Вышэйшы Беларускі педагагічны інстытут імя М.Горкага);

*1933 г.* – выйшаў у свет зборнік вершаў "Права на зброю", рукапіс якога двойчы вярталі на дапрацоўку, аднак у канчатковым варыянце ўсё ж выкінулі амаль усю лірыку паэта (тое ж самае адбудзецца і ў 1959 годзе з выданнем зборніка "Лірыка");

*1934 г.* – паэт уступіў у Саюз пісьменнікаў СССР і атрымаў членскі білет, падпісаны Максімам Горкім;

*1934 г.* – пераходзіць з часопіса "Чырвоная Беларусь" у штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", у якім працаваў да студзеня 1935 года;

*чэрвень 1934 г.* – пасля заканчэння крытыка-творчай секцыі літаратурна-лінгвістычнага аддзялення Вышэйшага педагагічнага інстытута паэта накіроўваюць настаўнічаць у Бабруйск;

*1935 г.* – за публікацыю верша "Песня перамог" быў выключаны з Саюза пісьменнікаў тэрмінам на шэсць месяцаў;

*21 сакавіка 1935 г.* – арышт "за членства ў контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі" і следства па "справе";

*май 1935 г.* – арыштоўваюць старасту Козыраўскай царквы Дзмітрыя Маракова, бацьку паэта (у канцлагеры і ссылцы ён прабудзе 10 гадоў);

*7 ліпеня 1935 г.* – справа В.Маракова спынена, і паэт быў выпушчаны з мінскай турмы НКУС;

*6 лістапада 1936 г.* – паўторны арышт паэта;

*5 верасня 1937 г.* – вынесена абвінавачванне па арт. 68,69,70 Крымінальнага кодэкса;

*28 кастрычніка 1937 г.* – выязная Ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла Маракова В.Дз. да вышэйшай меры пакарання – расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці; прыгавор быў канчатковы і абскарджанню не падлягаў;

*29 кастрычніка 1937 г.* – паэта Валеры Маракова расстралялі;

*10 верасня 1956 г.* – паэт быў рэабілітаваны;

*23 красавіка 1957 г.* – справа адменена з-за адсутнасці складу злачынства.

# Цытатнік

*“Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы...”*

**Максім ГАРЭЦКІ**

*“Маракова заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю Янка Купала. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі, даў паэту не адну сваю кнігу з цёплым і шчырым аўтографам”.*

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ**

*“Вобразаў у паэзіі Маракова многа, і вобразы яго носяць характар выражэння пачуццяў”.*

**Сцяпан БАРКОЎСКІ**

*“...У Маракова выпрацоўваецца безнадзейны песімізм. I ў сваёй безнадзейнасці Маракоў дакочваецца да крайніх мераў...”*

**Антон АДАМОВІЧ**

*“В.Маракоў быў адным з самых таленавітых паэтаў 20—30-х гадоў. Ён хутка ўзыходзіў. Моладзь любіла ягоную паэзію. Дзіўна, але яе чамусьці вабіў той песімізм, разгубленасць. Мабыць, настрой паэзіі Маракова адпавядаў настроям чытачоў? Гэта была паэзія кахання, надзей і расчараванняў, паэзія адыходу ад грамадскага афіцыёзу ў свет хараства, у свет чалавечнасці”.*

**Лявон ЮРЭВІЧ**






*“Мы жылі ў страшэнны, неверагодна складаны час. Каб ён ніколі, ніколі не паўтарыўся! Кожнага мог зваліць на дол абыякава-злосны стралок.*

*Дабрыня была істотнай рысай характару Валерыя Маракова – Чалавека і Паэта. Ніколі не ападуць пялёсткі яго паэзіі, такой неабходнай нашаму сучасніку.*

*У памяці людзей будуць жыць яго трапяткая лірычная душа, яго шчырая сыноўняя любоў да ўсяго светлага на зямлі, што завецца Айчынай”.*

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

*“...з радкоў вершаў і паэм Валерыя Маракова, як з-пад рук таленавітага скульптара, вырастаў бачны, жывы, увесь поўны руху і імкнення вобраз маладога героя эпохі трыццатых гадоў. Будучыня, у імя якое жыў і тварыў паэт, хаця і была авеяна ружовым мроівам рамантычнай летуценнасці аўтара, уяўлялася ім даволі акрэслена”.*

**Алесь ЗВОНАК**

*“Гэта была рамантыка, разбуджаная і акрыленая светлай паэзіяй амаль нашага равесніка Валерыя Маракова. “Пялёсткі” пераходзілі з рук у рукі, вершы перапісваліся ў патаемныя дзявочыя дзённікі”.*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

*“З гэтага чырванашчокага юнака, здавалася, так і тачылася паэзія: са светлага позірку, размашыстых рухаў, з красамоўнага маўчання”.*

**Павел ПРУДНІКАЎ**

*“Памяць наноў стварае жывы, трапяткі вобраз часу. Часу, асвечанага ўзлётнай марай і гаркотным болем. Часу, які занатаваў падзеі літаратурнага жыцця ў летапіс Адраджэння. ...з цёмнага маўчання праз гады прабіўся голас маладога паплечніка Купалы, летуценніка нашай Волі”.*

**Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ**

# ПА БЯРОЗАВЫМ ШЛЯХУ

**Была раніца...**

**Усё дыхала жыццём, усё смяялася, усё хацела як больш напіцца жыватворнай цеплыні сонца. Толькі мне аднаму сярод гэтай ранняй прыгажосці прыроды хацелася плакаць... І я плакаў. Чыстыя дзіцячыя слёзы скідаліся срэбрам на чырвоныя галоўкі кветак, якія ўсміхаліся светлым і чаруючым смехам залатому сонцу... Навокал стройныя, высокія бярозы абступалі мяне. Яны шапталі і сваім шапаценнем навявалі сны даўно мінулай славы дарагой Бацькаўшчыны, дарагой Беларусі-зямлі... І не верылася, каб гэтая слава калі-небудзь загінула... О, не! І цяпер, калі буйным цветам паланее зара Кастрычніцкай рэвалюцыі, не дарма я ўспомніў тыя шчырыя словы беларускіх бяроз, што распалілі маё сэрца невыказным каханнем да роднай беларускай зямлі... Што сказалі мне першы раз у сваіх зачарованых казках жыцця, што не толькі я плакаў пад сонцам той чырвонай раніцы... Тады плакаў... горка плакаў працавіты беларускі народ...**

*1926 г.*

* * *

Пеў пякучыя песні свае салавей,
Кучаравая ліпа драмала;
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песня да шчасця і волі заве,
Маладая дзяўчына спявала.

Слухаў я, і ў грудзях невытрымным агнём
Ўзварухнулася сэрца струною.
Захацелася шчасця й кахання ізноў.







Каб у гэтым прасторы сівых ячмянёў
Патануць ў цішыню з галавою.

Хай тады яна прыйдзе і скажа: кахай
Маладую дзяўчыну прыволля.
Будзе песні нам пець зачарованы гай,
Будуць слухаць іх месяц і радасны край,
А мы будзем кахацца на полі...

І рукой белай, белай, як лебедзь, рукой
Абдымаць мяне ў шчырасці будзе.
Хай тады белы месяц, над сіняй ракой
Упадзе на ваду залатым васільком, –
Ён запал нашых слоў не астудзіць!

Хай тады усю ноч, ўсё жыццё салавей
Свае песні пяе пра каханне.
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песня да шчасця і волі заве,
Ўсё жыццё – залатое світанне!

*1926*

# ДЗЯЎЧЫНЕ

І так пішу: ізноў пішу з натхненнем.
Твой васілёк перада мной ляжыць.
А за вакном снуюцца і танцуюць цені,
Упаў срабрысты месяц на калені,
Стаў цалаваць магільныя крыжы.

О, што яму – ён сёння верыць ў Бога,
Я ж веру толькі ў шчасце і людзей.
І мо затым з такой пякучаю трывогай
Я жыў, смяяўся і спяваў так многа,
Хоць часта быў я збіты, без надзей.

О!.. ён стары, з ім ў ціш і ў сінь магілы
Лягла вясна… і шчырасць – адміраць;
А я ў разгары свежасці і сілы
Пайду ў прастор, дзе над палоскай мілай
Гарыць, як кроў, вячэрняя зара.

Каб з новай верай ў шчасце і каханне
Цябе да сэрца смела прытуліць
І ў сіні змрок ля шэрага кургана
Пра нашу цвець і першае спатканне
Вясны і траў мелодыю праліць.

І ўжо тады пад белаю калінай
Нам будзе месяц сыпаць каласы;
І так – бывай, каханая дзяўчына,
Прыйду я хутка да цябе ў даліну
Упіцца свежасцю крамянае расы!

*1926*

## З БЕЛЫХ НАЧЭЙ

I
Дай ты мне свае белыя грудзі,
Дай да сэрца прыціснуць хоць раз.
Гэта ноч ўсё жывое абудзіць,
Не абудзіць адных толькі нас.

Не абудзіць ні слоў, ні кахання.
Ну і што ж, калі хораша так
Адшукаць свой прытулак ў тумане,
Адшукаць і другім перадаць.

Што глядзіш так таемна і ўпарта?
О, я знаю, ты хочаш йшчэ жыць,



Бо для шчасця – надзеі і жарты,
А для смерці – трызвон і крыжы!..

Дай жа, дай свае белыя грудзі,
Дай да сэрца прыцісну́ць хоць раз.
Гэта ноч ўсё жывое абудзіць,
Не абудзіць адных толькі нас!..

II
Не цвілі дыяментамі вочы,
Дый за гэтым тады не сачыў.
Толькі шкода, што ў белыя ночы
Мала знаў я прыгожых жанчын.

Я не знаў, і навошта так рана
Свае грудзі журбой абуджаць,
Раз абудзіш і чорная рана
Будзе каменем вечна ляжаць.

А так многа, на свеце так многа,
Што згубілі жыццё абы-як,
Бо была ім апошняй дарога,
Што вядзе у бяздонне й кабак.

І хоць так не палалі тут вочы,
Я за гэтым тады не сачыў,
Толькі шкода, што ў белыя ночы
Мала знаў я прыгожых жанчын!

III
Не табе, не з табой я маліўся,
Ну й за гэта сягоння даруй.
Не шкада, што на свет нарадзіўся,
Не шкада, што калісьці памру.

Не шкада, што ў вячэрнім тумане
Мёртвы месяц пажарам гарыць,

І на белыя грудзі туманаў
Льюцца слёзы крывавай зары.

Ах, сягоння ля гэтай дубровы
Хочу жыць, яшчэ хочу я жыць,
Бо кахаць ты не будзеш нанова,
А пажару крыві не стушыць.

І хоць так! Не табе я маліўся,
Ну й за гэта сягоння даруй, –
Не шкада, што на свет нарадзіўся,
Не шкада, што калісьці памру!

*1927*

## ЖЫЦЦЁ, ЯК МОРА-АКІЯН

Жыццё, як мора-акіян...
А шчасце – бераг дальні...
Ідзе ў пустэльні караван
Пад гукі ветраў пахавальных...

Цвітуць ў Італіі сады...
І сонца там, і мора бліжай,
І ты глядзіш з журбой туды,
Над даллю рукі ўзняўшы крыжам.

Хмяльней там дзікае віно.
І там гучней гудуць факстроты,
А мне, мой дружа, ўжо даўно
Абрыдла ўсё, нат воблік цноты...

Шчаслівы я, што тут жыву.
Й за гэты край вясной вялікай,
Быць можа, знімуць галаву,
Праколюць цела вострай пікай.






Дзе песні новых дзён гудуць
І сцяг праменіцца Саветаў –
Другія творцы павядуць
Наш край да ленінскае мэты...

І ты, быць можа, скажаш ты,
Што любіш ты, і не забудзеш,
І ўсіх зямных краін сады
Мне прынясуць вянкі на грудзі...

І зноўку пройдзе караван,
І бераг мора будзе біцца.
Жыццё, як мора-акіян...
А лёс мой – віхар-навальніца...

Што ж мне Італіі цяпло?
І той спакой, і сонца поўдню?..
Пад родны скрып тваіх калёс
Я песні родным сном напоўню!

*1929*

## *Урывак з "Маёй паэмы"*

***

Ноч лягла на менскія бульвары,
Чорным вокам
Падміргнула мне.
Дальні плач надломанай гітары –
Гэта крык
Аб раненай вясне.

Дарагія,
Блізкія чарцяты,
Сёння я паэт
Ці не паэт?

Плачуць клёны ў золата закату,
Скача нечый згублены шкілет.

Ўспомніў я забытае каханне.
Кожны з нас
І верыў
І любіў.
У душы, як ў кратэры вулкана,
Нёс агонь
І песні
І журбы.

І таму пад выстралаў раскаты,
Калі свет
Ўзнімаўся на дыбы,
Знаў я песню вольнай
І багатай,
Поўнай волі,
Шчасця, барацьбы.

Тыя дні пранесліся навалай,
Намялі магіл і курганоў.
І калі сягоння
Сумна стала,
Мы не кроў цалуем,
А віно.

*1929*

* * *

Я ўспамінаю дні змагання,
Крывавы выбух навальніц,
На дарагія сэрцу раны
Нясу бальзам
Сваёй вясны.
Шчэ так душа не расцвітала,
Зялёны сад



Маіх надзей...
Я быццам вырваў суму джала
З сваіх
Ўстрывожаных грудзей.

Заціхлі трубы, спяць гарматы.
Давайце песню – гімн лясоў,
Хай, юнай мудрасцю
Багаты,
Ён пройдзе роднай паласой.
Я доўга буду,
Да бяскраю
Ўпіваць агонь сваёй тугі,
Каб над маім
Ўваскрэсшым краем
Ніхто не смеў узняць рукі!

За кожны крок маёй айчыны,
Ў цяжкія дні, паўстанняў дні,
Я з сэрцам раненага сына
Расстрэльваць буду
Спячых сны.

І з гордай верай ў перамогу,
Згубіўшы дум сваіх
Крыжы,
Выходжу сам я на дарогу
Ісці, змагацца, верыць, жыць:
І калі ўспомніў мімаволі

Крывавы выбух
Навальніц, –
Я гавару: за свет... за волю
Аддам бальзам свае
Вясны!

*1930*

***

Цені бягуць другія,
Сніцца сэрцу другі экран…
Дзе ж вы, мае дарагія,
Дзе ваш раскінуўся стан?

Песні спяваюць навокал.
Вецер звініць і звініць.
Мабыць, яшчэ далёка,
Мабыць, аб іх мне не сніць.

Вочы туман засцілае.
Ў гэтым тумане вясна…
Нейчая зорнасць былая,
Нейчая казка адна.

Ў казках, і ў песнях, і ў думах,
Ў шуме і звоне дарог
Сэрца, сагрэтае сумам,
Роднаму краю збярог…

Край туманоў ды балотаў…
Рэчак, азёраў, лясоў –
Скінь сваю ціхую цноту…
Крыкні: гранітнай красой…

Гэты мне голас знаёмы.
Хто ж яго тут абыграў?..
Можа, магіла былому –
Скрып атрупелых дзвярэй?

Новаму, можа, пажары
Грозных і злых навальніц?
Новых і новых аварый
Радасных, сочных зарніц?







Там вось, мае дарагія…
Там за гарамі гадоў
Песні складу я другія
Чыстых, жывых гарадоў.

*1930*

***

Я помню, – яблыні цвілі,
І вецер залівайся смехам
Ў расой апырсканай далі.

Пад месяцам гарэлі стрэхі
Халодным колерам сваім.

Палала ноч і вёска спала,
Спявалі ціха паплавы,
А мне чагосьці не ставала.

Я абыходзіў сад вакол
І вуснамі кранаўся кветак,
Якія колісь рваў рукой
Другі, асмеяны паэта.

Усё праходзіць чарадой,
І ўсім даецца сум і радасць,
І ўсе спазналі горыч здрады,
Калі стыкаліся з бядой.

Я ведаў ўсё. Ўсяму цану
Спазнаў за словамі чужымі,
І я нікога не кляну,
Не называю й дарагімі.
Шляхі вялі мяне ў туман,

А я імкнуўся да сузор'я.
Й таму мо хцівасці няма
Ў маіх нявыказаных творах.

Прайшлі жалезныя гады
І ўзварухнулі ў сэрцы нешта,
І я сягоння, як заўжды,
Сябе выказваю да рэшты.

Інакшы сад цвіце кругом,
І нашы песні іншым складам
Вядуць да новых берагоў
Свае ударныя брыгады.

Які далёкі, грозны шлях,
А колькі ж вёснаў ападала!
І мне чагось (ну, проста жах!)
Ўсё не стае, як не ставала.

*1931*

* * *

Бывай, вясна мая, бывай.
Агнём любві тваёй сагрэты,
Не адцвіту я пустацветам,
Перада мною ж не дрыгва,
Мае сябры, мае паэты.

Я знаю, – ў кожнага ёсць блізкі,
І для мяне быў блізкім хтось,
Хто кожны дзень, як у калысцы,
Маю журбу над светам нёс.

Таму й схіляюся у пояс
Ўсяму, што звязана з вясной,
І юных дум адчай і боязь
Я узнімаю, як набоі,
Калісь гартаваныя мной.

*1933*







# На пераломе жалеза і песні

*Жыць нам прыйшлося вялікімі днямі*
*На пераломе жалеза і песні.*

**(Максім ТАНК)**

Іх расстралялі, як гэта звычайна робяць каты, на досвітку 29 кастрычніка 1937 года. Іх брацкая магіла, відавочна, знаходзіцца (каты звычайна не хочуць пакідаць слядоў) у прыгарадным лесе, які з часам стаў мінскім паркам імя Чалюскінцаў. За дзень да гэтага іх, усіх дзевяцярых, "судзіла" (ды хіба можна назваць гэта судом!) выязная сесія Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР. Кожнаму на разгляд справы было адведзена роўна 15 хвілін – столькі, каб хапіла адно спытаць, ці прызнае сябе падсудны вінаватым, і зачытаць стандартнае абвінавачванне ў прыналежнасці да "аб'яднанай антысавецкай, нацыянал-фашысцкай, тэрарыстычнай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі, якая ставіла сабе за мэту адарваць Савецкую Беларусь ад СССР і ўсталяваць пры дапамозе інтэрвенцыі фашысцкую дыктатуру". Ды яшчэ закончыць гэтае абвінавачванне фразай, што не пакідала ніякай надзеі падсуднаму: "Прысуд канчатковы, абскарджанню не падлягае і, згодна з Пастановай ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 года, павінен быць неадкладна выкананы".

У той чорны дзень у гісторыі беларускай літаратуры ахвярамі сталінска-бальшавіцкага этнацыду зрабіліся:

**Анатоль ВОЛЬНЫ**, паэт, празаік, драматург (у тым ліку кінадраматург), удзельнік грамадзянскай вайны, адзін час – работнік апарату ЦК ЛКСМБ;

**Платон ГАЛАВАЧ,** вядомы празаік і грамадскі дзеяч, які ў свой час займаў адказныя пасады: першага сакратара ЦК ЛКСМБ, члена ЦК КПБ і ЦВК БССР, намесніка наркома асветы БССР, рэдактара газеты "Чырвоная змена", часопісаў "Маладняк" і "Полымя";

**Алесь ДУДАР,** паэт, крытык, перакладчык, адзін з заснавальнікаў "Маладняка", аўтар верша "Пасеклі край наш напалам...", за які адбыў 3-гадовую высылку;

**Міхась ЗАРЭЦКІ,** празаік і драматург, творчая спадчына якога, у тым ліку раман "Сцежкі-дарожкі", не страціла мастацкай вартасці да нашага часу (нядаўна выйшаў чатырохтомны збор яго твораў);

**Васіль КАВАЛЬ,** арыгінальны празаік, аўтар апавяданняў і аповесцяў;

**Васіль СТАШЭЎСКІ,** драматург і празаік, удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў;

**Ізі ХАРЫК,** выдатны яўрэйскі паэт, які пісаў на мове ідыш, рэдактар мінскага часопіса "Штэрн" ("Зорка");

**Міхась ЧАРОТ,** паэт, празаік, драматург, аўтар шырока вядомай у свой час рэвалюцыйна-ўслаўленчай паэмы "Босыя на вогнішчы" і сцэнарыя першага беларускага мастацкага фільма "Лясная быль", удзельнік грамадзянскай вайны, член ЦВК БССР, рэдактар газеты "Савецкая Беларусь"...

Я не назваў самага маладога з дзевяцярых (хоць і самыя "старыя" з іх – В.Сташэўскі і М.Чарот – толькі-толькі перасягнулі саракагадовы рубеж), дваццацівасьмігадовага Валерыя Маракова: пра яго ў нас пойдзе асноўная гутарка. Судзілішча над ім пачалося – без сведкаў і адваката – 28 кастрычніка 1937 года ў 19 гадзін 15 хвілін, скончылася ў 19 гадзін 30 хвілін. Падсудны вінаватым сябе не прызнаў, заявіў, што асобаў, якія на яго нагаварылі, ведаў асабіста, але чаму яны гэта зрабілі – вытлумачыць не можа; у сваім апошнім слове ён прасіў "суд" паверыць, што ніякай контррэвалюцыйнай дзейнасці ён не вёў, і паставіцца да яго спагадліва.

О святая наіўнасць!

Бальшавіцкая рэвалюцыя, як і ўсялякая іншая, папярэдне знішчыўшы не толькі сваіх ворагаў, але і незычліўцаў, пачала з'ядаць уласных дзяцей. Няўжо каты (назавём прозвішчы членаў выязной "тройкі", што прыехалі з Масквы і якім развязаў рукі сам Сталін: Матулевіч, Маліноўскі, Заранаў) маглі пашкадаваць ахвяру? Няважна, гаварыў ці не гаварыў В.Маракоў у свой час, як пра тое сведчылі сексоты, што "партыя і савецкая ўлада вядуць у адносінах да БССР русіфікатарскую палітыку, што ў БССР няма сапраўднага развіцця нацыянальнай культуры, што калектывізацыя вядзе беларускі народ да голаду і разарэння". Хутчэй за ўсё, гаварыў, не мог не гаварыць хаця б у вузкім коле, бо не мог не бачыць, што рабілася навокал. Аднак справа нават не ў гэтым. Не было б такой зачэпкі, з'явілася б іншая. Бо планава, па загаду зверху праводзілася суцэльная дэбілізацыя грамадства, вынішчалася духоўная эліта нацыі. А пісьменнікі – у першых шэрагах гэтай эліты. Таму і вынішчалі нават камуністаў, тых, хто ўсталёўваў, у тым ліку і са зброяй у руках, савецкую ўладу, хто арганізоўваў, а пасля і ўзначальваў камсамольскую арганізацыю рэспублікі (якая іронія лёсу: камсамольскіх лідэраў ГАЛАВАЧА і ДУДАРА расстралялі ў дзень нараджэння камсамола!). Таму і знішчылі адразу дзевяцярых. А назаўтра, 30 кастрычніка 1937 года, – яшчэ чатырох: Уладзіслава ГАЛУБКА, Янку НЁМАНСКАГА, Тодара КЛЯШТОРНАГА, Юрку ЛЯВОННАГА. Увогуле ж, з больш чым двухсот беларускіх пісьменнікаў да канца 30-х гадоў засталося ўсяго каля сарака. Ды і тых, у тым ліку Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Кандрата Крапіву, Петруся Броўку і іншых, тагачасны першы сакратар ЦК КПБ Панамарэнка ў канцы 1938 г. вырашыў пусціць у распыл, каб тым самым "закрыць беларускае пытанне". На шчасце, не атрымалася: "план" па дэбілізацыі быў значна перавыкананы, за пісьменнікаў заступіўся сам Сталін...

Аднак вернемся да Валерыя Маракова, яго жыццёвай і творчай біяграфіі. За свой дзесяцігадовы творчы шлях (1925–1935) Маракоў паспеў выдаць усяго чатыры паэтычныя кнігі. І сёння наш духоўны свет можа і павінна ўзбагаціць творчасць таго, хто

*У казках, і ў песнях, і ў думках,*
*У шуме і ў звоне дарог*
*Сэрца, сагрэтае сумам,*
*Роднаму краю збярог.*

Умоўна творчасць паэта можна падзяліць на два перыяды: тое, што напісана да 1930 года, і творы 1930–1935 гадоў. Мара-

коў – паэт выразнага лірычнага таленту, што арганічна лучыўся з яго спакойным, ураўнаважаным, далікатна-цнатлівым, нават сарамяжлівым характарам, з яго дабрынёй, чуласцю, справядлівасцю. Думаецца, усе гэтыя якасці паэта і чалавека найбольш плённа і арыгінальна выявіліся ў першы перыяд яго творчасці, калі грамадская атмасфера яшчэ больш-менш дазваляла раскрыцца кожнаму таленту па-свойму, па-асабліваму. Паэт у гэты час належаў да літаратурных арганізацый “Маладняк” і – з канца 1928 года – БелАПП, якая на першым часе (да 1930 г.) нямала рабіла па ідэйным выхаванні літаратурнай змены, стварэнні так званай пралетарскай літаратуры, пашырэнні сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі народаў СССР і замежных краін і не была асабліва прасякнута пазнейшай вульгарна-сацыялагічнай агрэсіўнасцю, нецярпімасцю да іншадумцаў. На гэты час выпалі як першыя вершаваныя практыкаванні, так і настойлівая паэтычная вучоба паэта. Выдатныя прыродныя здольнасці, выключнае адчуванне моўнага рытму, яскравае метафарычнае мысленне – усё гэта садзейнічала таму, што вершы лёгка і нязмушана складаліся ў галаве юнага паэта (ён літаральна не паспяваў запісваць іх на паперы, амаль ніколі не выпраўляў іх). Прычым вершы складаліся ў любых умовах: у часе мулярскай працы, у дарозе, на лекцыях, у студэнцкім інтэрнаце...

Маракоў літаральна ўварваўся ў беларускую паэзію, уварваўся адразу і напорыста, у юнацкім шаснаццацігадовым узросце. Спіс яго публікацый за 1925 год – год першай публікацыі – налічвае ажно два дзесяткі пазіцый. І гэта публікацыі не ў нейкіх шматтыражках ці раёнках, а ў рэспубліканскіх газетах “Савецкая Беларусь”, “Звязда”, “Беларуская вёска”, “Чырвоная змена”, “Беларускі піянер”, часопісах “Малады араты”, “Чырвоны сцяг” і інш. У 1926 годзе да гэтых выданняў далучыліся салідныя літаратурна-мастацкія часопісы – “Полымя” і “Маладняк”.

У зборнік “Пялёсткі” ўвайшлі вершы, напісаныя пераважна ў 1926 годзе і апрабіраваныя на старонках перыядычнага друку. Што вызначала гэтыя творы? Калі сказаць коратка – настрой маладой радасці. Радасці ад усведамлення таго, што ты малады і дужы, што вакол роднае, сваё, што ты любіш людзей і цябе любяць, што ты кахаеш і цябе кахаюць, што... Ды хіба мала з чаго можна радавацца падлетку, адгароджанаму бацькоўскімі клопатамі ад цяжкасцяў і складанасцяў жыцця, ды яшчэ калі радасць памнажаецца тым, што яна арганічна выліваецца ў вершаваныя радкі. Настроем заліхвацкай радасці ў асноўным прасякнута і другая кніжка Маракова – “На залатым пакосе”, якая выйшла ўслед за першай і якую склалі вершы, напісаныя пераважна ў 1927 г. “Радасць звоніць у грудзях”, – усклікае паэт (верш “Вясной”). Ён хоча “песняй радасці і волі //Праслзвіць свету Беларусь” (“Цяпер ў грудзях другія словы...”). “Наша радасць не згіне у цьме. Наша песня надзей і юнацтва”, – запэўнівае ён сябе і іншых у праграмным вершы “Паэтам”. Гэтым самым Маракоў лучыўся з агульным настроем усёй маладнякоўскай паэзіі, у многім па-ясенінску бравbooднай (“дзён разгул”, “пад горлам зіхацяць нажы”), па-маладому бяздумна-радаснай (“усе трывогі – глупства”). “Мы дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны, //Ў дзень радасці кіпучае на свет з’явілісь мы”, – бадзёра ўсклікаў калега па літаратурнаму цэху і сябра Маракова Алесь Дудар (мы сёння добра ведаем, якой “чорнай” радасцю былі прасякнуты падзеі Кастрычніка і пачатай ім грамадзянскай вайны). “Стары бор з карэннем выламан. Сумны шум яго навекі змоўк”, – задаваў тон у паэтычным асэнсаванні новай рэчаіснасці заснавальнік “Маладняка” і яго духоўны бацька Міхась Чарот.

Праўда, нават у “Пялёстках”, а яшчэ больш – у зборніку “На залатым пакосе”, за знешняй бравадай пачынаюць заўважацца сталая, не па гадах развага, матывы суму, тугі. Як і іншым маладнякоўцам, яму не заўсёды ставала вопыту, а то – і часу вылучыць у творчасці сваіх настаўнікаў галоўнае, істотнае, аддзяліць яго ад часовага, другараднага, непатрэбнага. Але ці можна ўсё гэта назваць “культываваннем ясеніншчыны”, “упадніцтвам”, “замыканнем у сваю асобу”, ды яшчэ прычыну гэтага бачыць у “мяшчанскім сацыяльным асяроддзі”, “дробнабуржуазнай бесхарактарнасці”, а то і ў наўмыснай падтрымцы “шкодных анарха-дэкадэнцкіх настрояў, чужой і варожай нам філасофіі “тугі і завядання”?

Гэта былі найперш уплывы ў галіне мастацкай формы (вобразнасць, вершаскладанне, рыфма). І часам – вельмі станоўчыя ўплывы. У першай палове творчага шляху ў Маракова, бадай, не заўважаецца голай рыторыкі, прасталінейнага ілюстравання нейкіх фактаў і з’яў грамадскага ці асабістага жыцця. Вялікая эмацыянальнасць, душэўная адкрытасць, вобразная шчодрасць і

неардынарнасць, шчырая спавядальнасць – гэтыя рысы пераважалі ў той час у яго паэзіі.

Неяк літаратуразнавец М.Піятуховіч сказаў пра Маракова: ён чуйны, як мембрана. Паэт магутнага лірычнага таленту, аўтар "Пялёсткаў" адгукаўся нават на самыя слабыя вібрацыі грамадскай атмасферы. Праўда, адгукаўся своеасабліва, як, зрэшты, і адгукаецца сапраўдны лірык рамантычнага складу: рэагаваў на тыя ці іншыя падзеі не непасрэдна, а апасродкавана, праз сістэму настраёвых вобразных асацыяцый. Мембрана не адрознівае крыніцы гукавых хваляў, для яе важныя толькі сіла гуку і вышыня тону...

Каханне, радзіма, прырода – асноўныя тэмы лірыкі Маракова 20-х гг., дзе ён паказаў сябе найарыгінальней і наймацней.

Паэзія Маракова з аднолькавай мембраннай чуйнасцю рэагавала як на станоўчыя працэсы ў тагачасным беларускім грамадстве (палітычная і сацыяльная актывізацыя ніжэйшых слаёў грамадства дзякуючы распачатай Леніным новай эканамічнай палітыцы (НЭПу), бясспрэчныя дасягненні "культурнай рэвалюцыі", пэўныя поспехі ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці, адраджэнні беларускай культуры і іншым), так і на адмоўныя. Менавіта ў 1926 годзе адбыўся першы арышт беларускага пісьменніка – Францішка Аляхновіча, прайшоў суд над настаўнікамі і слухачамі Слуцкіх курсаў беларусазнаўства (г.зв. "лістападаўшчына"), распачаліся нападкі на арганізатараў і ўдзельнікаў Канферэнцыі па рэформе беларускіх правапісу і азбукі, быў забаронены спектакль па п'есе Янкі Купалы "Тутэйшыя" і звольнены з пасады ўсе супрацоўнікі БДТ-1 (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), якія мелі дачыненне да ўвасаблення гэтай п'есы на сцэне. На 1926 год прыпадае і першае адкрытае выступленне рускіх чарнасоценцаў супраць беларускай мовы – публікацыя ў газеце "Савецкая Беларусь" (ад 16 мая) ананімнага беларусафобскага артыкула "Вражда из-за языка" з абражальнымі выпадамі на адрас беларускай мовы і яе носьбітаў, што, у сваю чаргу, выклікала вострую інвектыву Янкі Купалы "Акоў паломаных жандар...", скіраваную супраць вялікадзяржаўніцкіх шавіністаў, якім "не па нутру" быў пераклад народнай адукацыі і дзяржаўнага справаводства на беларускую мову. Увогуле антыбеларуская і антынародная палітыка партыйных функцыянераў сталінскага кшталту выклікала ў 1926 годзе цэлую






буру ў сэрцы народнага паэта Беларусі (вершы "І прыйдзе", "Праз гультайства", "Царскія дары", "Каб...", "Ёсць жа яшчэ..." і інш.). Пасля гэтай "буры", як мы ведаем, для яго наступіла паэтычнае зацішша: у 1927 годзе Янка Купала не надрукаваў ніводнага верша, у наступныя два гады – усяго толькі па два вершы.

Несумненна, калі не ўсё, дык многае з гэтага Маракоў ведаў, бачыў на ўласныя вочы, пра многае здагадваўся. І "грамадскасць", набліжэнне да "сённяшняга", да чаго настойліва заклікалі яго крытыкі, усё часцей увасаблялася ў яго сэрцы ў матывах грамадзянскага суму. Праўда, гэта быў найперш радасны сум, ці сумная радасць – усё ж "маладыя гады, маладыя жаданні" (М.Багдановіч), а таксама маладнякоўская настроенасць на радасць рабілі сваё.

Чысты лірык, Маракоў адчувае нешта нядобрае, што робіцца ў грамадстве. Што? Канкрэтызаваць і персаніфікаваць небяспеку ён яшчэ не можа. Але і не хоча "так рана ў песнях дагараць": "Я йшчэ жыў так мала і так мала пеў, //Ну дык дайце ж, братцы, мне пажыць цяпер" ("Жаданне"). Ды "братцы" спакойна жыць не давалі, патрабавалі ўсё той жа "грамадзянскасці": класавасці, сацыяльнасці. Нават такі ўдумлівы і вопытны літаратуразнавец, як Максім Гарэцкі, у нарысе «"Маладняк" за пяць гадоў: 1923–1928"», спачатку высока ацаніўшы Маракова ("вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю і гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне"), робіць паэту закід: "у яго, на жаль, мала сацыяльнага зместу...". І паступова Маракоў, насуперак рамантычна-лірычнай прыродзе свайго таленту, пачаў "пераломвацца". Гэта можна сказаць і пра "Аднаўленую зямлю" (1928), і пра "Маю паэму", і пра паэму "Муляр" (абедзве – 1929). Аўтар імкнецца кожнай з іх надаць і сюжэтнасць, і сацыяльнасць, але гэта яму відавочна не ўдаецца. Лепшыя старонкі паэм – гэта надзвычай шчырыя споведзі-прызнанні лірычнага героя паэта, радкі, прысвечаныя роднаму краю – Беларусі. Як, у прыватнасці, у паэме "Аднаўленая зямля" з яе паэтычным заклікам: "Руйнуй мінулых дзён галгофу, // Дзе сэрца краю Мураўёў //На жах, на крыўду ўсёй Еўропы // Мячом Расіі пракалоў"...

З вершаў, з паэм "Аднаўленая зямля" і "Таварыш Нюрын", напісаных у час "пераломвання", пераважна ў 1928 – 1930 гг.,

склалася трэцяя кніга паэта – "Вяршыні жаданняў". Здаецца, і аўтар, і рэдактар на гэты раз улічылі ўсё: выбралі з ранейшых публікацый найбольш сацыяльна выразнае, па-пралетарску класавае, замянілі або падправілі – выходзячы з тых жа "класавых" пазіцый – асобныя радкі першых публікацый, "саветызавалі" назвы некаторых твораў (паэма "Муляр" ператварылася ў "Таварыш Нюрын", твор без назвы стаў вершам "Камсамолу Мазыршчыны") і г.д. Аднак, зразумела, нельга было адразу цалкам змяніць прыроду таленту паэта, арганічнасць яго светаадчування: рамантычную неакрэсленасць і шматзначнасць вобраза, настроенасць на суб'ектыўна-лірычную справядлівасць (гэта грэбліва называлася "капаннем ва ўласнай душы"), пэўны душэўны разлад паміж марай і явай, вёскай і горадам, прыродай і гарадскім брукам і інш.

На думку М.Лужаніна, "паэт яшчэ на раздарожжы", для яго яшчэ характэрная "хісткасць светапогляду". Праўда, у "Вяршынях жаданняў", у адрозненне ад ранейшых зборнікаў Маракова, можна "заўважыць сугучнасць класавым пачуццям пралетарыята", яны "сведчаць пра шчырасць Маракова"; хоць "ранейшыя зборнікі Маракова больш апрацаваны", ды і гэтая кніжка пакідае за ім "права называцца адным з моцных паэтаў нашае маладой літаратуры". Ужо не шкадаваннем, а радасцю асветлена рэцэнзія на тыя ж "Вяршыні жаданняў" Эд.Галубка ("Полымя". 1931. № 1). У двух папярэдніх зборніках паэта часта заўважаліся "самакапанне ў душы", "ноткі песімізму", уплывы "Ясеніна і іншых упадніцкіх паэтаў". Цяпер жа, у выніку "дзейнасці БелАППу па перабудове літаратуры на новыя рэйкі", "пад уплывам нашага сацыялістычнага будаўніцтва", Маракоў "сам адмяжоўваецца ад таго "балота", якое ён "славіць пачынаў", і "накіроўваецца ў бок пралетарыяту". Крытык перакананы, што "Вяршыні жаданняў" з'яўляюцца "моцным доказам таго, што пісьменнік больш не вернецца да апявання нуды і не будзе даваць больш месца разважанням аб тым, што Маракоў пагрузіўся ў тэмы абывацельшчыны і мяшчанства, у перадачу іх настрояў і ідэй". "Малады паэт стаіць на правільным шляху", – радасна падагульняе свае разважанні крытык (дарэчы, сын вядомага драматурга і тэатральнага дзеяча Уладзіслава Галубка).

Падобныя развагі ў той час былі ўжо не бяскрыўднымі, яны браліся пад увагу ідэалагічнымі службамі ВКП(б), НКУС. Не забудзем, што якраз на 1930 г. прыпадаюць першыя найбуйнейшыя калектыўныя расправы над творчай і навуковай нацыянальнай інтэлігенцыяй – арышт каля 100 буйнейшых беларускіх пісьменнікаў, вучоных, палітыкаў (А.Бабарэка, М.Гарэцкі, У.Дубоўка, Я.Пушча, В.Ластоўскі, Я.Лёсік, С.Некрашэвіч, У.Пічэта, А.Баліцкі, Д.Прышчэпаў і інш.), абвінавачаных у прыналежнасці да прыдуманай у нетрах НКУС арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі" (на год раней за прыналежнасць да міфічнага "Саюза вызвалення Украіны" асудзілі дзесяткі ўкраінскіх нацыянальных дэмакратаў). Менавіта ў канцы 1930 года, не вытрымаўшы тагачаснай палітычнай атмасферы, зрабіў спробу самагубства Янка Купала... Таму вельмі пагрозліва-папераджальна прагучалі словы тагачаснага загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КП(б)Б А.Канакоціна, які ў адным са сваіх выступленняў, а пасля і ў друку, выказаў не толькі сваю думку: "Ёсць у нас і таварышы, якія блукаюць у нетрах упадніцкай лірыкі, Маракоў, Кляшторны, якія ніякім чынам не могуць узняцца на вышыню тых задач, якія стаяць перад пралетарскай літаратурай". Прычым гэта было сказана ў кантэксце пагромнага "антынацдэмаўскага" выступлення, дзе нават пра Янку Купалу і Якуба Коласа гаварылася як пра пісьменнікаў, карані творчасці якіх "моцна ўраслі ў нашаніўскі перыяд і не меней моцна ўраслі ў перыяд абслугоўвання акупантаў кайзераўскіх і акупантаў польскіх"...

Валерый Маракоў не мог не ўлічваць грамадскую атмасферу, палітычную сітуацыю, якую ён мембранна вычуваў і выдатна выказаў.

Ад глабальнай крытыкі паэт нейкі час спрабуе схавацца за ўдзелам у ТАВІЗе (абрэвіятура "Таварыства аматараў выпіць і закусіць" – тагачаснай літаратурнай багеме Мінска). У 1931 годзе паступае на літаратурна-творчае аддзяленне Мінскага педінстытута (скончыў у 1934 г.; цяпер Дзяржпедуніверсітэт імя Максіма Танка). У друку з'яўляюцца паведамленні, што Маракоў здаў у друк зборнік выбраных вершаў, празаічную аповесць, кнігу перакладаў кітайскага пралетарскага паэта Эмі Сяо, піша драму "Ксеня Лабанок", "якая адлюстроўвае барацьбу за кадры", лібрэта оперы (нічога з гэтага не ўбачыла свету). Што да арыгінальнай

паэтычнай творчасці, то пісьменнік насуперак сваёй творчай натуры крок за крокам адступаў ад лірыкі спавядальнай у бок вузкасацыяльнай і вершаванага эпасу. Ён пачаў пісаць творы класава арыентаваныя ("Ленін", "Камісар", "Дарогаю ў штаб"), расцягнутыя вершаваныя аповеды пра Асінбуд ("Да тысячы новых тваіх Асінбудаў") і запалкавую фабрыку ("Першы дзень на запалкавай фабрыцы"), новыя заводы ("Адтуль, дзе палыхаюць домны") і калгасы (незакончаная паэма "Зямля бунтуе"), пра ілжэўдарніка Абрамава ("ілжэўдарнік Абрамаў з фабрыкі "Дзвіна"), вынаходніка Капусціна ("Вынаходніцтва майго сябра Капусціна"), спартыўныя спаборніцтвы ("Адна партыя ў валейбол")... У вершатворчасць Маракова прыйшлі, як і патрабавалі некаторыя крытыкі, пралетарская класавасць, канкрэтыка, рэалізм. У той жа час пачала знікаць... сама паэзія. Голая рыторыка, барабанная траскатня ўсё больш і больш чуюцца ў радках, зробленых на гэты раз "пад Маякоўскага", нават лесвічкай напісаных.

І ўсё ж нішто не магло застрахаваць ад новых нападак вульгарных сацыёлагаў, што практыкаваліся па лініі палітычнага даносу.

У 1934 годзе Маракоў заканчвае педінстытут, едзе настаўнічаць у Бабруйск. Знаходзячыся "пад каўпаком", усё ж многае друкуе з уласных вершаў і перакладаў (з А.Гідаша, М.Дудзіна, М.Ціханава, П.Тычыны, С.Стальскага). Вершы ў асноўным адпавядалі духу часу: "Майскім маршам", "Героі краіны Саветаў", "Памяці тав. Кірава", "За край камуны". У рытме гімна СССР ён нават піша оду партыі, Сталіну і "моцнаму бальшавіку тав. Гікала" (з эпіграфа твора) – верш "Слава Беларускай Савецкай Рэспубліцы". Аднак нічога ўжо не дапамагло: пачынаўся планавы "адстрэл" нацыянальнай творчай інтэлігенцыі. У сакавіку 1935 года яго першы раз арыштоўваюць, трымаюць у турме два з паловай месяцы і... выпускаюць. Але амаль цалкам адбіваюць ахвоту да пісання вершаў і друкавання. Трэцяга лістапада 1936 года арыштоўваюць другі, і апошні, раз. І ўжо не выпускаюць...

Фінал нам вядомы.

**Вячаслаў РАГОЙША**







# "...Вінаватым сябе не прызнаў"

Які́м бы жорсткім і няўмольным ні быў лёс да Валерыя Маракова, але хоць у нечым ён зліта́ваўся. Калі ў многіх пісьменнікаў – ахвяраў таталітарызму, нават асобныя публікацыі згубіліся, канулі ў Лету, не кажучы ўжо аб рукапіснай спадчыне, дык у яго захаваліся ўсе чатыры зборнікі, што выйшлі пры жыцці. Дастаткова завітаць у аддзел беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, каб праз якія паўгадзіны ўзяць у рукі кніжачкі, якія, здаецца, сагрэты цяплом самога сэрца аднаго з самых цікавых і складаных нашых паэтаў дваццатых – трыццатых гадоў.

Паэтам В.Маракоў быў па сваёй сутнасці. Лірычнасць, песеннасць яго натуры адразу кідалася ў вочы. Гаваркі, шчыры, непасрэдны... Алесь Звонак згадвае: "Вось і зараз стаіць перад вачыма дужая постаць маладога зграбнага хлопца з шырокімі плячыма, з кучаравымі светлымі валасамі, з блакітнымі яснымі вачыма, у якіх заўсёды свяціліся чалавечая дабрата, добразычлівая ўсмешка і крыху сарамлівая наіўнасць".

Ці не гэтыя якасці прыхінулі паэта-юнака да самога Янкі Купалы? Хто-хто, а дзядзька Янка добра ведаў цану сапраўдным дружбе і сяброўству. Ён жа, па словах С.Шушкевіча, "Маракова акрыляў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі. Вядомыя пісьменнікі старэйшага і малодшага пакаленняў – Міхась Чарот, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Алесь Дудар, Васіль Сташэўскі, Максім Лужанін – прыхільна ставіліся да творчасці Валерыя Маракова і былі звязаны з ім шчырым і моцным сяброўствам".

У гэтай атмасферы сардэчнасці, сапраўднай творчай прыязнасці і ўзаемаразумення, калі кожны шчыра і адкрыта радуецца поспехам сябра, і з'яўляліся вершы В.Маракова. На пачатку свайго мастакоўскага шляху малады паэт, як і іншыя ягоныя калегі па пяру, адчуваў здзіўленне перад новым светам і гэтае захапленне імкнуўся ўвасобіць у творах. Можна перачытаць некалькі яго ранніх вершаў, каб упэўніцца, што паэзія В.Маракова развівалася і сталела ў рэчышчы агульных пошукаў творцаў 20-х гадоў.

Твор, якім адкрываецца зборнік “На залатым пакосе”:

*З ценямі думкі, а з думкамі цені*
*Ўдаль па шпалерах бягуць.*
*Нехта стаіць прад зарой на каленях,*
*Выпіўшы сэрца разгул.*

*Месяц чырвонцам скаціўся у травы,*
*Ціш, хоць душу вынімай, –*
*Сёння мне песняў, пачуццяў і славы,*
*Тых, што ў нікога няма!*

У наступным вершы – нешта падобнае: “Хрыпла гудок прагучаў, мірна схіліліся нівы. //Ў цемры асенніх начэй жыць маладым і шчаслівым!” В.Маракоў нічога не хацеў браць напавер. Ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Яму самому хацелася прайсці там, дзе ўжо прайшлі іншыя, каб адчуць тое самае, што адчувалі яны. Невыпадкова ў адным з вершаў ён прызнаваўся: “Мне хочацца любіць, задумацца і верыць, душу з другімі душамі зліваць”.

Першыя тры зборнікі В.Маракова напоўнены пастаянным жаданнем (няхай часам яно выяўляецца і апасродкавана) любіць усё навокал. І, як само сабой, гучалі ў яго творчасці ясенінскія матывы. Як у гэтым вершы:

*О, вясна!..*
*І бяссонне ночы:*
*Сціх у сэрцы*
*Юнацтва разгул,*





*Мо затым, што нічога не хочу*
*І нікога спаткаць не магу.*

Знешне прыхаваны, бо за “жорсткай рамансавасцю” вымалёўваецца і сацыяльнасць, калі паэт згадвае тых, у каго “у змаганні за хлебам адцвітае жыццё і вясна”. А гэта ўжо – “кабацкі” Ясенін:

*Маркітанка, песня ты ці казка,*
*Ці прыгожай радасці прыбой...*

У творчым наследаванні традыцый цудоўнага паэта, зразумела, нічога благога няма. Але рэч у тым, што В.Маракоў нярэдка страчваў меру. Праўда, гэта не адсутнасць належнага мастацкага густу, а вынік маладосці аўтара, калі хочацца абавязкова звярнуць на сябе ўвагу. Былі ў творчасці В.Маракова і іншыя выдаткі – празмерная прывязанасць да будняў. Але ў гэтым не яго віна. Як і іншыя паэты, ён, кажучы словамі У. Маякоўскага, нярэдка мусіў “наступаць на горла ўласнай песні”. Дарэчы, і пад Маякоўскага таксама пісаў. Гэта адчуваецца ў кнізе “Права на зброю”, у якой асабліва моцныя сацыяльныя матывы:

*Чалавек –*
*гэта вам не мумія, –*
*ўзяў са склепа і выштурхнуў,*
*чалавек –*
*гэта сад*
*з залатымі думкамі,*
*дзе па жылах праходзіць*
*блакітны агонь.*

Інтанацыя ўзмацняецца, набываючы ўсё больш выкрывальны пафас, дае знаць пра сябе нават “ворагаманія”.

Без перабольшання: у тым, што В.Маракоў так часта кідаўся ў крайнасці – то сентыментальная рамансавасць, то паэтычныя агіткі, часам пазбаўленыя паэзіі – немалая віна і тагачаснай крытыкі. Яна ж, аддамо ёй належнае, пастаянна трымала яго ў полі свайго зроку. Іншая справа, *на што* і *як* арыентавала. Асабліва перапала В.Маракову ад Міхася Клімковіча, які тады быў

старшынёй арганізацыйнага камітэта па стварэнню Саюза пісьменнікаў, а гэта значыць, што яго выступленне трэба было разглядаць не толькі як асабістае меркаванне старэйшага таварыша, а ў пэўнай ступені – і як афіцыйную думку. Дарэчы, рэцэнзія М.Клімковіча «Пра кніжку В.Маракова "Права на зброю"» з'явілася ў газеце "Літаратура і мастацтва" (№2 за 12 студзеня 1934 года) невыпадкова. У гэтым жа нумары была змешчана "Пастанова аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б па выніках і бліжэйшых задачах правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР", у 8-м раздзеле якой канстатавалася: "Пры значным росце беларускай савецкай літаратуры і мастацтва і пісьменніцкіх кадраў на гэтым фронце асабліва выразна выявіўся ўплыў буржуазна-нацыянальных элементаў і іх агентуры ў партыйных радах". Гэтым жа духам прасякнуты і перадавы артыкул – "Праграма бальшавіцкай работы". Чаго вартае хаця б яго завяршэнне: "Гістарычная пастанова пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б па нацпытанню з'ўляецца праграмай бальшавісцкай работы, якая будзе ажыццёўлена рабочым класам і працоўнымі БССР пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам тав. ГІКАЛА". Зноў-такі, у гэтым нумары апублікаваны і артыкул Я.Браншэйна "Узмоцнім пільнасць на фронце мастацкай змены".

Няцяжка здагадацца, наколькі небяспечным было ўсё гэта для далейшага лёсу В.Маракова. Паэт спрабуе хоць неяк рэабілітавацца. Толькі так можна вытлумачыць яго верш "Слава Беларускай Савецкай рэспубліцы". Красамоўны эпіграф да твора: "Асабліва вялікія дасягненні мы адзначаем за апошнія два гады пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, на чале якога стаіць моцны бальшавік тав. Гікала". (Шаранговіч. З даклада на XV з'ездзе КП(б)Б.) Яшчэ больш красамоўная канцоўка твора:

*...Мы шлем прывітанне*
*найвысшай ясноты*
*Ўсяму бальшавіцкаму*
*штабу зямлі.*
*Бо партыя Леніна нас гартавала,*
*Расцуць і шчыльнеюць нашы рады.*
*Так вучыць, вядзе нас таварыш Гікала*
*І Сталіна поступ – шлях нашай хады.*





Як бачым, В.Маракоў пачынае славіць Сталіна, хоць дагэтуль, будзем справядлівыя, падобнае за ім не вельмі назіралася. Ды, калі махавік праследаванняў быў запушчаны, нішто яго ўжо не магло ўратаваць. Праз тры гады паэта арыштавалі. Ён паўтарыў лёс дзесяткаў сваіх калег па пяру і соцень, тысяч сумленных людзей, якіх зрабілі "ворагамі народа". Абвінавачаны "ва ўдзеле ў контррэвалюцыйных нацыяналістычных арганізацыях", нягледзячы на жорсткія фізічныя катаванні, трымаўся ён мужна, не паддаючыся ні на якія правакацыі. Больш за тое – не ішоў ні на якія ўступкі следчым, катэгарычна адмаўляўся прызнаць сябе "ворагам народа". Усе пратаколы нязменна заканчваліся аднымі і тымі ж словамі: "Абвінавачаны вінаватым сябе не прызнаў". Чаго гэта каштавала яму, можна толькі здагадвацца. Вядома, што нават знакамітыя рэвалюцыянеры, якія з гонарам прайшлі праз царскія турмы і жандарскія засценкі, не вытрымлівалі, калі траплялі ў шасцяронкі сталінскай машыны.

Пасяджэнне ваеннай калегіі Вярхоўнага суда БССР, што вырашала лёс В.Маракова і яго сяброў па няшчасці, працягвалася ўсяго 15 хвілін. Праз дзень – 29 кастрычніка 1937 года – прысуд быў прыведзены ў выкананне: паэта расстралялі.

Паэзія В.Маракова на фоне дасягненняў дваццатых – трыццатых гадоў, не кажучы аб набытках апошняга часу, выглядае крыху сціплай і як бы нейкай "сарамлівай". Але гэта тая сціпласць і тая "сарамлівасць", якія сведчаць аб значнай духоўнай напоўненасці лепшых радкоў, іх эмацыянальнай узрушанасці. Лепшае з напісанага В.Мараковым не можа не быць дарагім кожнаму, хто па-сапраўднаму любіць роднае слова і беларускую паэзію.

Акідваючы позіркам яго шлях, згадваючы імёны іншых паэтаў, празаікаў, якія развіталіся з творчасцю і жыццём у маладым узросце, не пакідаю спадзявання, што калі-небудзь усё ж настане час і мы зажывём лепш. Тады абавязкова трэба будзе падумаць, каб выпускаць крытыка-бібліяграфічныя нарысы – невялікія аб'ёмам, у некалькі ўлікова-выдавецкіх аркушаў – пра тых, перад кім усе мы ў неаплатным даўгу. Веру, што кніжка пра В.Маракова з'явіцца адной з першых.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "Не хачу так рана ў песнях дагараць!.."

Паэтычныя зборнікі, выдадзеныя ў 20-я гады на той час яшчэ маладымі аўтарамі, бяру ў рукі з хваляваннем. Адчуваю, здаецца, той прыўзнята-святочны настрой, што напоўніў і акрыліў істоту Валеры Маракова ў яго семнаццаць гадоў, калі была надрукавана ўласная кніжка вершаў паэта "Пялёсткі" (1926). Яшчэ нядаўні дэбютант, які досыць прыкметна заявіў пра сябе на старонках перыёдыкі (фактычна на працягу аднаго 1925 года!), ужо ў 1926 годзе апынуўся ў шэрагах літаб'яднання "Маладняк" і ўслед за сваім "паэтычным першынцам" падрыхтаваў новы зборнік вершаў "На залатым пакосе" (пра гэта паведаміла "Хроніка беларускае культуры" ў часопісе "Полымя" за 1926 год, № 8). Якая зайздросная творчая актыўнасць, якія мэтанакіраванасць і прага сягнуць у вышыні роднай літаратуры!

Адгортваю "Пялёсткі". Перад гэтым міжволі адзначаю, што на вокладцы зборніка – больш зялёнага колеру. А на першай старонцы з чорна-белага фотаздымка пазірае прыгожы, з вытанчанымі рысамі юначы твар, які нагадвае Сяргея Ясеніна. І гэтае падабенства не толькі вонкавае, бо Ясенін быў адным з літаратурных куміраў Валеры Маракова, паэтам, унутрана сугучным яму і блізкім сваім лірычным светаадчуваннем. Прасветлены, задуменны позірк яшчэ "зялёнага" хлопца абуджае вобразныя асацыяцыі – перад намі, кажучы словамі самога паэта, "месяц-юнак".

Паэзія В. Маракова 20-х гадоў па-маладому летуценная, поўная "сонца і вясны", духоўнага прастору і песеннага лірызму. Яго абвостраны зрок, разняволенае сэрцабіццё нараджалі па-мастацку адметную вобразнасць, багатую пачуццёвую палітру, яркі лексічны склад верша. Лірыка В. Маракова несла ў сабе суб'ектыўна-асабовы пачатак, які грунтаваўся на прыхільнасці да імажыністкай эстэтыкі слова. Ён імкнуўся да маляўнічай яркасці і эфектнасці паэтычнага вобраза:

*І так пішу... І зноў пішу з натхненнем –*
*Твой васілёк перада мной ляжыць.*
*А за вакном снуюцца і танцуюць цені,*
*Упаў срабрысты месяц на калені,*
*Стаў цалаваць магільныя крыжы.*

У гэтых радках з верша "Дзяўчыне" звяртаюць на сябе ўвагу аўтарская культура рыфмы, меладычная інструментоўка фразы. Твор напісаны "з... верай у шчасце і каханне".

Літаратурная крытыка 20-х гадоў і пазнейшага часу нямала гаварыла пра святочна-ўрачысты пафас паэзіі ранняга В. Маракова. І сапраўды – у шматлікіх вершах паэтава сэрца і сама прырода, якую ён апявае, "звоніць песняй вясновых надзей" ("Эх ты, поле! Шырокае поле..."). У вершы "Белае зімняе поле..." аўтар кажа, што ён "сам малады, як вясна", і ўсклікае: "...Радасна-сонечных гоняў // Ў сэрцы не змоўкне струна!" Як і Кузьму Чорнага ў апавяданнях, рамане "Зямля", яго клічуць і вабяць раздолле, незамглёнасць даляглядаў – "шыр палёў", "залаты прастор", "шыр-прастор... зямлі", "вольная сінь"...

Паэзія В. Маракова была адраджэнска-патрыятычнай па сваім духу, не бяздумна-бадзёрай, як нярэдка вершатворчасць маладнякоўцаў – "дзяцей рэвалюцыі". Паэт успрымаў родны край як свята вясновага адраджэння і квітнення: "Хай цвіце Айчына // На прасторах сініх, // Дзе агнём палае празалаць-зара..." ("Зноў прыйшла, прыйшла ты..."). Яго сэрца было ахоплена высакароднай мэтай – "песняй радасці і волі // Праслаўіць свету Беларусь" ("Цяпер ў грудзях другія словы..."). У шчасці і радасці паэт хацеў бачыць не нейкую прывідную, эфемерную краіну, а свой родны край, авеяны патрыятычнай легендай Кастуся Каліноўскага, славай продкаў. Герой В. Маракова паўстае як

вартавы Айчыны-Беларусі, яе верны сын. У вершы "Чуеш, Беларусь?" паэт думае-разважае пра лёс Беларусі ў перыяд імклівай перабудовы і абнаўлення рэчаіснасці, ён з імем Каліноўскага кліча яе да высокага быційнага сэнсу і годнага самасцвярджэння:

*О Беларусь! Ці чуеш ты, ці чуеш?*
*Твой лепшы сын распяты за цябе.*
*Няўжо ў грудзях тваіх начуе*
*Яго вялікіх дум разбег?*
*О, мабыць, не!*

Такім чынам, творчасць В. Маракова 20-х гадоў прасякнута маладым адраджэнскім настроем, свабодалюбствам, пачуццём палкай любові да жыцця, хараства і роднага краю.

Яго паэзія прыкметна ўвасобіла дух часу, агульную тэндэнцыю аптымізацыі і рамантычнай ідылічнасці ў адлюстраванні жыцця і свету; тым не менш было б няправільна і бессэнсоўна адносіць яе да так званага "пралетарскага мастацтва", літаратуры рэвалюцыйнага змагання. У 20-я гады В. Маракоў не прымаў ідэалагічнай устаноўкі на класавае супрацьстаянне і адведзенай паэзіі ролі "штыка і бізуна" (выраз У. Маякоўскага). Калі б змест яго паэзіі вызначаўся "героікай рэвалюцыі", як сцвярджае І. Чыгрын (Беларускія пісьменнікі: У 6 т. Т. 4. Мн., 1994. С. 209), то ён упісваўся б у сістэму тагачасных ідэалагічных ацэнак. Аднак паэт быў далёкі ад пустапарожняга грукату рыфмаў і адычных прамоў, павярхоўна-прымітыўнага канфармізму. Ён імкнуўся заставацца самім сабой і не здраджваць эстэтычнай сутнасці мастацтва. У такіх паэтаў, як В. Маракоў, былі суровыя і пільныя суддзі – крытыкі, якія ацэньвалі мастацкую творчасць з пазіцый "ідэалагічнай вытрыманасці", яе грамадска-палітычнага прызначэння. Крытык Антон Адамовіч, рэцэнзуючы зборнік "Пялёсткі", патрабаваў ад маладога на той час паэта Маракова ўвасабляць "грамадскасць", абвінавачваў яго ў дэкадэнцтве – упадніцтве, хваравітым песімізме. "А дзе ж грамадскасць?"–пытаўся гэты крытык са старонак часопіса "Чырвоны сейбіт" і, у прыватнасці, пісаў: "Першае, што здзіўляе нас у зборнічку (і ў чым крыецца прычына ўпадніцтва), – гэта поўная, блізкая адсутнасць грамадскіх матываў. Ён адарваны ад грамадства, і калі і імкнецца, дык да другога, такога самага, як ён, чалавека, каб разам з ім уцячы да прыроды". Крытык не разумеў уцёкаў на прыроднае ўлонне паэта, які жадаў "піць прыгажосць сонца і вясны" і збіраўся "для кветак у полі... пець..." Гэткія намеры раздражнялі аўтара рэцэнзіі, бачыліся яму з'явай антыграмадскай. Крытык адмаўляў паэзію "чыстай красы", бачыў у ёй небяспеку і павучаў, як трэба пісаць, нагадваючы ленінскае выказванне пра тое, што "адарваным ад грамадства... быць нельга".

Ды і пазней В. Маракова абвінавачвалі, што ён "упадае... у містыку", "яшчэ не ў разгары жыцця" (Антон Адамовіч), яго разам з Паўлюком Трусам, Язэпам Пушчам, Тодарам Кляшторным, Сяргеем Дарожным залічвалі да паэтаў "пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы" (Паўлюк Шукайла), ад яго патрабавалі "карэннай, арганічнай пераробкі свайго нутра, сваёй сацыяльнай прыроды ў адпаведнасці з задачамі рабочага класа" (Уладзімір Сядура). Апошні ў 1931 годзе на старонках часопіса "Маладняк" выносіў паэту фактычна ідэалагічна-класавы прысуд: «...У глыбока песімістычнай "Маёй паэме" – адрыў ад здаровага творчага жыцця і ўцяканне ў нетры багемы дасягнулі таго пункту развіцця, калі пытанне – ці разам з пралетарыямі, ці супраць іх (сярэдзіны не павінна быць) – у сваім выражэнні давала – супраць». Так даўся ў знакі ўдзел В. Маракова ў ТАВІЗе – "Таварыстве аматараў выпіць і закусіць", якое аб'ядноўвала сталічную літаратурную багему. Гэта была своеасаблівая маладзёвая літтусоўка, што ўзнікла як пратэст супраць афіцыёзу, як, па словах Юркі Віцьбіча, апазіцыя "пісьменніцкаму калгасу", непрыманне творчай моладдзю "існуючага пракруставага ложа". Таму, як сведчыць Юрка Віцьбіч, менавіта «на паседжаннях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя "маскі", пра якія прыгадваў Язэп Пушча» (гл. падрабязней пра ТАВІЗ: Юрэвіч Л. Камэнтары. Мн., 1999. С. 155–165). Залічэнне да "п'янай багемы", "адарванасць ад грамадства", "лінія ўпадніцтва" напрамую звязваліся крытыкамі-аглабельшчыкамі з прыналежнасцю да буржуазнага нацыяналізму.

Савецкі паэт павінен быў увасабляць калектывісцкія пачуцці, пралетарска-класавыя погляды, ідэалогія аўтаматычна пазбаўляла яго права маркоцішча, спяваць тужлівыя элегіі, быць у глыбокім одуме, рэфлексійным стане, тым больш – у меланхоліі і бязвер'і. Нягледзячы на тое, што ў паэзіі В. Маракова, кажучы словамі А. Блока, "звенят ручьи… стихов", разам з тым у многіх яго строфах выяўляецца элегізм, лірыка-псіхалагічны рух пачуцця. Паэтава сэрца працінаюць трывожныя прадчуванні, яго вершапіс становіцца люстэркам унутранага "я":

*Я стаміўся, прыціх, я не знаю:*
*Недзе вецер спраўляе магільны разгул,*
*І так хочацца зноў упівацца далёкім,*
*І ў азёрах душы захаваць чорнай восень.*

**("Мая паэма".)**

Вульгарна-дагматычная крытыка не шкадавала песняра смутку, таптала яго душу і годнасць. Літаратурныя наглядчыкі імкнуліся перакаваць лірычны талент В. Маракова, а ён з цяжкасцю паддаваўся гэтаму маральнаму садызму і гвалту – клапаціўся пра жыццёва-чалавечае напаўненне паэзіі, эстэтычную насычанасць вобраза, яго арыгінальнасць. Таму на пачатку 30-х і ў наступныя гады В. Маракова крытыкі і пісьменнікі бязлітасна шальмавалі, цкавалі, судзілі ў духу таго крывавага сталінскага часу. "…У гады актывізацыі нацдэмаўскіх пісьменнікаў Валеры Маракоў падпаў пад досыць значны ўплыў гэтых пісьменнікаў", – пісаў у "ЛіМе" за 26 лістапада 1933 года Саламон Левін. У студзені наступнага года Міхась Клімковіч вылучыў "асноўныя памылкі палітычнага парадку" ў творах Маракова: "прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавага мастацтва"; «сцверджанне "права" паэта стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва»; "няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў"; "пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да хворага песімізму". Выснова Клімковіча, які выступіў у ролі класавага суддзі, была сапраўды жорсткая і безапеляцыйная: "Маракоў не зразумеў таго, што надкласавая паэзія – гэта паэзія надпралетарская, буржуазная".



У 1935 годзе М. Клімковіч як старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР падпісаў характарыстыку, у якой гаварылася пра паэтавы "грахі": "мещанское воспевание любви", "неудовлетворенность проводимой партией национальной политикой". Адзначалася, што "он начал опевать богему, по-кулацки показывать наши заводы, нашу действительность" і г. д. Арыштаванаму паэту на допытах прад'яўляліся абвінавачванні ў антысавецкіх, контррэвалюцыйных закліках, нацдэмаўшчыне, варожасці пралетарскаму мастацтву. І неймаверна балюча, нясцерпна крыўдна было ведаць і чуць, што палітычны прысуд вынес той, каго лічыў некалі сябрам, – Алесь Кучар, які па даручэнні Саюза пісьменнікаў у 1935 годзе напісаў характарыстыку, а фактычна данос "О творчестве Валерия Морякова" (гл. падрабязней: Маракоў Л. Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999. С. 102–142). Хто-хто, а Алесь Кучар разбіраўся ў паэзіі, эстэтычна пранікліва прааналізаваў творчасць паэта ў артыкуле "Літаратурны партрэт Валерыя Маракова" яшчэ ў 1929 г. Тады ён не быў адданым служкам сталінскай сістэмы, умеў чытаць паэзію з адкрытым сэрцам, таму цудоўна раскрыў непаўторнасць і багацце лірычнага свету свайго сябра, асаблівасці яго індывідуальнасці. Гэта ён, Алесь Кучар, гаварыў пра В. Маракова як пра паэта эмацыйна чуйнага, некан'юнктурнага і псіхалагічна скіраванага ў сваёй творчасці: «"Адносна сучаснага літаратурнага жыцця і пралетарскае літаратуры яго абурае тое, што некаторыя людзі ўзводзяць у фетыш машыну. Другія ж нават думаюць пісаць вершы машынам… "Я ж,– кажа Валеры, – буду пісаць свае вершы не для машын, а для людзей"». Божа мой, якую ж вялікую ўнутраную драму зведаў паэт, калі яго душу і цела дапамагалі ўкрыжоўваць браты-адзінакроўцы з пісьменніцкай сям'і! Ён, блакітнавокі, надзвычай далікатны і інтэлігентны беларускі паэт, хацеў толькі аднаго – быць самім сабой, свабоднай творчай натурай, а яго бязлітасна мералі меркай грамадскай, пралетарска-ідэалагічнай. "Чалавек – гэта вам не мумія", "чалавек – гэта сад з залатымі думамі…" – даводзіў паэт таталітарнаму грамадству, якое асудзіла яго на пакуты і смерць.

Валеры Маракоў быў творца, які выказваўся, захоўваючы пачуццё ўласнага "я", ён даволі доўгі час заставаўся непадлеглым прымітыўнаму фальшу і дэмагогіі, жорсткай рэгламентацыі. Яго

“сэрца... запаланела” ідэаламі вечнай і неўвядальнай красы, ён, як і М. Багдановіч, марыў пра зямную асалоду быцця на зямлі, той “шчаслівы рай”, што дораць чалавеку гармонія свету, прырода і каханне. Пошукі красы былі духоўным узвышэннем паэта і ўсёй тагачаснай паэзіі 20-х – пачатку 30-х гг.Адчуваць прыгожае, эстэтычную каштоўнасць усяго існага заклікаў яшчэ Вацлаў Ластоўскі ў знакамітым артыкуле “Сплачывайце доўг” (1913). В. Маракова не захаплялі ідэя глабальнай рэвалюцыі і заклікі да класавага змагання. У гэтай сувязі прыгадваюцца развагі пісьменніка Васіля Быкава пра свабоду творчай асобы: “Але ці дужа якая ідэя патрэбна творцу, калі ягоная душа ўжо захоплена ідэяй іншага кшталту, ідэяй праўды і прыгажосці? Іншаму там месца няма, і ён індывідуаліст; усё значнае ў мастацтве спрадвеку ствараецца на грунце індывідуалізму. Спробы заангажаванай мастацкай творчасці, тым больш літаратурнай, заўсёды сканчаліся фіяска і пакінулі кепскую памяць пра сябе”. В. Маракоў нават тады, калі пісаў на грамадскія тэмы, хваляваўся пра сапраўднае і вечнае на зямлі, пра чалавека, нават думаў пра “камунізм і вясну, не скаваныя лёдам”:

*Любоў і паэзія*
*йдуць праз вякі,*
*праз краты улад*
*і кароны цароў...*

**(“Дарогаю да чырвонай сталіцы”.)**

Сталінская ідэалогія, праўда, рабіла сваю справу, чыніла дыктат ды маральна-псіхалагічны рэкет – таму і выпатрабавала пад страхам фізічнай расправы пафасна-рытарычныя творы пра Леніна і небывалы размах сацыялістычнага будаўніцтва, “горад-сад сусветны – ... СССР”, чырвоны сцяг і творы на іншыя ідэйна значныя тэмы савецкага гатунку (зборнік “Права на зброю”, 1933). Беларускі паэт, які “касіў” пад Маякоўскага, усё ж не мог забыць, што ён лірык, які выракаецца свайго “я”, ён памятаў пра мастацкую кволасць і фальш Купалавай паэмы “Над ракой Арэсай”, Коласавы “дрындушкі” – вершы-аднадзёнкі пра савецкія дасягненні











і святы. У гэтых умовах творчай несвабоды і змушанага канфармізму нарадзілася прадчуванне ўласнай бяды:

*...й за гэты край*
*вясной вялікай,*
*быць можа,*
*знімуць галаву,*
*праколюць цела*
*вострай пікай.*

**(“Жыццё, як мора-акіян”.)**

Трагічнае гэтае прароцтва з'явілася не адразу. Ужо ў творчасці В. Маракова другой паловы 20-х гадоў побач з мажорам суіснуе мінор, поруч з аптымізмам гучаць матывы смутку і жалю, узнікаюць сімвалы нябыту: “А мне сніўся выстрал, цёмныя крыжы” (“Сястры Ніне”); “Ах, мой край каханы, залаты мой край, // Не хачу так рана ў песнях дагараць!” (“Жаданне”). “Я сэрца з грудзей вырываў...” – так выказваў паэт свой унутраны разлад.

І, можа, асабліва трагедыйна паўстае вобраз Маракова-паэта, калі ўсведамляеш, што ён быў адным з цудоўных песняроў кахання, выдатным лірыкам рамантычнага светаадчування, які незвычайна тонка перадаваў прыгожыя чалавечыя пачуцці і шчырыя хваляванні сэрца. Ён у 20-я гады аддаваў перавагу не грамадскім эмоцыям, а асабіста-інтымным пачуццям, і тым самым паглыбляў лірыка-псіхалагічныя асновы беларускай паэзіі. У лірыцы кахання В. Маракова выразны настраёвы пачатак, вельмі яркія тропы, але самае галоўнае – ён непасрэдны і адкрыты ў выказванні інтымнага:

*...Каб хто-небудзь блізкі і каханы*
*Ў вусны мне і ў грудзі цалаваў*
*І ў сваім апошнім развітанні*
*Ўсю душу, ўсё сэрца аддаваў.*

**(“Маркітанка сігарэт”.)**

Паэт-лірык вылівае з сэрца радасць, сум, выяўляе іншыя

фарбы і адценні ўнутранага свету. Пры гэтым у паэтыцы яго твораў назіраецца цяга да прачулай меладычнасці радка, пачуццёвага дынамізму, арыгінальнай метафарычнасці:

*А ў бяздонні воч тваіх азёрных*
*Вольным морам плакала зара.*

**("Помніш ты, быў ціхі-ціхі вечар...")**

Шэраг твораў пра каханне напісаны з эратычнасцю пачуццяў – і тады ў вершах тыпу "З белых начэй" выяўляюцца, як і ў "кабацкай" паэзіі С. Ясеніна, нястрымныя маладыя жаданні і памкненні, імпэтны "разгул" душы. І ўсё ж паэзія кахання В. Маракова – "пачуццяў дзіўны сад", вясновая краіна салодкіх летуценняў.

Наогул вершы паэта – гэта штосьці незвычайнае, сапраўды нечаканае, каларытны жывапіс слоўнымі фарбамі:

*Толькі раніцай сонца як гляне*
*І расою заплача трава –*
*Устае ў русакудрым тумане*
*Залацістых нябёс сінява.*

**("Толькі раніцай сонца як гляне...")**

Паэзія В. Маракова настоеная на сіні нябёсаў, пералівах сонечнай зары, водары кветак, напоўненая ціхай музыкай і жывымі фарбамі навакольнага свету. У творчасці паэта вяла эмоцыя светлых трапяткіх адчуванняў, ён выяўляў імпульсы душы, яе нябачны "нерв" трывогі. Ён ведаў, што значыць "зубамі каменне ламаць", перажываў агрэсіўнасць навакольнай рэчаіснасці, але не дакор і праклёны вымаўляў са сваіх грудзей, а складаў прачулую жыццялюбную песню, па-хрысціянску імкнуўся "за ўсё дабром плаціць". Чорны віхор забраў паэтава жыццё, але агонь яго шчырых песень не згас і не сатлеў у часе, ён здольны і сёння сагрэць чалавечае сэрца.

**Алесь БЕЛЬСКІ**






# Страх нараджаецца на ўскрайку дня

Час, калі асабістае прызнанне ставалася доказам віны, час, калі нявінных не было, прынамсі не магло быць, час, калі на краіну абрынулася не сем, не дзевяць, а семдзесят дзевяць бедаў, і ўсе яны былі чужыя, і ўсе яны былі ад злыдня. Але селянін выходзіў на атаву з касою, з плугам на раллю, і не перапынялася адвечная хада жыцця, бо каб нешта дзяліць, гэтае нешта павінна быць, а значыцца – тое нешта трэба ствараць кожны дзень, з дня ў дзень. І не змянялася змена пораў года: за вясною, як і належыць, наступала лета, і так кола за колам. І кола лёсу круцілася, заведзенае ў далёкім мінулым, і з гэтага мінулага да горла, да сэрца, да вачэй падступаюць ягоныя нязжытыя прывіды. Хочацца махнуць на іх рукой, плюнуць праз левае плячо, пастукаць аб дрэва, хочацца перажагнацца, але не злятаюць словы малітвы з перасмяглых вуснаў. Час, як выпітая атрута. Час разбітых лёсаў і час ускрыленых надзеяў. Час, калі слова прамаўлялася так лёгка, а плацілі за яго так цяжка. Але словаў вымагалі, і паэты не маглі маўчаць. А кола лёсу ўсё круціцца і круціцца, і адчуванне такое, што хада яго паскорылася, што падзеі спрасаваліся ў кароткі адрэзак часу. Але гэта зманліва і не праўдзіва. Гэта проста вецер скуголіць згаладалым ваўком, носячыся сярод пустэльні і маўчання, бо словы даўно сказаныя, бо словы даўно забароненыя. Дазволены толькі гукі. Іх вымагаюць ад паэтаў. А вось там на крыле лёсу, бачыце, той, хто быў уверсе, ляціць уніз, лямантуе, бразгоча, чапляецца рукамі за спіцы. Не хоча, гад, падаць. Падпіхнем яго. А ён і нас за сабою цягне. З пекла ў пекла. З лядоўні ў печ. І ні следу, ні знаку, і

ні знаку, ні следу. І нат сляза забаронена. Сляза на твары Жалезнага.

І толькі араты выходзіць у поле, бо і жалезныя прагнуць хлеба, а таго, што да хлеба, прагнуць яшчэ больш. "У бой, маладая гвардыя рабочых і сялян!" "І вечны бой...". І бухае вецер дзвярыма разбураных храмаў. І няма словаў, а ёсць толькі гукі. Гукі па жывым разадраных горлаў. Падаюць, як жоўтае лісце, бедныя канарэйкі. Ім зварочваюць галовы за іхнія спевы. Бо тыя спевы – ад слязы, ад рабінавай ночы, ад пачуцця, што дзень назаўсёды пражыты, і пражыты ён неяк не так...

"Калі б паэты кіравалі светам!" – што хацеў сказаць Англічанін? Яго анёл крануў Словам, а ўлады не даверыў. А паэты выходзілі на газетныя прасторы і забівалі іншых паэтаў. Забівалі насмерць, узапраўду. Забівалі Словам. Яно, Слова, сталася памагатым – таварышам нагану, маўзеру, "максіму", параходу, паравозу і самавару. А Душа? – Бедная вандроўніца, мятлушка. Не загартуешся, не станеш сталлю, а проста згарыш. Але вось падаюць тыя, хто стаяў на трыбунах, а месца займаюць адразу, бо там чарнеюць натоўпамі тыя, хто думае, што Слова – гэта так, гэта кожнаму па плячы, гэта ж не мяхі цягаць. А Бога ўжо нібыта і няма, і сонца абагравае змарнелыя твары партрэтам Бацькі Народаў, і сонміскам "анёлаў" ля яго – людзі іншай пароды: асабісты, гэбісты, энкавэдзісты, ваўкі з жалезнымі зубамі. Прыходзяць уначы, цягнуць у норы, у пячоры свае. Ведаюць адно: ворагу – смерць! І патрабуюць: "Прызнайся!"

Дзе ж схавалася ты, птушка па імені Літасць? У якіх землях і часінах твой спагадлівы палёт адкрывае сэрцы? Там Бог не спазнаны, а тут Бог забыты. А з рогу – усяго многа. Хто сумняваецца. А ты прызнайся, прызнайся! Рэвалюцыйная дысцыпліна і пралетарская гуманнасць. А, можа, наадварот? Можа, я ізноў усё паблытаў? Можа, і не сніла мая краіна тых крывавых прывідаў, а ўсё гэта адбылося не са мною, не з табою, не з намі, і не адбылося, а так прымроілася, як мроіцца ў запоі?

Што думалася яму перад расстрэлам? Што ўзгадвала ягоная памяць? І ці спрабавала сэрца пакласці малітву на сасмяглыя вусны? І ці сумавала ў той кастрычніцкі дзень прырода? Можа, світанак спазняўся і спазняўся, каб хоць неяк, хоць як адцягнуць тую хвіліну, калі да халоднага муру, босых, у бедных кашулях, іх паставяць і выдадуць ім свінцовы паёк у сэрца, каб больш з разарванага горла не было ўжо ні слова, ні гуку, каб нават імя згінула і не парушылася Маўчанне.

Страх нараджаецца на ўскрайку дня, калі амаль ноч, калі амаль цемра, калі цені ваўкоў з жалезнымі зубамі напагатове прагнуць вырвацца з пячораў падсвядомасці. "Прызнайся!" – закрычаць яны. А ён не прызнаўся і нікога не пацягнуў за сабою. Той час, калі асабістае прызнанне ставалася доказам віны. А ён так і не прызнаўся. Малады чалавек з блакітнымі вачыма. Ужо дванаццаць гадоў, як не мой равеснік. Ты, у імені якога было само жыццё.

І не такія ламаліся. А вось такі не зламаўся і не сагнуўся. Яго раструшчылі без жалю, як бот дзікуна трушчыць тэракотавы кубак, поўны амброзіі, бо барбару патрэбна скіслае піва, бо барбару трэба сталь на мячы, бо барбару патрэбны маршы. Але гліна, з якое быў зроблены кубак, ёсць сама зямлёю, а таму яна вечная. А таму, пакуль круціцца ганчарнае кола, то рукі, умелыя, мудрыя, чуйныя рукі зробяць новы кубак. Толькі ці ягонае гучанне паўторыць тое – непаўторнае? Вось дзе і ўзнікае туга.

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

# *"Пырснуць смехам лілеі ў тумане над жалезным паходам вякоў..."*

**Р**адкі належаць Валерыю Маракову – аднаму з тых, хто ў даваенны час "цаглінка да цаглінкі" ствараў будынак мастацтва, раскалыханага званамі трывожнага XX стагоддзя, захоплены водбліскамі вогнішчаў ад спаленых "босымі" палацаў. Апантанасць, святочна-ўрачысты настрой, "бурапеннасць" (формула, развітая і падрабязна расшыфраваная яшчэ на пачатку 60-х гадоў ужо мінулага XX

стагоддзя Нілам Гілевічам), вера ў чырвоныя сцягі, у будучыню... Дзеля гэтага хацелася жыць. На гэта настройвалася ліра ў многіх. І ў тым ліку – у студэнта літаратурна-лінгвістычнага аддзялення філалагічнага факультэта Беларускага педінстытута Валерыя Маракова:

*Сэрца не лёд і не камень,*
*Ў ім не стрымаеш ты кліч,*
*Кліч маладога жадання*
*Вольных прастораў зямлі.*

Выразныя "радасна-святочныя" вобразы ствараюць уражанне: перад намі – лірыка тыповага энтузіяста даваеннай пары, які ўсім сэрцам прымае змены ў жыцці, стварае оды сацыялістычнаму будаўніцтву, пераадольваючы такі натуральны для кожнага чалавека, нават маладога ўзросту, настрой расчаравання і тугі. Як бы пераадольваючы, перасільваючы нешта трывожнае ў душы, ён прыходзіць да аптымістычнай высновы ў вершы "Ёсць лепшы свет..." са зборніка "Вяршыні жаданняў" (1930): "Я знаю шчасце – верыць і змагацца,// Ісці, гарэць, ўпівацца барацьбой". Трывога ў многіх паэтавых вершах адціскаецца на другі план часцей розумам, чым сэрцам. Сучасны чытач гэта адчувае. Радасць аўтара цудоўнага твора "Я ўспамінаю дні змагання...", да прыкладу, суіснуе з павоем болю, "агонь тугі" стрымліваецца паэтам свядома, "суму джала" таксама свядома вырываецца з грудзей... дзеля "гордай веры ў перамогу" і змагання. Верш заканчваецца радкамі, якія мусяць сцвердзіць агульную канцэпцыю "перабудовы" паэта на карысць ідэалаў даваеннага часу:

*І з гордай верай ў перамогу,*
*Згубіўшы дум сваіх*
*Крыжы,*
*Выходжу сам я на дарогу*
*Ісці, змагацца, верыць, жыць...*

Можна спаслацца ў пацверджанне сказанага на творы "Два франты", "Леніну" і амаль усе напісаныя ў 30-я гады – "Дарогаю да чырвонай сталіцы", "За тысячы новых тваіх Асінбудаў", "Першы дзень на запалкавай фабрыцы", "Майскім маршам". Рытарычныя, "нарысавыя", дакументальныя, рэпартажныя, яны, гэтыя творы, і блізка не стаяць з "паэзіяй сэрца" – лірыкай. Як і многія іншыя аўтары, у атмасферы падазронасці і недаверу да самавыяўлення ў творчасці, патрабавання "радасных песень" марнеў і згасаў талент Маракова. Твор "Майскім маршам" заканчваецца радкамі, закліканымі засведчыць лаяльнасць паэта да ўлады, ідэалагічную "пільнасць" і чысціню яго намераў: "Байцом паэтычнай, цяжкой эскадрыллі // Запісаны ў полк Акцябра". Верш гэты быў напісаны ў 1934 годзе, за тры гады да расстрэлу. Сваімі радкамі ён перагукаецца з творамі П.Броўкі – аўтара кнігі "Цэхавыя будні", з вершамі на вытворчую тэматыку Аркадзя Куляшова, які ў імя перабудовы жыцця выносіць прысуд "трухляваму" хутарскаму бытаванню. Сугучныя радкі знаходзім і ў тонкага лірыка Тодара Кляшторнага.

Ствараючы лірычны вобраз "сацыялістычных будняў", Маракоў прытрымліваўся агульных установак, перасільваў, стрымліваў сябе, "станавіўся на горла ўласнай песні". Але спынім ход нашых разважанняў у гэтым напрамку і звернемся да пачатку нашай размовы, да загалоўка артыкула, да твораў, якія па розных прычынах выпалі з поля зроку крытыкаў даваеннай пары і пазнейшага часу.

***

У 1-м нумары "Маладняка" за 1932 год была надрукавана падборка вершаў Маракова "Новыя вершы" з прысвячэннем: "Васілю Кавалю". Яе склалі ўсяго два творы – трывожныя, нейкія "надламаныя" паводле настрою элегіі. Пра паэтаў і паэзію, пра квітнеючы сад, дзень і жанчыну, "рана збітую горам"; хросную маці паэта – вернага сына Радзімы, дачку яе, што спявае свае радасныя, а не тужлівыя песні. Цесна і арганічна звязаны ў вершы радасць і сум, трывога, святочны настрой і боль расчаравання. Паэт спявае "праз сілу", напружвае галасавыя звязкі, настройваецца на адычную хвалю. Яму так хочацца праспяваць оду новаму

жыццю, ды раз за разам прарываецца іншае пачуццё – біды, трывогі, балючага суму. Першая частка дыстыха заканчваецца радкамі пра драматычны, ледзь не прымусовы працэс развітання з мінулым, з песняй трывогі; сумоўцы – паэт і дзяўчына з квітнеючага саду – доўгім позіркам праводзяць мінулае:

*Мо' заплачаш, мо' так адыйдзешся,*
*Ранне згасне, запаліцца дзень,*
*Над пражытым з журбой усміхнешся,*
*Не паверыш, што гэта не песня...*
*І назад будзеш доўга глядзець...*

Звернем увагу на такую дэталь: дзеля перадачы трагедыйнасці развітання з мінулым паэт акаймоўвае апошні радок паўзамі, падкрэслівае гэта нават графічна – шматкроп'ямі на пісьме.

У вершы сутыкаюцца супярэчлівыя пачуцці, фарбы, гукі, тропы, міні-вобразы, адзнакі "чыстай красы", як некалі гаварыў М.Багдановіч, і грамадзянская паэзія, традыцыйнае і наватарскае. Пануе трывожны настрой, спавіты квеценню пакінутага саду, упісаны ў кола рамантычных і імажыніскіх вобразаў тугі, вясны, згаслай лучыны, згасаючага дня, дагарэлай Зары (аўтар сам напісаў гэтае слова-сімвал з вялікай літары), "глухіх і надломаных песень" і інш. "Фактура верша" – яго вобразы-сімвалы – вынікае якраз з адчування разлому, пакутлівых пераменаў (пароўнаўшы з адчуваннем радасці ў "вытворчых" вершах, зробім выснову пра яе просталінейнае, рытарычнае раскрыццё), пацверджана *самарухам* унутранага пачуцця – ад аднаго вяршыннага пункта да другога, трэцяга – не менш выразных і псіхалагічна акцэнтаваных. Якое б ні было "спрошчванне" вобразнасці, уласцівае паэзіі 30-х гадоў у цэлым, у вершы яно таксама адсутнічае. Вобразнасць яго шматслойная, сімвалы расшыфроўваюцца не адразу. Іх сэнсавая ўскладненасць – адзнака ў большай ступені імпрэсіяніскага і імажыніскага стыляў, чым рамантычнага. І падзелены яны як бы на дзве групы, акрэсленыя, вызначаныя радкамі чацвёртым і пятым, вынесенымі намі ў загаловак артыкула. Прывядзем іх у кантэксце трох папярэдніх,



каб зразумець, што за імі – аўтарская творчая ўстаноўка, яго эстэтычнае крэда:

*Ты прыгледзься да гэтага рання,*
*Зноў нахлыне у сэрца спакой*
*І ўсё любым і радасным стане,*
*Пырснуць смехам лілеі ў тумане*
*Над жалезным паходам вякоў.*

Чацвёрты і пяты радкі – своеасаблівы ключ да разгадкі прычынаў трагедыйнага зместу верша ў цэлым. У іх сышліся дзве пазіцыі мастака слова: пазіцыя ўдзельніка "жалезнага паходу вякоў" (прыгадаем прароцтвы і выказванні яшчэ Баратынскага, а потым Блока пра тое, што век "шествует путем своим железным") і пазіцыя песняра красы, незалежнага ад кан'юнктуры (жалезнай!) гістарычнага працэсу. Апошняя выразна акрэсліваецца ў вершы вобразам-сімвалам, магутнейшай мастацкай дэталлю – "смех лілеяў у тумане". Менавіта лілеяў, а не пунсовай шыпшыны (Дубоўка), не шумлівага чароту (Міхась Чарот), не іншай кветкі ці расліны. Лілея – кветка, жыццё якой абумоўлена абставінамі выжывання ў рэзка абмежаваных умовах воднай прасторы. За гэтым вобразам праглядаецца ідэя ахвярнасці паэтавага лёсу, якая можа стацца явай у выніку адрыву ад роднай стыхіі. Жалезная хада вякоў згубна ўплывае на лёс паэзіі – "лілеі ў тумане", смех якой чуецца мастаку смехам развітання, згасання ў страшэнных умовах часу. Два наступныя вобразы-сімвалы – Сад і Зара – таксама трагедыйныя ў кантэксце (і не толькі гэтага) твора. Сад застаецца ў мінулым, у выніку абставінаў паэт выключаны з яго надоўга разам з каханай дзяўчынай, Зара дагарае, – так разбураецца падмурак дарагой і блізкай сэрцу паэта творчасці:

*Дарагая мая,*
*Паглядзі, як над лесам*
*Дагарэла крывавай тканінай Зара, –*
*Гэта сімвал глухіх і надломаных песень,*
*Гэта сімвал любові*
*Й пачуццям пара.*

Давяраць самаасуджэнню паэта за "глухія і надломаныя песні" поўнасцю нельга. Нельга на сто працэнтаў верыць аўтару, які кліча каханую ісці далей, не спыняцца ў хадзе, згадвае песню інакшую. Усё роўна сэрца яго належыць песні іншай – трывогі, суму, жалю. Умовы 30-х гадоў прымушалі аўтара пісаць пра такі настрой іншасказальна, азіраючыся наўкол, ці не пільнуе крытык-аглабельшчык "сумныя радкі", ці не сочыць ён пільна за ягоным настроем, паводзінамі. Грамадзянскія падзеі не згадваюцца ў творы пра паэта і паэзію, "перакрываюцца" радкамі пра каханне:

*Я багаты*
*І песняй сваёй, і юнацтвам,*
*Ў маёй хаце блакітны варушыцца свет...*
*Буду сёння над смерцю варожай смяяцца,*
*Бо інакшая песня да мэты заве.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Мы так доўга блукалі ў квітнеючым садзе,*
*Месяц ласкай сваёю лісты апаліў.*
*З доўгай русай касою і з агнём у паглядзе,*
*Расказала ты мне пра любоў на зямлі.*

Вось такі фінал: абстрактная сентэнцыя пра інакшую песню (за межамі саду, "блакітнага свету", туманнай лілеі) выцясняецца рэальнай сітуацыяй – сустрэчай з каханай, з Каханнем, якому саступаюць месца і гэтая інакшая песня, і "жалезны паход вякоў", на якім засяродзіўся позірк аўтара ў самым пачатку твора – трагедыйна-ўзнёслы, я сказаў бы, ахвярны. Паэт свядома падстаўляе сваю "выю" пад серп бэндэўскай крытыкі, ставячы перамены ў жыцці не на першую пазіцыю, паглыбляючы трагедыйную аснову, зацямняючы сімволіку, выводзячы на першы план асабістае, суб'ектыўнае. Жалезны час толькі згадваецца. Яго абрысы цьмяныя і расплывістыя. Пазіцыя аўтара відавочная: не пра іх, а пра сад, мары, каханне, родны дом хочацца пісаць і выказвацца Маракову.





***

У першым вершы дыстыха Маракоў згадвае другое вымярэнне жыцця – гісторыка-адраджэнскае. Сімвалам адраджэння, вернасці Айчыне выступае Жанчына, маці-Беларусь, якая вітае паэта, "нібы сына", ухваляе яго за тое, што ён не здрадзіў краю свайму, застаўся на пазіцыях праўды. Вобраз Жанчыны-маці "падмацоўваецца" вобразам яе дачкі, што становіцца паэтавай каханкай. Эстафета перададзена з рук у рукі, старэйшымі – малодшым. Менавіта падобная змястоўнасць лірыкі Маракова нас павінна цікавіць у першую чаргу. На яе наслойваюцца і вобразы квітнеючага саду, раніцы, зары, блізкія "нашаніўскай" пары, набываюць характар той эстафетнасці, пра якую мы згадалі вышэй. Вобразнай сістэмай паэт акрэслівае і грамадзянскую пазіцыю не дэмана-руйнавальніка ўсяго мінулага, не ідалапаклонніка новага, выяўленага ў жорсткім трагедыйным пачатку, а стваральніка-адраджэнца, песняра вечнай прыгажосці і красы, здольнай існаваць на жалезнай ды крывавай аснове.

Валерый Маракоў – паэт "чыстай красы", імажыніст, майстар вытанчаных вобразаў-"настрояў". Нехта можа палічыць гэтыя вобразы імпрэсіяністычнымі і, можа, будзе мець большую рацыю. Важна тое, што паэт не абмяжоўваецца рэалістычнай "празрыстасцю", чыстай "праўдападобнасцю". Ён, як і Язэп Пушча, Тодар Кляшторны, Уладзімір Хадыка, выходзіць за межы праўдападобнага рэалістычнага мастацтва, спасцігае законы мадэрнісцкай творчасці. І ад гэтага цэласнасць яго светабачання не парушаецца: наадварот, яно робіцца больш гуманістычна скіраваным, чалавекалюбным. У 8-м нумары "Маладняка" за 1928 год я з радасцю перачытаў верш-прысвячэнне "М.Дубовіку" – паэту, якога не стала ў раннім веку. Гэтае пасланне – цэлая эстэтычная праграма мастацтва "чыстай красы", недасяжнай вышыні:

*А людзі горда йшлі*
*І горда рвалі кветкі.*
*Ўпівалі сонца,*
*Славілі вясну,*
*І іх надзей былі мы толькі сведкі,*

*Мы не маглі іх душ закованых*
*Крануць.*

Ці не эстэтычная праграма: пісьменнік – не раб абставінаў, не рэха падзей, а нешта большае – сведка трагічных падзей, бяссільны крануць чалавечыя душы-ільдзіны. Лепш было б – айсбергі. Адзінокі і горды, ён застаецца спадарожнікам усяго і ўсіх.

Верш "трымаецца" на вобразах ясенінскага кшталту, нязвыклых для чалавечых зроку і слыху: блакітныя вочы жыцця, "сэрца раннія надломы", "ільдзіна душ", "душы закованыя" і інш.

Памяць наша засяроджваецца і на радках перадапошняга катрэна, крыху супярэчлівых: паэт адначасова канстатуе, што не заве таго, што "адпалала", і што "Лепш паміраць у росквіце надзей, //Чым несці крыўды горкай жала – //Чужых дарог, Чужых людзей". Супярэчлівасць здымаецца папярэднім аналізам дыстыха, зместу гэтага твора і інш. Думаецца, паэт сцвярджае ідэю нелагічнасці, неапраўданасці песень "пад дыктоўку" пра чужыя яму падзеі і адчуванні. Падобны нігілізм – гэта нігілізм няскоранасці і вальнадумства, гэта сцвярджэнне права мастака быць падобным толькі на сябе.

Валерый Маракоў – пясняр надлому ў чалавечых душах перыяду "жалезных паходаў", пясняр маркоты і жалю па зарытых гэтымі паходамі каштоўнасцях і – аўтар рэпартажаў пра "сацыялістычнае будаўніцтва". Прымаючы яго такім неаднолькавым (двухаблічным – тут не тое слова), разнастайным, які знаходзіцца ў пошуку новых каштоўнасцяў і паклоне старым, аджылым, мы, бадай, і будзем найбольш аб'ектыўнымі і праўдзівымі:

*Прайшлі жалезныя гады*
*І ўскалануліся ў сэрцы нешта,*
*І я сягоння, як заўжды,*
*Выказваю сябе дарэшты.*

**("Маладосць". 1931. №5. С.7.)**

**Мікола МІШЧАНЧУК**











# Сяргей Рублеўскі

*32+2! Лішніх зубоў ніколі не бывае! Тым больш у Беларусі. Тым больш – мудрасці. 32+2! Вось яна, своеасаблівая формула запасу нашай трываласці перад націскам часу.*

# КНІГА

Літаратар мае спадзяванне, што сваёй кніжкай, якая, нібы птушка з крыламі-старонкамі, паляціць праз гады, ён пабратаецца з вечнасцю. Хоць і разумее, што вечнасць ходзіць у абдымку са смерцю, што смерць бліжэй да чалавека...

Трымаючы ў руках сваю кніжку, ён згадвае шлях, роўны жыццю. Пра тое, як яго думкі далікатнымі пальчыкамі па літарцы, косачцы, кропачцы ды апострафе наноў сабрала на кампутары ў словы, радкі, старонкі яснавокая Анэлька. Як паміж сашчыльненымі качулкамі друкаркі гарачым чорным парашком прыпальваліся яны да аркуша паперы. Як замяняла літары, дадавала недастатковыя ці выдаляла залішнія коскі старэнькая жанчына ў акулярах, якая аблічам нагадвала ягоную маці. Як тое-сёе выкрасліў, перамяніў, тое-сёе параіў чалавек разумнейшы, чым аўтар, і таму ён мае трошкі пагрозлівае азначэнне сваёй існасці – Рэдактар. Як прасвечваў у друкарні зыркім ультрафіялетам старонкі яго думак капіроўшчык. Як неахайна, нібы скрынку з бульбай, зняў са сваёй машыны высокі стос аркушаў са свежымі адбіткамі друкар. Як спрактыкаваны майстра адцяў сечкуром няспраўджаныя думкі аўтара, роўна па фармаце. Як няўцямная цётка загарнула ў шчыльную паперу ды сціснула ліпучкай першыя дваццаць паасобнікаў. А потым яшчэ і яшчэ. Як пасля паклікала з каморкі свайго мужа, і той на нізенькай цялежцы адвёз тыраж у цёмны куток сховішча, спудзіўшы шоргатам абгортачнай паперы немаведама на чым рассыцелага тут пацука...

А потым, наняўшы аўтафургончык, па цела сваёй душы прыехаў аўтар.

...Ён аб'язджаў кніжныя крамы ў вялікіх і маленькіх гарадах, ды, на жаль, кніжку яго гандляры бралі патрошку (маўляў, вы яшчэ мала вядомы), прытым зноў і зноў прамаўлялі непрыемнае, як шчарбаты іржавы нож, слова "рэалізацыя".







Дзесяць асобнікаў аўтар здаў у сельпо мясціны, дзе нарадзіўся, маючы слабую надзею, што хоць тут кніжку хто-небудзь купіць, папярэдне ўдакладніўшы ў гандляркі: "Дык гэта, кажаш, Кастусёў малец напісаў?.."

У краме яго роднай вёскі кніжку выставілі на край паліцы, дзе месціліся галёшы і гумавыя боты, і аўтар з горкай прыкрасцю адзначыў, што кошт яе не нашмат ніжэйшы, чым гумавікі.

Сюды завезлі толькі два асобнікі, і аўтар, ведаючы, што некаторыя аднавяскоўцы захочуць пагартаць старонкі, папрасіў гандлярку адну з кніг прыбраць, каб усе гарталі тую самую, бо запэцкаюць. У яго амаль не было сумневу, што творы, сабраныя пад гэтай мадэрновай вокладкай, і на вяршок не зварухнуць душы землякоў. І ўсё ж быў усцешаны, што зрабіў ім своеасаблівы прывітальны знак.

Аўтар зноў і зноў ладзіў прэзентацыі кніжкі, хоць і разумеў, што няма больш аблуднага занятку, чым рабіць каментарыі да сваіх думак і пачуццяў, да праяваў сваёй душы. І стаміўся ад гэтых высілкаў, як стары, ссохлы ў націнку дзед стамляецца ад жыцця.

І тады аўтар вырашыў сесці на хлеб і ваду і раздаць рэшткі тыражу ўсім-усім сваім знаёмцам.

На апошнія грошы ён выкупіў дзве свае кніжкі ў той самай, знаёмай з малалецтва вясковай краме. І сапраўды, адна з іх па-ранейшаму была чысцютка свежая і, здаецца, яшчэ захавала ў глыбіні сваіх старонак пах друкарскай фарбы.

Літаратар выйшаў на вуліцу і, убачыўшы двух хлапчукоў, якія вярталіся са школы, далучыўся да іх. Ішоў з лёгкасцю, нібы роўня, гаманіў пра вучобу, рыбалку, а на развітанне ўзяў ды і падарыў ім свае кніжкі, сарамліва прамовіўшы: "Для пазакласнага чытання. Ці як узрасцяце. На памяць".

І зноў – у тлумны горад. Да шашы аўтар тэкстаў вяртаўся палявой, ужо добра ўтравелай дарогай. Красавік іскрыўся пахамі, гукамі, фарбамі. Крочылася лёгка, як і крыху раней з вясковымі мальцамі. І тут аўтару падумалася: вось так душа ўціхамірваецца шляхам шкарлупінкі-цела, у каардынатах зямнога, будзённага, якія рэчаісна акрэслены паднябёснымі абшарамі. Час становіцца звыкласцю, звыкласць – жыццём. І выходзіць зусім недарэчна, што душа яго так пакутна і доўга засноўвала сабе іншую шкарлупінку, іншыя вокладкі, і няхай сабе не цалкам, але частка

яе адляцела ў беспрытульную бездань і цяпер грукаецца старонкамі-крыламі ў чужыя сэрцы. Калі дагрукаецца, знітуецца з чыёй-небудзь душой-пабрацімкай – лічы, трапіла ў рай. Калі не... – дык вось табе і апраметная, падумаў аўтар, горка ўсміхнуўся і прыпыніўся, каб прыпаліць цыгарэту.

# НАВЫВАРАТ

Пасля літаратурнай імпрэзы ў Полацку заехаў у вёску да маці (балазе круг невялікі). Павячэралі, і я пачаў перабіраць на стале свае чытво нанач: беларускі часопіс, выдадзены ў Польшчы, тоўсты том аднаго гарадзенскага аўтара ды папулярны расійскі штотыднёвік. Маці любіць пацікавіцца, чым сілкуецца мой досвед. У асноўным толькі з перасцярогі – каб я “не лез у палітыку”. Вядома, беластоцкі праект яе занепакоіў, бо падаўся чамусьці падазроным. Ва “ўсходнікаў” жа Польшча ўспрымаецца як апірышча “не той” веры, а слова “пан” нязменна панітоўваецца з фанабэрыяй ды прыгнётам. І маці ўзялася гартаць часопіс.

– Во, палячка, – раптам крышачку грэбліва, звысаку кажа яна, гледзячы на фотаздымак.

Глянуў.

– Гэта ж гарадзенскі паэт, проста патлаты такі, малады яшчэ, цешыцца, – кажу ёй і ледзь стрымліваю ўсмешку.

Крышку збянтэжаная, але не страціўшы надзею спраўдзіць свае выкрывальніцкія росшукі, мама пачынае гартаць кніжку і з прычыны слабога зроку праглядае толькі загалоўкі твораў.

– Смак кавы з імжакай... – нясмела чытае яна. – А што гэта?

Папулярна тлумачу.

– Ай, неяк навыварат, – скрушна гаворыць маці і пачынае ўглядацца ў адну з ілюстрацый.






– А во гэта ўжо точна палякі, – раптам усцешваецца матуля, нібы нарэшце дамаглася свайго, знайшла згубленую ў стозе сена іголку.

І тут я ўжо не магу стрымаць голасны смех. А потым, усё яшчэ смеючыся, кажу ёй:

– Гэта ж старажытныя галандцы, рэпрадукцыя карціны мастака Босха.

І, на маё задавальненне, не можа ўжо стрымаць смех і маці. Паддаючы адно аднаму імпэту, смяёмся разам. А калі супакойваемся, я пытаюся:

– Мама, а як ты распазнаеш палякаў?

– Такія танклявыя, худыя і насы доўгія, як у пана Быкоўскага... – на поўным сур’ёзе адказвае яна.

Дык вось у чым штука! Лякала здавён усвядомленага літаратурнага вобраза мая матулечка накладвае на разгорнутую перад ёй друкарскую рэчаіснасць.

Пазней я вычытаў у аднаго нашага мысляра:

“...быццё дзеецца не на зямлі пад сонцам і зорамі, а ў нашых галовах, дзе няма месца ні святлу, ні цемры, ні прасторы, ні часу, – і дзеецца па сваіх адмысловых законах, якія абапіраюцца на ідэальныя сутнасці, а не на рэальныя феномены”.

Гэтак пісаў ён пра асаблівасці светаўспрымання беларусаў.

А тады, у бацькоўскай хаце, я і слова не мог прамовіць, захоплены карагодам пацешных думак самай любай для мяне ў свеце беларускі. Тым больш што маці, у рэшце рэшт, і наогул мяне “дабіла”. Узяўшы ў рукі расійскі штотыднёвік, яна, ужо ў добрым гуморы, праяснілася:

– А вот гэта дык беларусы, кругленькія, як ягадзінкі...

...На першай старонцы газеты быў надрукаваны калаж з выявамі партрэтаў Шродэра, Блэра і Шырака...

Штосьці ёсць у нас ад выбітных еўрапейцаў!

Крыху агаломшаная маімі несур’ёзнымі высновамі, маці сышла ў трысцен уходжвацца па гаспадарцы, а я задумаўся над тым, што і сапраўды вельмі часта ў гэтым свеце ўсё “навыварат”. Напрыклад, мая маці худзенькая, уся, як высахлая сцяблінка, і нос мае вялікі, па дзеду Юстыну. А ў мяне нос ужо зграбнейшы, крыху “згабляваны” бацькавым геномам, ды і цалам я, вядома,

больш спраўны. У прозвішчы, якім надзяліў мяне татулька, больш звыклага польскаму вуху, чым у яе дзявоцкім – Амбрасёнак, ці ў бабуліным – Пячура.

Усё навыварат! Апроч затоенага мамінага памкнення асцерагчы мяне ад магчымых кантактаў з нялюбым ёй "панам Быкоўскім".

## 32+2, або Шкадоба аб ненапісаных тэкстах

Аднойчы прыйшло мне ў галаву напісаць нізку рытмічна арганізаваных тэкстаў пра зубы. Бывае. Калі б я нарадзіўся мурынам, дзе-небудзь ля возера Чад, напісаў бы тэксты пра белыя, шырочанькія, як боб, адмысловыя афрыканскія зубы-лапатачкі. Але я пачуваю сябе праўдзівым беларусам, а ў нас, вы ж ведаеце, не хапае ці то ёду, ці то фтору, ці таго і другога ў прыродным кругазвароце, і з гэтай прычыны зубы дужа нетрывалыя, крохкія, высыпаюцца да сарака гадоў, як семкі з пераспелага сланечніка. Дрэнныя зубы, лічы, наша нацыянальная адметнасць. Хіба можа абмінуць гэта сваёй увагай спрактыкаваны літаратар? Да таго ж, як кроўны сын свайго народа, я маю (нават няёмка перад кабетамі) дрэнныя зубы, а больш дакладна – шэраг дрэнных зубоў ужо наогул не маю, так што ў тэме дасведчаны. Але, як на злосць, рытмічна арганізаваныя тэксты ў мяне не пайшлі. Вось, напрыклад:

*Як зубкі часнаку*
*на ўскрайку небасхілу*
*паднябення*
*узыходзяць*



*на баразёнках дзяснаў*
*першыя малочныя*
*зубы*
*немаўляткі...*
*Змушаны свербам,*
*балюча прыцісную цмочку*
*матчынай цыцкі...*
*А ёй у галаву прыйшло*
*сарамлівае...*
*Перажагнулася.*

Часнок, непрыемны пах з рота... Не зніто ўваліся асацыяцыі. І я вырашыў спаліць рукапіс, каб ні шматка не засталося.

Але ж думкі не спаліш!

Бывае, цалуешся з палкай у любошчах кабетай, шал да мятлікаў уваччу разбірае, але і на імгненне не забываеш пра свае "рэдкія" зубы: крый Божа, намацае мілосніца прагалінкі сваім вяртлявым языком. Вось і стараешся не страціць імпэту, круціш без перадыху сваім, не менш вяртлявым языком, як свярдзёлкам. Адным словам, не дае мне спакою думка аб дрэнных зубах.

Звярніце ўвагу на такую акалічнасць. Дрэнныя зубы ў людзей зазвычай у малалецтве і ў старасці. Нават сярэдняга веку беларус, ужо добра змучаны недахопам фтору, а праз гэта і выдаткамі дрэннага пераж оўвання ежы, кажа са шкадобай: "Не паспеў азірнуцца, як дзяцінства агарнула старасць".

Гэтыя імклівыя метамарфозы, дарэчы, у многім вызначаюць нашую памяркоўнасць і ўхваленую ў мітах пра беларусаў талерантнасць. Калі няма мажлівасці (альбо яе адчування) добра глымануць зласліўца, дык, вядома ж, будзеш імкнуцца як-небудзь дамовіцца, а то і саступіць.

Старасць у нас, можна сказаць, чапляецца за дзяцінства, як падпіты гуляка за вугал хаты ці вушак дзвярэй. Даволі часта ў вёсках яшчэ можна ўбачыць і пачуць вось такія забаўкі старых. Апанаваўшы каторага шчарбатага смешнага мальца, у якога мяняюцца пярэднія малочныя зубы на "касцяныя", каб праз якія пару дзесяцігоддзяў ужо канчаткова выпасці, дзядок (зазвычай менавіта дзед) прыціскае яго да сябе, шкамутае, зазірае ў вочы ды здзекліва пытаецца:

– Авохці мне! А дзе твае зубы? Дзе? Мусіць, з бабай спаў. Мусіць, баба на печы выпердзела!..

– Не, не, пусці, – круціцца вужом жэўжык. А дзеду ўцеха.

Так слабая старасць злёгку, смехам здзекуецца з яшчэ больш слабога маленства, каб хоць крыху разагнаць прыгнёт нажытага смутку. Так жартачкамі чалавек хоць на імгненне хоча вярнуць свой пачатак: маўляў, у цябе, хлопча, як і ў мяне, зубоў нямашака...

Але звярніце ўвагу на адметную дэтальку ў гэтым цвяленні: зубы выпердзела баба! Пажыццёвы антаганізм з буркатлівай уедлівай старой і тут праразаецца сваімі бадлівымі рожкамі. З пакалення ў пакаленне. Ну вядома ж, уся злыбяда – ад сварлівай змрочнай бабы.

Не хацеў бы абагульняць, але ўсё ж мушу прызнацца, што людзі з дрэннымі зубамі і наогул бяззубыя зазвычай раздражняюць мяне менш, чым шчодра адораныя узорным святлом усмешкі. Гэта ж па сутнасці сваякі, у асноўным блізкія мне па паходжанні вяскоўцы, якія ў адрозненне ад гараджан куды радзей робяць сабе пратэзы.

Асмелюся сцвярджаць: вобразы нашых бацькоў, якія аднойчы на ўсё жыццё западаюць у сэрца, найбольш адпавядаюць іх праўдзіваму абліччу ў пару росквіту і сілы. Гадоў у сорак. У мяне атрымалася так. Бацькі запомніліся шчарбатымі. О, колькі б я аддаў, каб вярнуць тую стрыманую, крышку сарамлівую на людзях усмешку татулькі!

Я і сам цяпер (вы ўжо ведаеце, чаму) стрымана ўсміхаюся і маю спадзеў, што хоць крайком вочак у мяне ўглядваюцца дочкі, запамінаюць...

Ці не здаецца і вам, што менавіта з прычыны сваёй шчарбатасці беларусы не надта ўсмешлівыя, а праз гэта і скутыя ў гумары і даволі часта маюць славу тумарнікаў. Верагодна!

Зноў жа звярнуся да свайго досведу. Мая жонка, як для беларускі, дык мае найвыдатнейшыя зубы (бываюць і выключэнні!). Альбо яна не беларуска... Гляджу і бачу: з надыходам сталасці куды весялейшая, больш бестурботная, чым я. Больш усмешлівая і адкрытая ў сваёй шчырасці.

А між тым слабіна, якую даюць нашы зубы, хоць адным карысная: пакрысе спрыяе філасофскаму асэнсаванню рэчаіснасці. Страціўшы першы зуб, мы з прыкрасцю і нават з дрыжакай абмірання ў душы ўсведамляем, што нашае цела (выбачайце за сугучча) ужо няцэлае, што гэта пачатак няўмольнага сыходу ў небыццё. Беларусы ў сваёй бальшыні рана пачынаюць жыць з прыкрай мецінай уладаркі свету.

Калі б я быў мастаком і ўзяўся маляваць традыцыйны вобраз смерці – шкілет з касой, захінуты ў чорны, змрочны, нібы ноч, балахон, дык заўсёды маляваў бы ў яе цалюткія, адзін да аднаго зубы. Каб падкрэсліць страшную пераканаўчую дасканаласць немінучай сведкі нашага жыцця. А вось мы далёкія ад ідэалу, бо жывыя.

Адзін знаёмы святар, пранікнёны чалавек, казаў мне так:

– І не ўстаўляйце, Сымон Язэпавіч, штучныя зубы, не кратайце Божых мецінаў, бо немагчыма ўдасканаліць жывое...

І я збянтэжыўся.

Дык што, пакорліва чакаць, пакуль усе зубы не выкрышацца, каб усвядоміць сваю бездапаможнасць і нікчэмнасць у гэтым свеце і, маючы спадзеў, спехам даспяліць душу для лепшага спаткання? Якую ж тады трэба мець мужнасць, каб нават не заказаць сабе з адчаю суцэльны пратэз з поўным наборам цесненькіх зубоў! Пратэз, які нанач кладзецца з вадою ў малянкоўскі стакан. У маленстве я бачыў такі пратэз у састарэлай суседкі Хімы (зубы ставіліся на паліцу) і быў уражаны не менш, чым першым у жыцці аглядам дзявочых прыўкрасаў.

Я ўжо казаў, як цвеляцца дзяды з дзетак, у якіх мяняюцца малочныя зубы, чапляюцца да неўладкаванага, няпэўнага ў "зубным" досведзе маленства. Так і бабці. Бывае, каторая немаведама якімі высілкамі раскусіць крыкліваму ўнуку ці ўнучцы арэшак ды лісліва звяртаецца да малечы:

– А ты, як у бабы старой зубоў не стане, будзеш за мяне жаваць?

– Буду, буду, – смяецца дуронік.

Прачытаўшы гэтыя нататкі, які-небудзь начальнік дэпартамента па зубных праблемах у Міністэрстве аховы здароўя залічыць мяне ў цемрашалы, падумае, што я не ведаю, як важна для чалавека правільна перажаоўваць ежу, і, больш за тое, успрыме мой твор як шкодную для народа апалагетыку бяззубасці і

аслаблення волі перад няўмольным націскам лёсу. Ды яшчэ ўпікне, што я такім чынам спрабую апраўдаць сваю ўласную боязь свідравальнай машынкі і блішчастых шчыпцоў-сціскаанцаў.

Гэта не так.

Мне наогул падабаюцца людзі, якія зубамі чапляюцца за жыццё: устаўляюць залатую фіксу спераду дзеля прыгажосці, выштукоўваюць у майстра-адмыслоўца парцалянавую ўсмешку, каб лепш было падманваць публіку, калі ёсць лішкі грошай, дыяменты ў свідравінкі ўклейваюць, імплантанты замест назаўсёды страчаных зубоў мудрасці ўжыўляюць... Проста я вельмі люблю сваіх братоў-беларусаў, сярод якіх шчарбатыя, асабліва на вёсцы, – бальшыня. І чамусьці зноў і зноў разбірае шкадоба, што не склаліся ў мяне рытмічна арганізаваныя тэксты пра нашае шчарбатае жыццё.

Тым больш што я нават надумаў спосаб азнаямлення публікі з гэтымі тэкстамі. Гэта была б своеасаблівая візуальная кніга. На сценах глядзельнай залы – мае тэксты, выведзеныя лазернай друкаркай і ўзятыя пад шкло ў вытанчаныя рамкі. Паўз сцены – вялізныя керамічныя зубы – кутныя, на два карані, пярэднія... У мяне ж ёсць сябра-кераміст, які на ганчарным крузе выштукуе што заўгодна, нават выяву жанчыны. А яшчэ ён пакрывае кераміку нечым блішчаста-металёвым, накшталт золата. І вось уявіце сабе: на сценах – тэксты, зала ўстаўлена керамічнымі зубамі. У адным зверху прабіта чаропка – “дупло”, але яно напоўнена зямлёй, у якой блякла квітнее быльнёг, у другім зубе “дупло” замуравана блішчастай пломбай, яшчэ адзін зуб – цалкам пад металёвай каронкай... Эх, шкада, не надарылася.

А задума не забываецца, не сыходзіць з галавы. Зусім нядаўна я нават правёў невялічкае правакацыйнае апытанне. Ва ўсіх сваіх знаёмцаў пацікавіўся:

– Колькі ў цэлага чалавека зубоў?

– Трыццаць два, – адказвалі ўсе без вынятку.

– А з зубамі мудрасці? – не даваў я перадыху.

І тут ужо ў многіх маіх рэспандэнтаў здарылася замінка. І некаторыя гаварылі, што кутнікі, так званыя зубы мудрасці, у гэты лік не ўваходзяць. І гэтыя адказы спадабаліся мне больш за правільныя. 32+2! Лішніх зубоў ніколі не бывае! Тым больш у Беларусі. Тым больш – мудрасці. 32+2! Вось яна, своеасаблівая формула запасу нашай трываласці перад націскам часу.









# Мікола Купрэеў

*Тады зноў да мяне ідуць мае сны, каменне, жанчыны, і травы, і дрэвы, а маланкі і птушкі зноў пралятаюць міма...*

# Каменне ля дарог

1

Сеў на камень-валун. Варушыцца. І варушыцца трава. І вербы варушацца і ў неба йдуць. І ўгары, пад нагамі Бога, аблокі варушацца. І голас ціхі, Богавы, просіць: не варушыце вы там, унізе, Мяне.

Тады я камень перавярнуў: і чарвяк, ружовы і тоўсты, на мяне з чорнай зямлі зірнуў, і я вочы свае схаваў-заплюшчыў, але ведаў: чарвяк глядзіць на мяне – адкуль я гэткі ўзяўся, мне б у аблоках схавацца, пад Богавымі нагамі, і вочы заплюшчыць навечна – каб не бачыць, не ведаць, што пад камянямі, якія сюды прыйшлі з перыяду ледавіковага, ужо нічога няма, апроч горкае зоркі Чарнобыля і сівога каменя, на якім я сядзеў і які пада мной варушыцца і які з зямлі ўзняўся і дзесьці варушыцца там, у аблоках, пад Богавымі нагамі.

2

Камень свой я нясу на гарбе ўгару ці ўніз? Не данясу яго да мэты – угару ці ўніз?

Стаіць ля свайго каменя сівы Сізіф, пот выцірае з лобу. Камень свой ля сцежкі сваёй скінуў са спіны. Глядзіць на мяне спадылба, пасміхаецца. І мы размінуліся. Толькі не помню: ці ўгару я пайшоў ці ўніз? І куды пацягнуўся Сізіф?

3

Сяджу на траве з каменем. І раптам маленькі каменьчык упаў ля мяне. Глянуў убок: жанчына кідала – з поля, з-за кустоў. За што?..





4

Знайшоў старажытную сякеру. Каменную. Хацеў адсячы ёю вярбовы сук – на кульбу. Не змог. Адрэзаў сцізорыкам. Але далоні мае сталі поўныя мазалёў...

5

На камені – крыж. Можа, сімвал сонца? Можа, пячатка Ярылы?

І пайшоў я за куст. Ярыла там голы стаяў, далонямі хаваў сваю плоць. Што ж ты робіш? – кажу. – Гэтай дарогай ідуць жанчыны цнатлівыя. А ты – вечны Ярыла. Сонца пакінь і маланкі. Поле ўзары ўдавіцы Алесі, жыта пасей ёй, кінь сваё сонца, у хату ідзі да яе – не прычакала яна свайго мужа з вайны і ўнука з Чарнобыля.

О, агонь твой, Ярыла!..

Ён рукі ўзняў да нябёсаў і знік там – пад Богавы ногі.

# Жанчыны ля дарог

***

Вясновы першы гром зламаў вярбіну ля дарогі, і калі маланка бліснула за горы Наваградчыны на захад, сышла з дарогі цётка Элаіза і адламаную вяршынку ў зямлю ўваткнула, але маланка з громам зноў вярнуліся сюды, зламалі зноў вярбу-калеку і на ўсходзе сціхлі, Цётка расчапіла ўваткнутую ў зямлю вярбінку і ў яе ўлажыла новы аскялепак дрэўца, і ў неба пырснулі зялёныя пупышкі, звонка лопнулі і сталі апантаным юным лісцем, Цётка апранулася сястрою міласэрнасці, голаў узняла між захадам і ўсходам, памалілася, сказала: “Во – Хрэст на свабоду!” – і калі адбліскаў тут мільён маланак,

адгрымеў мільён грамоў, ля высокае і зраненай вярбы-крыжоўкі паўстала маладая Валянціна Коўтун, і слёзы падалі з яе вачэй на ўсохлае карэнне ля дарогі...

***

Ля скрыжавання шырокіх і доўгіх дарог паўстала Высокая і Маладая. Вершнік на белым кані тут ціха спыніўся з чырвоным шчытом у левай і з мечам у правай руцэ, але меч той панікнуў долу, і высахла пена на цуглях. Мужчыну з каня зняла, палажыла яго пад сасною, на астылую спіну каня ўскочыла, белыя ногі – у страмёны гострыя, шчыт левай рукой узяла, правай меч узняла, конь голаў ускінуў, заіржаў у нябёсы і капытом ударыў, вецер грыву ўзвіхрыў, і яны паляцелі – белы конь і на ім – Маладая з чырвоным шчытом і з мечам высокім. Пад сасною мужчына ад ранаў стагнаў, а над ім то на ўсход, то на захад віхура-Пагоня ляцела – можа, апошні раз – з нябёсаў падала бела-чырвоная пена...

***

Бегла жанчына між дрэў, зачапіла ў кусце салаўя, і разам упалі ў траву, заблытаўся ён у яе спадніцы, трапянуў недзе крыллем там і маўчаў, нарэшце з палону выбіўся, узляцеў на галінку цвітучай рабіны, кінуў горлайка ў неба і так заспяваў, што ажно здрыгануўся Варшаўскі шлях. Я крыкнуў – паляцела спужана птушка ў кустоўе, я застаўся адзін над жанчынай, глядзіць з травы яна на мяне здзічэла, і песню травы не спявае ніхто. І ўзяў я на рукі яе і панёс на Шлях.

– Куды ты, – кажу, – на Маскву ці Варшаву?

– Не. Я – туды, куды паляцела птушка...

***

Прыгожая, пяшчотная Рагнеда ў чаканні князя Уладзіміра гастрыла нож аб камень ля дарогі на *Заслаўль*. Штурхаў ножкамі на белым палатне аблокі ў бок Кіева і плакаў Ізяслаў, але







чырвоныя аблокі ішлі ў бок Полацеска, і нож звінеў на камені. Тады ля каменя паўстала Ефрасіння і рукой святою ўзяла ў Рагнеды нож гарачы і кінула яго ў крывіцкую дрыгву – на той бераг дарогі на *Заслаўе*...

***

На былым балоце ля дарогі ў Глінішча палола буракі, над ёй агнём спусціўся з неба, белым крыллем выцер пот і слёзы на твары Ганны. Анёл узняў яе з сабою ў неба, але яна там развінула крылле-рукі белыя, балюча ўпала на зямлю – каб дапалоць на тым былым балоце буракі...

***

Хацеў узысці на дарогу, ды раскінула рукі – не пусціла, паказала вачыма ўніз – на куст альховы над рэчкай, на траву пад кустом, рутай-мятаю пахла адтуль. Узяў высока на рукі Яе. Там – Яна пахла вячэрнім туманам, травой, і альхою, і мятай, ракою і лодкай ля берага. Вясло ў лодцы было сухое – даўно чакала...

## Я ля апошняй дарогі

Ля дарогі маёй – у траве, у свежых капіцах сена, пад соснамі і бярозамі, у лодцы ля берага ў чаратах – стаялі сны мае, каменне, жанчыны, ды міма ляцелі птушкі, аблокі, маланкі кудысьці далёка, туды ніяк я не мог скіраваць сваю лодку, і яна счарнела з самоты-журбы – тады я адчайна схапіў вясло і ўдарыў яго аб камень і стаю ля апошняй сваёй дарогі з разбітым вяслом, жабы вечарам з лодкі крычаць, і барты яе крэкчуць-развальваюцца.

Тады зноў да мяне ідуць мае сны, каменне, жанчыны, і травы, і дрэвы, а маланкі і птушкі зноў пралятаюць міма...



# Олдас Хакслі

**О**лдас Леапольд Хакслі нарадзіўся 26 ліпеня 1894 года ў сям'і, з якой паходзілі найбольш выбітныя прадстаўнікі інтэлектуальнай эліты Англіі. Бацька Олдаса быў сынам Томаса Генры Хакслі, знакамітага біёлага, які зрабіў ладны ўнёсак у распрацоўку тэорыі эвалюцыі. Маці Олдаса была сястрой пісьменніцы Хэмфры Уорд і даводзілася пляменніцай паэту Мэцью Арнальду, а таксама была ўнучкай Томаса Арнальда, вядомага дзеяча ў галіне адукацыі і дырэктара Школы рэгбі, які стаўся правобразам героя навелы "Школьныя дні Тома Браўна".







Паходжанне і выхаванне Хакслі, безумоўна, паўплывалі на ягоную творчасць. Геральд Хэрд, даўні сябра пісьменніка, казаў, што знакамітая спадчыннасць "ціснула на яго цяжарам інтэлектуальнага аўтарытэту і ўскладала пэўныя маральныя абавязкі". Падвойнае стаўленне да гэтага аўтарытэту, на які паноўны клас заўсёды заяўляў свае правы, відавочнае праз усю кнігу "Гэты новы харобры свет".

Утопія Хакслі, як тое было і ў тагачаснай Англіі, заснавана на жорсткім класавым падзеле грамадства; аднак у кнізе гэты падзел яшчэ больш выразны, бо абумоўлены не толькі сацыяльнай рознасцю. Ён прадвызначаны біялагічнымі і хімічнымі структурамі будовы гэтага свету. А таму чальцы паноўнага класа "Гэтага новага харобрага свету" цалкам перакананыя ў тым, што яны валодаюць правам рабіць людзей шчаслівымі, пазбаўляючы іх дзеля шчасця любові і свабоды.

Уласны досвед Хакслі прымушаў яго трымацца адасоблена ад асяродку, з якога ён паходзіў. Яшчэ ў дзяцінстве на Олдаса глядзелі як на не падобнага да іншых, бо ён вылучаўся насцярожаным недаверам жывога розуму, што ягоны брат лічыў за праяву переваті. За гэтыя здольнасці яго паважалі, але не тое, каб моцна любілі. Такое стаўленне да сябе Хакслі і скарыстаў пры напісанні "Гэтага новага харобрага свету". Бернард Маркс і Хельмхольц Уотсан, абодва прадстаўнікі вышэйшага класа, таксама маюць праблемы, і якраз таму, што абодва не падобныя да іншых чальцоў эліты. Хакслі адчуваў, што паходжанне і спадчыннасць робяць кожнага чалавека унікальнай асобай, і менавіта унікальнасць індывіда ёсць аснова свабоды. Як і ягоная сям'я, як і Альфас з "Гэтага новага харобрага свету", Хакслі адчуваў, што мае маральны абавязак − абавязак змагацца супраць ідэі, што шчасця можна дасягнуць праз класава інстытуалізаванае рабства, нават калі гэтае рабства і набывае самыя бяскрыўдныя формы.

Яшчэ адной падзеяй, што моцна паўплывала на Хакслі, стала смерць маці, якая памерла ад раку, калі хлопчыку было чатырнаццаць гадоў. Пазней ён скажа, што гэтая смерць прынесла

яму ўсведамленне нетрываласці чалавечага шчасця. У "Гэтым новым харобрым свеце" таксама можна адшукаць знакі тае страты. У сваім адмаўленні факта смерці і ў пошуках вечнага шчасця жыхары утопіі пераходзяць усе межы. Але ў што ўсё гэта выліваецца? Адкідваючы ўсялякія непрыемныя эмоцыі, утапісты пазбаўляюць сябе магчымасці мець і якія-кольвек асабістыя радасці. Іхняе шчасце можа доўжыцца адно пакуль яны прымаюць спецыяльна вынайдзенае рэчыва сому, займаюцца каханнем ці гуляюць у абсурдна перакуленую гульню гольф, аднак сутнасна гэта пустое шчасце. Жыхарам утопіі супрацьпастаўляюцца людзі-дзікуны з рэзервацыі ў Нью-Мехіка: бедныя, нямытыя, хворыя на ўсе хваробы старога веку. Да таго ж, напрыканцы жыцця іх чакае пакутніцкая смерць. Аднак Хакслі, падобна, лічыць, што іхняе шчасце, хаця і часовае, усё ж глыбейшае і больш праўдзівае за шчасце жыхароў Лондана дый астатніх частак Дзяржавы Свету.

У шаснаццацігадовым узросце Хакслі, студэнт прэстыжнай Ітанскай школы, з-за хваробы вачэй амаль цалкам страціў зрок. Праўда, яго ўдалося часткова аднавіць. Гэта дазволіла Хакслі паступіць у Оксфардскі універсітэт і паспяхова скончыць яго. Аднак з-за хваробы Хакслі не трапіў у войска. Гэта быў час Першай сусветнай вайны, удзел у якой шмат для каго з ягоных сяброў стаў істотнай часткай жыццёвага досведу. З тае ж прычыны Хакслі мусіў адмовіцца ад заняткаў навуковай працай, пра якую марыў увесь час. Тым не менш ён не забываецца на свае навуковыя ідэі і выкарыстоўвае іх у шмат якіх кнігах, і асабліва ў "Гэтым новым харобрым свеце". Ідэя візуалізацыі застаецца важнай для яго; ягоныя раннія навелы ўтрымліваюць сцэны, якія,як падаецца, з'яўляюцца ідэальнымі для экранізацыі. Пазней Хакслі робіцца кінасцэнарыстам.

У літаратурны свет ён увайшоў падчас навучання ў Оксфардскім універсітэце. Гэта былі знаёмствы з такімі пісьменнікамі, як Літан Стрэчы і Бертран Расэл. Хакслі таксама робіцца блізкім сябрам Д.Лоўрэнса, з якім, як можа падацца, ён амаль нічога не меў супольнага.



У 1916 годзе Хакслі надрукаваў сваю першую кнігу, зборнік вершаў. У 1919 годзе ён ажаніўся з бельгійкай Марыяй Ніс. Іхняе адзінае дзіця, Мэцью Хакслі, нарадзілася ў 1920 годзе. У 20-я гады сям'я бавіла свой час у Лондане ці на кантыненце, галоўным чынам у Італіі. У 1925 і ў 1926 гг. яны падарожнічаюць па ўсім свеце, наведваюць Індыю і першы раз – Злучаныя Штаты.

Хакслі палюбіў адкрытасць, жыццёвую энергію і "высакародную экстравагантнасць", якія ён сустрэў у Амерыцы. Аднак ён не быў цалкам упэўнены ў тым, ці падабаецца яму, якім чынам гэтая жыццёвая энергія выяўляецца "ў месцах публічных забаваў, у танцах і ў аўтамабільным спорце... Няма, напэўна, у свеце больш месцаў, дзе людзі так мала камунікуюцца... Увесь час гэта рух і тлум, падобныя да булькатання вады, якая імкліва выцякае з балеі ў каналізацыйныя трубы. У каналізацыйную апраметную". Гэтыя думкі пра актуальны свет з кнігі "Жартаўлівы Пілат" прызначаліся дзеля расфарбоўкі той карціны вечнага шчасця, якую Хакслі паспрабаваў намаляваць у "Гэтым новым харобрым свеце".

Досвед, які ён набыў у фашысцкай Італіі, дзе Бэніта Мусаліні ўзначальваў аўтарытарны ўрад, што змагаўся супраць кантролю нараджальнасці з тым, каб забяспечыць выпрадукаванне чалавечай энергіі ў дастатковай колькасці, таксама даваў матэрыял для Хакслевай дыстопіі. Гэтай мэце служыла і чытанне кніг крытычнага зместу пра Савецкі Саюз.

Кнігу "Гэты новы харобры свет" Хакслі напісаў у 1931 годзе за чатыры месяцы. Яна выйшла ў свет праз тры гады пасля публікацыі ягонага бестсэлера, навелы "Пункт — кантрапункт". На працягу гэтых трох гадоў ён напісаў шэсць кніг апаведаў, эсэ, вершаў і п'ес, аднак нічога буйнамаштабнага. Ягоны біёграф Сібіл Бэдфарт кажа: "Гэта быў час, каб напісаць які-небудзь новы вялікі мастацкі твор, у якім спалучэнне мастацкай формы з магчымасцямі, што адкрывала для будучыні навука, стварала б новую тэндэнцыю".

Паколькі "Гэты новы харобры свет" апісвае дыстопію, кнігу

часта параўноўваюць з оруэлаўскім “1984” годам, раманам, які таксама апісвае мажлівы жахлівы свет будучыні. Свет 1984 года – гэта свет тыраніі, жаху, стану пастаяннай вайны. Оруэл напісаў сваю кнігу ў 1948 годзе, неўзабаве пасля таго, як саюзнікі атрымалі перамогу над нацысцкай Германіяй у Другой сусветнай вайне, калі Захад адкрываў для сябе ўсю бездань жахаў савецкага таталітарызму.

Важна таксама ўзгадаць, што Хакслі напісаў “Гэты новы харобры свет” у 1931 годзе, яшчэ да таго, як Адольф Гітлер прыйшоў да ўлады ў Нямеччыне, а Іосіф Сталін распачаў чысткі, якія пазбавілі жыцця мільёны людзей у Савецкім Саюзе. Гэта азначае, што Хакслі не меў аніякага непасрэднага досведу з рэальнага жыцця, які б змусіў уводзіць тыранію і тэрор у якасці галоўных элементаў ягонага твора. У 1958 годзе ён сам зазначыў: “Будучая дыктатура майго ўяўнага свету была значна меней брутальная, чымсьці будучая дыктатура Оруэла, якую ён так бліскуча апісаў”.

У 1937 годзе Хакслі пераехаў у Злучаныя Штаты; у 1938-м прыйшоў у Галівуд, дзе стаў сцэнарыстам (у ліку фільмаў, знятых па ягоных сцэнарах, адаптацыя “Ганарлівасці і прымхаў” Джэйна Осціна з маладым Лоўрэнсам Аліўе ў галоўнай ролі). Большую частку свайго жыцця ў Амерыцы Хакслі правёў у Каліфорніі, і адна з ягоных навелаў якраз і падае карыкатурнае апісанне таго, што ён успрымаў як дзіўнае тамтэйшае жыццё. У гэтай навеле фінансавы магнат Джо Стоўіт пры дапамозе навуковых эксперыментаў спрабуе дасягнуць несмяротнасці. Дзеля гэтага ён нават гатовы адмовіцца ад стану чалавека і вярнуцца ў стан жывёлы. Відавочна, што тут мы маем справу з пэўнымі рэмінісцэнцыямі з “Гэтага новага харобрага свету”.

У 1946 годзе Хакслі напісаў прадмову да “Гэтага новага харобрага свету”, дзе зазначыў, што ў адрозненне ад таго, як тое было пададзена ў ягоным рамане, ён болей не хоча рэпрэзентаваць сацыяльную нармальнасць як немажлівы стан. Хаця Другая сусветная вайна знішчыла каля 20 мільёнаў чалавечых жыццяў у






Савецкім Саюзе, каштавала жыцця 6 мільёнам габрэяў і яшчэ некалькім мільёнам людзей, а вынайдзеная атамная бомба хавала ў сабе пагрозу яшчэ большага знішчальнага эфекту, Хакслі ўмацаваўся ў перакананні, што стан нармальнасці, хай сабе пакуль і “даволі нетыповы”, усё ж такі дасягальны, і казаў, што хацеў бы стацца сведкам ягонага паступовага ўсталявання. У тым жа годзе ён надрукаваў “Адвечную філасофію”, анталогію тэкстаў з уласнымі каментарамі адносна містычных і рэлігійных аспектаў здаровага жыцця ў здаровым грамадстве.

Хакслі таксама турбавалі тыя пагрозы, што паўставалі на шляху да нармальнасці. У 1958 годзе ён надрукаваў “Новае падарожжа ў гэты новы харобры свет” – зборнік эсэ, прысвечаны рэальным жыццёвым праблемам і асэнсаванню тых ідэяў, што можна знайсці ў “...Харобрым свеце”. Гэта праблемы перанаселенасці, звышзаарганізаванасці і псіхалагічных тэхнік уздзеяння на чалавека, пачынаючы ад умення прасунуць ідэю і заканчваючы гіпнапедыяй, ці своеасаблівымі прыёмамі ўвядзення ў стан сну. Усе яны з’яўляюцца інструментамі, якімі могуць злоўжываць урады, каб пазбавіць чалавека свабоды. Хакслі хацеў перасцерагчы і актывізаваць людзей супраць гэтых злоўжыванняў. Калі вы зацікаўленыя ў тым, каб глыбей зразумець сувязь, што існуе паміж ягоным яшчэ адным кепскім светам і рэальным жыццём, прачытайце “Новае падарожжа ў гэты новы харобры свет”.

У 50-я гады Хакслі робіцца знакамітым і з прычыны цікаўнасці да псіхадэлікі, ці да хімічных рэчываў, што пашыраюць свядомасць, такіх як мескалін і ЛСД, якія ён цягам дзесяці гадоў неаднаразова, відаць, ужываў. Сібіл Бэдфарт кажа, што ён шукаў такога сродку, які б дазваляў уцячы ад самога сябе і які, калі прымаць яго з пэўнай перасцярогай, быў бы бясшкодны як для ўласнага здароўя, так і для соцыуму.

Хакслі верыў у станоўчыя магчымасці падобных сродкаў і лічыў свае кнігі карыснымі для грамадства. Дзве з іх напісаныя на падставе досведу эксперыментавання з мескалінам пад наглядам урача. Гэта дакументальныя кнігі “Брама перцэпцыі” (1954) і

“Нябёсы і апраметная” (1956). Некаторыя чытачы ўбачылі ў гэтых кнігах заклік да свабоднага эксперыментавання з наркотыкамі. Аднак Хакслі ў дадатку да “Д’яблаў Лаўндуну”, рэчы, якая ўяўляе сабою псіхалагічны досвед аднаго з эпізодаў французскай гісторыі, перасцерагаў пра небяспеку такога эксперыментавання.

Яшчэ адной працай, у якой Хакслі засяроджваў сваю ўвагу на наркотыках і нармальнасці, была “Выспа” (1962). Над праблематыкай гэтай навелы ён думаў дваццаць гадоў і пяць гадоў пісаў яе. Як і некаторыя іншыя рэчы, “Выспа” была нейтралізатарам добрай утопіі “Гэтага новага харобрага свету”. Хакслі раскрытыкаваў напой сому – напаўтранквілізатар, напаўінтаксікант, які ўжывалі чальцы “Гэтага новага харобрага свету”, што прадукаваў стан штучнага шчасця, даючы людзям пачуццё асалоды пры адсутнасці свабоды...

За сваё доўгае творчае жыццё Хакслі напісаў 47 кніг. Англійскі крытык Энтані Бергіс казаў, што Хакслі заўсёды далучаў да сваіх раманаў інтэлект. Іншыя сцвярджалі, што Хакслі найбольш дасканалы як эсэіст, а не як навеліст, менавіта таму, што ён хутчэй клапаціўся пра выклад сваіх ідэяў, чым пра сюжэт ці распрацоўку вобразаў герояў. Ягоныя ідэі часта проста ўстаўленыя ў навелы.

Значэнне, якое Хакслі надаваў ідэям, і ягоная, так бы мовіць, скура эсэіста не могуць, аднак, засланіць аднаго важнага факта: найбольш чытэльныя і запамінальныя ягоныя кнігі – гэта ўсё мастацкія творы – такія, як “Жоўтая вохра”, “Пункт — кантрапункт”, напісаныя ў 20-я гады, “Гэты новы харобры свет” і “Пасля доўгага лета памірае лебедзь”, напісаныя ў 30-я гг. У 1959 годзе Амерыканская Акадэмія мастацтваў і прыгожага пісьменства прысудзіла яму Прэмію за заслугі, якая выдаецца кожныя пяць гадоў. Раней лаўрэатамі гэтай прэміі былі Эрнест Хэмінгуэй, Томас Ман і Тэадор Драйзер.

Кола інтарэсаў Хакслі можна ўявіць паводле ягонай зацемкі адносна той працы, якую ён прарабіў дзеля напісання “Выспы”. “Папярэднія росшукі” ўлучалі ў сябе “вывучэнне грэцкай гісторыі, палінезійскай антрапалогіі, пераклады будысцкіх тэкстаў з санскрыта і кітайскай мовы, чытанне навуковых артыкулаў па фармакалогіі, нейрафізіялогіі і адукацыі, розных раманаў, паэтычных зборнікаў, крытычных эсэ, падарожных нататказ, палітычных каментараў, а таксама размовы з рознымі людзьмі – ад філосафаў да актörак, ад пацыентаў псіхіятрычных клінік да прамысловых магнатаў з Ролс-Ройса...” Выглядае, што падобнымі крыніцамі, хаця, напэўна, іх было меней, ён карыстаўся і пры напісанні “Гэтага новага харобрага свету”.

Вышэйпададзены пералік дае пэўнае ўяўленне і пра кола ідэяў, распрацоўкай якіх займаўся Хакслі. Ён быў таксама аўтарам аднаго з першых эсэ, прысвечаных экалагічным праблемам. Гэтая праца пазней паспрыяла разгортванню сучаснага экалагічнага руху. Хакслі быў пацыфістам. Пацыфісцкія перакананні не дазвалялі яму прыняць амерыканскае грамадзянства. Але ён ніколі б не сказаў, што пацыфізм быў для яго чымсьці накшталт рэлігіі, нечым, з-за чаго ён адмовіўся б ісці ў войска.

Усё сваё жыццё Хакслі пражыў амаль сляпцом. Марыя Хакслі памерла ў 1955 годзе, і праз год Хакслі ажаніўся з Лаўрай Арчэры.

Хакслі памёр 22 лістапада 1963 года, у той самы дзень, у які забілі прэзідэнта Джона Кенэдзі. Хакслі крэміравалі, а ягоны попел пахавалі ў магіле ягоных бацькоў у Англіі.

**Пітэр СМІТ**

***Пераклаў з англійскай Айраом АРОЧКА.***

# Х'ЮБЕРТ І МІННІ

Для Х'юберта Лейпеля першае каханне было надзвычай істотнае. Ён так і напісаў у дзённіку: "Істотнае". Падзея, сапраўдная падзея, што дадала ў жыццё драбок разнастайнасці. Ён адчуваў, што гэта была вяха ў яго духоўным развіцці.

"Вальтэр, – напісаў ён у дзённіку (а потым паўтарыў у лісце да Мінні), – Вальтэр казаў, што чалавек паміpae двойчы: адзін раз – са смерцю цела, а яшчэ раз – раней, калі ў ім паміpae здольнасць кахаць. Гэтак жа сама чалавек нараджаецца двойчы: другі раз – калі ўпершыню пакахае. Тады яму адкрываецца новы свет – свет больш напружаных пачуццяў, больш узвышаных каштоўнасцяў, больш глыбокага пранікнення ў сутнасць рэчаў". І да т. п.

Але насамрэч гэты новы свет злёгку расчараваў Х'юберта. Больш напружаныя пачуцці выходзілі нейкія кволыя і ну ніяк не адпавядалі літаратурным узорам:

*Кажу табе: я апантаны*
*Каханнем да Крэсіды. Адкажы: яна чароўная,*
*Пралі на рану майго сэрца*
*Ты вочы, валасы, і твар, і голас, і хаду яе...*

Не, вядома, гэта было зусім не тое. Так, праўда, у дзённіку, у лістах да Мінні ён зрабіў шэраг цудоўных рамантычных замалёвак гэтага новага свету. Але ў ягоных карцінах рэальнасць аздаблялі ўяўныя краявіды ў стылі Сальватора Розы: яны буялі, раскашавалі, гралі святлом і ценямі з большай мастацкасцю, чым у жыцці. Ён хіжа накідваўся на самы драбнюткі пробліск тугі, ці то жадання, ці то духоўнага памкнення, каб зрабіць з іх у сваіх эпісталах і дыярыюшах нешта сапраўды дыхтоўна-рамантычнае. Часам (як правіла, позна ўночы) ён даваў-такі рады і пераконваў сябе, што ён і ёсць самы ўтрапёны, самы няшчасны, самы жарсны каханак на свеце. Але калі ў дзённым святле Х'юберт разглядаў свае пачуцці – у ім спела нейкая крыўда на каханне. Усё гэта нeяк удавала на падробку. Так, вырашыў ён, пэўна: падробка. Але ўсё роўна меркаваў, што гэта істотна.

Аднак для Мінні каханне было зусім не падробка. Яна самазабыўна кахала яго ледзь не з першай хвіліны знаёмства. Х'юберта прывёў на яе звычайную вечарыну па серадах іх агульны знаёмы. "Гэта м-р Лейпель, але ён гэткі малады, што яго немагчыма зваць інакш як Х'юберт", – так яго адрэкамендавалі. І яна смеючыся пацiснула яму руку й адразу назвала Х'юбертам. Ён таксама засмяяўся, толькі што нервовым смехам. "Мяне зваць Мінні", – сказала яна. Але ён пачуваўся занадта ніякавата, каб хоць як-небудзь у той вечар яе назваць. У яго былі віхрастыя, ускудлачаныя, як у хлопчыка, цёмныя валасы, а сарамлівыя шэрыя вочы глядзелі на цябе не больш як імгненне і адразу ж хаваліся прэч, нібы чаго баючыся. Ён хутка, нецярпліва пазіраў – і зноў адводзіў вочы, а меладычны голас з імклівымі ўздымамі й падзеннямі, нечакана падкрэсліваючы словы, гучаў так, быццам звяртаўся да здані, што лунала над самай галавой суразмоўцы, толькі трошкі ўбаку. Над бровамі ўзвышаўся прыгожа абмаляваны лоб, праз які ад пераносся ўздымалася задуменная зморшчынка. Пульхныя вусны, зазвычай злёгку надзьмутыя, нібыта выказвалі нейкую адвечную незадаволенасць светам. І Мінні думала: вядома, для яго, з ягоным ідэалізмам, свет не надта прыгожы.

– Але, зрэшты, – сур'ёзна сказаў ён у той першы вечар, – можна жыць у свеце мыслення. Ён, прынамсі, просты, дакладны і прыгожы. Заўсёды можна адасобіцца ад гэтай брыдкай валтузні.

З глыбі фатэля, у якім сядзела крохкая, змораная, пасярод гэтага "мастацкага" гармідара амаль недарэчна элегантная Хэлен Глэмбер, пачуўся яе ясны кароткі смяшок.

– А я думаю, наадварот, – сказала яна (Мінні памятала кожную драбніцу таго першага вечара), – я мяркую, чалавек мусіць імчацца па жыцці, знацца з безліччу людзей, есці, піць як

не ў сябе, кахацца як утрапёны, крычаць, рагатаць і лупцаваць усіх астатніх па галаве.

І, выплеснуўшы гэтыя раблезіянскія пачуцці, м-с Глэмбер стомлена ўздыхнула й адкінулася назад у фатэлі, прыкрыўшы вочы рукой, бо ў яе ад болю расколвалася галава, а ад святла балелі вочы.

– Анягож! – смеючыся запярэчыла Мінні. Скажы гэта хто іншы – яна была б у шоку. Але Хэлен Глэмбер дазвалялася казаць што заўгодна.

Х'юберт яшчэ раз зацвердзіў свой квіетызм. Элегантная, стомленая, надзвычай крохкая м-с Глэмбер слухала, паўлежачы ў фатэлі. А можа, спрабавала заснуць, прыкрыўшыся рукою.

Мінні самазабыўна пакахала Х'юберта з першага позірку. Цяпер, аглядаючыся назад, яна бачыла, што гэта было каханне з першага позірку. Яна жадала атуліць, абараніць яго, як маці: зрэшты, ён гэткі малады – усяго дваццаць, нягледзячы на зморшчынку праз увесь лоб, і разумныя словы, і толькі што адкрытыя веды студэнта апошняга курса. Усяго дваццаць, а ёй было амаль дваццаць дзевяць. І закахалася яна найперш у ягоную прыгажосць. Ах, як жарсна, як жарсна закахалася!

Пазней, заўважыўшы гэта, Х'юберт здзівіўся, але самалюбства яго было вельмі ўсцешанае. Падобнага з ім ніколі раней не здаралася. Яму падабалася, каб ім захапляліся, а паколькі Мінні гэтак шалёна яго кахала, яму здавалася, што няма ў свеце нічога больш натуральнага, чым адказаць на яе пачуцці. Сапраўды: не пачні Мінні гэтак за ім упадаць, Х'юберту і ў галаву б не прыйшло закахацца ў яе. Падчас першай сустрэчы яна падалася яму, вядома, даволі мілай, але не асабліва прывабнай. Потым пад уплывам яе непрыхаванага захаплення ён стаў больш ёю цікавіцца і ўрэшце сам закахаўся. Але, мабыць, няма нічога дзіўнага ў тым, што ў Х'юберта пакрысе пачало выспяваць нейкае расчараванне.

У тых выпадках, калі Х'юберт употай вымушаны быў прызнавацца самому сабе, што з гэтай ягонай жарсцю было нешта не тое, ён разважаў, што, безумоўна, каханне без валодання каханай паводле самой прыроды рэчаў ніяк не магло быць сапраўдным. У ягоным дзённіку з'явіліся два вельмі дарэчныя чатырохрадкоўі Джона Дона:






*So must pure lovers' souls descend*
*To affections and to faculties,*
*Which sense may reach and apprehend,*
*Else a great prince in prison lies.*

*To our bodies turn we thererin, that so*
*Weak men on love may look;*
*Love's mysteries in soul do grow,*
*But yet the body is his book*[1].

Падчас наступнай сустрэчы ён прачытаў іх Мінні. Далейшая размова, складзеная з філасофскіх разважанняў ды асабістых прызнанняў, вызначалася ўзнёсласцю. Х'юберт адчуў, што яна сапраўды адпавядала літаратурным узорам.

На наступную раніцу Мінні патэлефанавала сваёй сяброўцы Хэлен Глэмбер і спытала дазволу зайсці на кубачак гарбаты. Трэба было нешта абмеркаваць. Павесіўшы слухаўку, м-с Глэмбер уздыхнула. "Прыйдзе Мінні на кубачак гарбаты", – гукнула яна, павярнуўшыся да расчыненых дзвярэй. Праз калідор даляцеў голас мужа: "О Божухна!" У ім чуліся жах і пакора, ён гучаў здалёк, няўважліва, бо м-р Глэмбер з галавою заглыбіўся ў працу, і над паверхняй, так бы мовіць, каб рэагаваць на благія навіны, засталася толькі макаўка.

Хэлен Глэмбер ізноў уздыхнула і, больш утульна абапершыся на падушкі, пацягнулася па кнігу. Яна ведала гэты голас здалёк, ведала, што ён азначаў: калі яна прадоўжыць гаворку, ён нічога не будзе адказваць, акрамя "гм" ды "м-так". А калі яна і пасля гэтага будзе працягваць, скажа пакутніцкім голасам, ад якога ірвецца сэрца: "Дарагая, дай жа мне заняцца працай". А ёй так хацелася б крыху пагутарыць. Але замест гэтага ёй давялося чытаць далей з таго самага месца, дзе спынілася, каб зняць слухаўку: "На той час полымя ўжо агарнула жаночую частку пабудовы. Дзевятнаццаць разоў ступаў адважны Патрыярх Александрыйскі пад покрыва вагню, адкуль здолеў уратаваць усіх яе чароўных насельніц, апроч дзвюх, усяго дваццаць сем лікам, якіх загадаў адразу перавезці ў свае ўласныя апартаменты..."

Джон любіў, каб яна чытала падобныя павучальныя кнігі. Гісторыя, містэрыя, навука і закон. Але зараз яна была зусім не

схільная да гісторыі. Яна была схільная пагаварыць. Але пра гэта і размовы не магло быць. Ніякай размовы.

Яна адклала кнігу і стала падпільваць пазногці ды думаць пра небараку Мінні. Так, небарака Мінні! Чаму, пачуўшы, што яна зойдзе на кубачак гарбаты, ніхто не мог устрымацца, каб ад усяго сэрца не ўсклікнуць: "О Божухна!"? І чаму ні ў каго не ставала духу, каб адмовіць ёй у запрашэнні? Яна была кранальная, але занудліва кранальная. Ёсць такія людзі, да якіх хочацца добра паставіцца, якім хочацца дапамагаць, быць сябрам. Людзі, што глядзяць на цябе вачыма хворай малпы. Ад іх выгляду разрываецца сэрца. Але ў небаракі Мінні не было нічога ад прывабнасці хворай малпы. Яна была мажнай здаровай маладой кабетай дваццаці васьмі гадоў, якая павінна была б мець сям'ю і дзяцей, але не мела. А якой яна была б добрай жонкай, якой цудоўна ўважлівай, клапатлівай маці... Проста так здарылася, што ніводзін мужчына з тых, каго яна ведала, ніколі не жадаў узяць яе за жонку. Дый з якой гэта ласкі? Калі яна заходзіла ў пакой, святло, здавалася, прыкметна блякла: электрычная напруга падала. Яна не прыносіла з сабою жыцця, а ўсмоктвала тое, што было навокал: яна была як прамакатка. Не дзіва, што ніхто не захацеў з ёю пабрацца. Вось і ўся прычына. Толькі гэтае. Асабліва калі ўлічыць, што сама яна вечна была ў каго-небудзь ды закаханая. Толькі гэтае.

– Джон! – гукнула раптам м-с Глэмбер. – Ці праўда, што тхары?..

Што тхары? – паўтарыў праз калідор ягоны голас. З аддаленым раздражненнем. – Што, праўда, што тхары?...

– Што самчыхі тхароў паміраюць, калі застаюцца без пары?

– Адкуль жа мне ведаць?

– Ты ўсё ведаеш.

– Не, дарагая мая, сапраўды, – голас пакутніцкі, дакорлівы.

М-с Глэмбер накрыла далонню вусны і адарвала руку толькі дзеля таго, каб даслаць паветраны пацалунак.

– Добра, – вельмі хутка сказала яна. – Добра. Выбачай, праўда. Я болей не буду. Праўда, – і да дзвярэй паляцеў яшчэ адзін паветраны пацалунак.

– А тхары, – паўтарыў голас.

– Ш-ш-ш...





– Чаму менавіта тхары?

– Дарагі, – ледзьве не сувора сказала м-с Глэмбер, – давай жа займайся працай.

Надвячоркам прыйшла на кубачак гарбаты Мінні. Выклала абставіны справы спачатку чыста абстрактна, як бы ад трэцяй асобы, але потым, сабраўшыся з духам, распавяла ўсё ад свайго імя. Справа датычылася яе асабіста. З глыбіняў свайго някранутага, па-паганску нявіннага нутра Хэлен Глэмбер давала ёй непрыстойныя парады.

– Хочаш спаць з маладзёнам – калі ласка, спі з маладзёнам, – сказала яна. – Само па сабе гэта зусім неістотна. Прынамсі, не вельмі. Істотна толькі таму, што спрыяе больш глыбокаму даверу, узмацняе пачуцці, робіць мужчыну ў пэўным сэнсе залежным ад цябе. І, нарэшце, таму, што гэта голас прыроды. Я цалкам за прыроду, апроч як у пытаннях макіяжу. Гавораць, што тхары...

Але Мінні заўважыла, што Хэлен гэтак і не скончыла фразу. Мінні слухала, прыгаломшаная і захопленая, здранцвелая, але ўжо ўпэўненая ў сваім выбары.

– Мілы, – спыталася ўвечары м-с Глэмбер, калі муж вярнуўся дахаты (ён не меў у сабе моцы сустрэцца з Мінні і сышоў у клуб), – хто прыдумаў рэлігію, і грэх, і да таго падобнае? І навошта?

Джон засмяяўся.

– Усё гэта прыдумаў Адам з мноства нязначных трансцэндэнтальных прычынаў, якія табе будзе заскладана ацаніць. А таксама з вельмі практычнай мэтай трымаць Еву ў паслушэнстве.

– Ну, калі, па-твойму, ускладняць людзям жыццё – значыць трымаць іх у паслушэнстве, тады я, бадай, скажу, што ты маеш рацыі, – м-с Глэмбер пахітала галавой. – Па-мойму, ўсе гэтыя прыдумкі толькі заблытваюць жыццё. У шаснаццаць – яны да месца. Але да дваццаці трэба ўжо вырасці з падобных забабонаў. А ў трыццаць... Ведаеш, гэтай кабеце ўжо амаль трыццаць. Не, сапраўды...

У рэшце рэшт Мінні напісала Х'юберту, што прыняла рашэнне.

Х'юберт гасцяваў у свайго сябра Уочата ў Хартфардшыры. Вялікі дом, добрая ежа, і пачуваешся там вельмі ўтульна, тым

болей што ў старога м-ра Уочата была вельмі прыстойная бібліятэка. У густым ценю Х'юберт і Тэд гулялі ў кракет ды абмяркоўвалі, як найлепш узгадоўваць сваё "я". І вырашылі, што шмат дзеля чаго можа прыдацца мастацтва – кнігі, карціны, музыка і г. д.

– Паслухай "Вясну святарную" Стравінскага, – гаварыў Тэд Уочат, – і табе не будзе ніякай патрэбы ехаць у Тыбет, ці на Залаты Бераг, ці ў яшчэ якую падобную пачварную мясціну. Замест забойства ёсць Дастаеўскі, а секс заменіць Д. Г. Лоранс.

– Але ўсё роўна, – адказаў Х'юберт, – трэба мець і нейкі ўласны, а не адно ўяўны досвед, – ён гаварыў сур'ёзна і абагулена, хаця ў кішэні ў яго ляжаў ліст ад Мінні. – *Gnosce te ipsum.* Нельга спазнаць самога сябе, не сутыкаючыся з сапраўднымі падзеямі, хіба не так?

На наступны дзень прыехала Феб, стрыечніца Тэда. У яе былі рудыя валасы і малочна-белая скура, яна зрэдчас выступала ў вар'етэ.

– Адная нага тут, другая – там, – патлумачыла яна. – Шпагат, – і зрабіла гэты самы шпагат не сыходзячы з месца, проста на дыване гасцёўні. – Зусім не цяжка, – засмяялася яна і падхапілася з той зграбнай лёгкасцю, ад якой перахоплівае дыханне.

Тэд яе не любіў.

– Ад яе стамляешся, – сказаў ён. – Да таго ж яна бязглуздая. Наўмысна бязглуздая, што яшчэ горш.

І сапраўды, ёй падабалася хваліцца, колькі шампанскага яна можа агораць і не наглюкацца і колькі разоў яна перабірала зусім немалую норму і "напівалася да Божай моцы". Ёй падабалася казаць пра сваіх кавалераў так, нібыта ўсіх іх яна прымала як каханкаў. Але, зрэшты, у яе было апраўданне – яе жыццярадаснасць і бліскучыя рудыя валасы.

"Жыццярадаснасць, – запісаў Х'юберт у дзённіку (унутраным зрокам ён бачыў той далёкі дзень пасля, але лепей да сваёй смерці, калі ягоная споведзь разам з афарызмамі выйдзе ў свет), – жыццярадаснасць можа скараць свет амаль гэтак жа ўладарна, як і прыгажосць. Часам жыццярадаснасць і прыгажосць злучаюцца ў адной асобе".

Х'юберт прапанаваў Мінні сустрэцца ля млына. Нехта з






сяброў быў там аднойчы на чытацкай вечарыне, яму гэтае месца падалося ўтульным, адгароджаным ад свету і прыемна ціхім. Ціхім своеасаблівай цішынёй, якая бывае на млынах, бо іх ціша – гэта не моўчнасць ночы на горнай вяршыні, а моўча няспыннага грукату.

Штораніцы а дзевятай гадзіне пачынала круціцца кола млына і не спынялася ўвесь дзень. У першае імгненне грукат здаваўся жудасным, амаль невыносным. Потым, праз колькі часу, ён рабіўся звыклым, з-за самой сваёй бесперапыннасці ператвараўся ў суцэльную цішу, на дзіва насычаную і глыбокую.

За млыном быў маленькі садочак, з трох бакоў яго атачалі дом, службовыя пабудовы і высокі цагляны мур, а чацвёрты падыходзіў да самага берага. Цераз парэнчы Мінні глядзела, як цячэ-пераліваецца вада. Карычневая змяя са стральчатым малюнкам на спіне, яна паўзла, звівалася, слізгацела ў адвечным руху. Мінні сядзела і чакала: цягнік з Лондана прывёз яе адразу па абедзе, а Х'юберт наўрад ці даедзе сюды ад Уочатаў раней, як а шостай. Вада плыла ў яе перад вачыма, як лава, як лёс, павольна рухалася да нечага нязведанага, шалёнага.

Мінні накрыла невыносна гучная ціша саду. Прызвычаіўшыся, яна стала пачувацца ў ёй як у сваёй стыхіі. Ад берага ішла прахалода, ад вады пахла чаротам. Павярнуўшыся тварам да саду, яна адразу ўдыхвала гарачы водар сонца, што трымцела на пялёстках кветак і спяліла плады. У пасляпаўднёвым сонцы выспельваўся ўвесь свет. Стары чырвоны дом быў спелы, як апалы яблык, сцены – спялейшыя за персікі на садовых дрэвах, гэтак мякка, далікатна й ахайна распластаныя на іх цёплых цаглінах. А насычаная ціша няспыннага грукату была як пяшчотны пух на целе даспелага дня: круглы, як персік, сакаўны, наліты жыццём і асаладай, ён вісеў на сонцы, не мог прычакаць, калі яго нарэшце пракусяць прагныя зубы.

І ў самай сарцавіне гэтага саспелага, як персік, свету чакала Мінні. Вада павольна, спакойна цякла да кола – і падала, разбівалася аб яго на пырскі-аскепкі. Лава лілася далей – да таго, што раструшчыць спакой у яе жыцці.

"Хочаш спаць з маладзёнам – калі ласка, спі з маладзёнам", – яна чула, як ясны, рэзкі голас Хэлен прамаўляў непамысныя, брыдкія рэчы. Скажы гэтае хто іншы – яна б стрымгалоў выбегла

з пакоя. Толькі ў вуснах Хэлен яны гучалі неяк вельмі проста, вельмі натуральна і вельмі слушна. Аднак жа не менш слушным здавалася і усё тое, што казалі альбо што мелі на ўвазе іншыя – у сям'і, у школе, сярод знаёмых.

Але яна кахала. Х'юберт перапісаў санет Шэкспіра, у якім былі словы:

*Love hallows all whereon 'tis truly placed,*
*Turns dross to gold with one touch of his dart,*
*Makes matter mind, extremest passion chaste,*
*And builds a temple in the lustful heart*[2].

Колькі прыгажосці ў гэтых радках! І колькі праўды! Яны быццам перакідвалі масток ад Хэлен да ўсіх астатніх. Каханне, сапраўднае каханне ўсё перамяняе. Яно апраўдвае. Каханне... Ах, як яна кахала, як кахала!

Час ішоў, і як сонца хілілася ўсё ніжэй, усё больш насычаным рабілася святло. Дзень выспеліўся дарэшты, набрыняў невымоўнай слодыччу. Моўчны грукат млынавага кола пакрыў яго румянлівыя пад сонцам шчочкі наймякчэйшым, найпяшчотнейшым пухам. Мінні чакала, седзячы на парэнчах. Яна то глядзела, як ліецца-пераліваецца вада, то азіралася на сад. Час сплываў, але яна ўжо не баялася таго, што грукатала наперадзе, пагражаючы раструшчыць спакой. Найсаладзейшая спель лілася ў яе душу, напаўняла яе да краёў. Няма больш месца сумневам, страхам, шкадаванню. Яе перапаўняла шчасце. З пяшчотай, якую ніколі не перадаць словамі – толькі найдалікатнейшымі, найлягчэйшымі пацалункамі, толькі кончыкамі пальцаў, што ласкава гладзяць раскудлачаныя валасы, – яна думала пра Х'юберта, свайго Х'юберта.

Х'юберт, Х'юберт... І раптам – яна ажно здрыганулася – вось ён, стаіць побач з ёю. Яна войкнула і на якую хвілю ўтаропілася ў яго круглымі карымі вачыма, у якіх не было нічога, акрамя прыгаломшанасці. Потым іх выраз змяніўся. "Х'юберт", – ласкава сказала яна. Х'юберт узяў яе руку – і адпусціў, на імгненне паглядзеў на Мінні і адвярнуўся. Абапершыся на парэнчы, ён узіраўся ў ваду, што сплывала ўнізе. На твары не было ўсмешкі. Доўгі час абодва маўчалі. Мінні сядзела нерухома, не зводзячы вачэй з адвернутага юначага твару. Ах, якая яна была шчасная, як яе перапаўняла шчасце! Даўгі дзень выспеліўся і раскашаваў кожнай сваёй кропляй.

– Мінні, – раптоўна вымавіў маладзён, гэтак гучна і рэзка, быццам доўга не мог наважыцца і вось нарэшце здолеў агучыць папярэдне падрыхтаваныя словы. – Я вельмі дрэнна з табою абышоўся. Мне нельга было прасіць цябе прыйсці сюды. Я кепска зрабіў. Прабач.

– Але ж я прыйшла, бо хацела, – усклікнула Мінні.

Х'юберт зірнуў на яе, зноў адвёў вочы і прадоўжыў, звяртаючыся да здані, што лунала над самай паверхняй вады:

– Я зашмат ад цябе прасіў. Я не павінен быў. Для мужчыны гэта адное, але для жанчыны...

– Кажу табе: я сама хацела.

– Гэта зашмат.

– Гэта дробязь, – сказала Мінні, – бо я кахаю цябе.

І, нахіліўшыся, яна пагладзіла яго па галаве. Ах, пяшчота, якую не выказаць словамі!

– Дурненькі, – прашаптала яна. – Падумаў, што я не настолькі цябе кахаю, каб...

Х'юберт не падымаў галавы. Вада плыла і плыла ў яго перад вачыма, пальцы Мінні гуляліся з яго валасамі, ласкава прабягаліся па патыліцы. Раптам ён адчуў сапраўдную нянавісць да гэтай кабеты. Ідыётка! Яна што, не разумее? Ён не жадаў яе. І якога ляда ён быў узяў сабе ў галаву, што жадае? У цягніку ён увесь час задаваў сабе гэтае пытанне. Якога ляда? Чаму? А зараз гэтае пытанне вярталася з новай сілай, калі ён, стоячы ля садовых веснічак, выглядаў з-за яблыні ды доўга ўпотай сачыў за ёю: як яна сядзіць на парэнчах, гледзячы сваімі невыразнымі карымі вачыма то на ваду, то на сад, і ўсміхаецца самой сабе гэткай бязглуздай, гэткай пустой усмешкай, што ўдае на блазнаватую.

А ўчора ён стаяў з Феб на вяршыні голай вапняковай скалы. Як мора, распасціралася ўнізе раўніна, над няяснай рысай гарызонту грувасціліся змрочныя хмары. Вецер сваёй рукою ўскудлачваў, уздымаў яе рудыя пасмы. Яна застыла, нібыта гатовая ўзвіцца ў вірлівае паветра.

– Ах, як бы мне хацелася лётаць, – сказала яна. – Мне заўжды здавалася, што ёсць у лётчыках нешта асаблівае.

І яна збегла з вяршыні.

Мінні ж са сваімі бляклымі валасамі ды чырвонымі, як яблыкі, шчокамі, мажным нязграбным целам нагадвала сялянку. І як ён мог сябе пераканаць, што жадае яе?! Горш за ўсё тое, што яна, вядома, самазабыўна яго кахала – кахала надакучліва, неадчэпна, як залішне прывязлівы спаніэль, якому абавязкова трэба круціцца пад нагамі ды лізаць табе рукі акурат тады, калі ты хочаш спакойна пасядзець, паразважаць над сур'ёзнымі праблемамі.

Х'юберт адсунуўся далей, каб гэтая ласкавая рука да яго не дацягнулася. На імгненне ўзняў на яе вочы – яны пацямнелі ад халоднай злосці – і зноў адвёў убок.

– Я не магу прыняць гэткай вялікай ахвяры, – голас гучаў як чужы. Было вельмі цяжка гаварыць пераканаўча. – Я не магу гэтага ад цябе прасіць, – працягваў актор. – Не.

– Але гэта не ахвяра, – запярэчыла Мінні. – Гэта радасць, шчасце. Як ты не разумееш?

Х'юберт не адказваў. Паклаўшы локці на парэнчы, ён нерухома глядзеў на ваду. Мінні зірнула на яго, спачатку толькі збітая з панталыку. Але раптам яе ахапіла агонія сумневу, якому не было імя, і як доўжылася маўчанне, сумнеў нейкай жудаснай ракавай пухлінай рос і рос у душы, пакуль дашчэнту не зжэр усё яе шчасце, пакуль у галаве не засталося анічога, акрамя сумневу і страху.

– Што здарылася? – нарэшце спыталася яна. – У чым рэч? Што з табою, Х'юберт? Што здарылася?

Насцярожана падаўшыся наперад, яна ўзяла ягоны твар у далоні і павярнула да сябе. Вочы пустыя, пацямнелыя ад злосці.

– Што здарылася? – паўтарала яна. – Х'юберт, што здарылася?

Х'юберт вызваліўся.

– Не, – сказаў ён прыглушана. – Не. Я памыліўся. Прабач. Я, бадай, пайду.

І не чакаючы, пакуль яна скажа яшчэ што-небудзь, нічога больш не патлумачыўшы, ён павярнуўся і шпарка, ледзь не бегма, пайшоў прэч. Ну, дзякуй Богу, думаў ён сабе, усё скончана. Атрымалася не тое каб надта добра, прыгожа і шляхетна, але, прынамсі, з хлуснёю скончана. Небарака Мінні! Ён шкадаваў яе, хаця, зрэшты, што яму было рабіць? Небарака Мінні! Але пыху ўсё роўна неяк цешыла думка, што яна будзе па ім тужыць. І як бы там ні было, пераконваў ён сваё сумленне, ёй зусім няма на што наракаць. Тым болей, нагадвала ягоная пыха, яна кахала яго да самазабыцця. Проста абагаўляла...

Веснічкі за ім зачыніліся. Мінні засталася ў садзе адна. Ён раскашуе спеласцю, ляжыць, заліты вечаровым сонцам. Палову саду ўжо схаваў цень, але астатняя палова ў каляровых промнях заходу нібыта набрыняла спеласцю да скраеня, дарэшты. Пакрытыя пухам моўчнага грукату, віселі, красавалі ў ім найлепшыя плады, смачныя-смачныя, сакаўныя-сакаўныя, салодкія-салодкія, гэткія румянлівыя, ружавашчокія, прыгожыя за крок ад цямрэчы.

Мінні сядзела нерухома, не разумеючы, што адбылося. Няўжо ён сышоў, няўжо ён сапраўды сышоў? За ім грукнулі веснічкі, і, нібыта гэты гук быў умоўным знакам, з млына да плаціны падышоў чалавек і закрыў шлюз. Кола адразу спынілася. Настала ціша – як Апакаліпсіс: ціша моўкнасці заступіла цішу няспыннага грукату. Вакол яе разверзліся бездані. Яна была адна. Праз пустэчу моўкнасці даносілася нягучнае гудзенне прыпозненай пчолкі, цвырканне вераб'ёў, галасы й аддалены смех з таго берага. І быццам прачнуўшыся ад сну, Мінні падняла галаву і прыслухалася, спужана азіраючыся па баках.

**Пераклала з англійскай V.K.**

[1] *І чыстыя душы закаханых мусяць сысці*
*Да тых праяваў пачуццяў, ад якасцяў,*
*Што можна найпрост ўспрымаць,*
*Інакш магутны князь застанецца ў вязніцы.*

*Тады мы звяртаемся да сваіх целаў, каб*
*Слабыя людзі маглі пабачыць каханне.*
*Таямніцы кахання ўзрастаюць у душы,*
*Але ягоная кніга – цела.*

**(Падрадкоўнік.)**

[2] *Ці чараўніцтва талент незвычайны*
*Дала на долю мне любоў мая?*

*Дакуль сягнуць яго праменне можа,*
*Стварае ён узоры пекнаты.*
*З істот пачварных ангелаў прыгожых*
*Зрабіць ён можа – гэтакіх як ты.*

**(Пераклад У. Дубоўкі.)**

# КУЛЬТУРА І АСОБА

Паміж культурай і асобай існуюць і заўжды існавалі на дзіва супярэчлівыя адносіны. Культура – адначасова наш дабрадзей і кат. Без культуры і мовы, як зыходнага чынніка кожнае культуры, чалавек застаўся б усяго толькі чарговым відам малпы. Сваёй чалавецкасцю мы абавязаныя культуры і мове. "Якая мастацкая работа – чалавек! Які ўзвышаны розум! Якія бяскрайнія здольнасці!.. Дзейнасцю падобны на анёла! Думкаю роўны Богу!"[1] Але – на жаль! – між праявамі шляхетнасці, глыбакадумнасці і бязмежных магчымасцяў

*...пыхліўца чалавек,*
*У куртастых апранахах улады,*
*Найменш дасведчаны ў чым найболей пэўны,*
*Падобны да раз'юшанае малпы,*
*Выкідвае такія часам штукі,*
*Што ў небе галосяць і анёлы*[1].

Геній і раз'юшаная малпа, адмысловы штукар і роўны Богу мысляр – ва ўсіх сваіх праявах чалавек створаны мовай і культурай. Уплішчаныя ў дванаццаць-трынаццаць мільярдаў нейронаў чалавечага мозгу, мова і культура далі нам заканадаўства, навуку, этыку, філасофію, абумовілі ўсе найвышэйшыя здабыткі чалавечага розуму і духу. А яшчэ яны стварылі фанатызм, самыя розныя прымхі, пыхлівы дагматызм, стодапаклонніцкі нацыяналізм і масавыя забойствы ў імя Божае, прапаганду, каб распальваць натоўп, і арганізаваную хлусню. Яны стваралі не толькі "соль зямлі", але і – з пакалення ў пакаленне – незлічоныя мільёны замбаваных канфармістаў, перадвызначаных ахвяраў прагных да ўлады правадыроў, якія самі сталіся ахвярамі ўсяго самага бессэнсоўнага і бесчалавечнага ў сваёй культурнай традыцыі.

Дзякуючы мове і культуры паводзіны чалавека часам бываюць непараўнальна больш разумныя і арыгінальныя, больш творчыя і гнуткія за паводзіны жывёлаў. Іх замалы мозг не можа змясціць дастатковай колькасці нейронаў, каб стварыць мову і перадаваць назапашаныя веды. Але, ізноў-такі дзякуючы мове і культуры, чалавек часта паводзіць сябе настолькі бязглузда, неадпаведна і спрэс недарэчна, як нездатная паводзіць сябе ніводная жывёла.

Трабрыянскі абарыген ці бостанскі месціч, сіцылійскі каталік ці японскі будыст – кожны з нас нараджаецца ў пэўнай культурнай прасторы і ўсё сваё жыццё не выходзіць за яе межы. Свядомасць кожнага чалавека адасобленая ад астатняга свету нябачным мурам – традыцыйнай сістэмай мыслення і ўспрымання, далёка не новых паняткаў, што сталіся аксіёмамі, састарэлых выслоўяў, шанаваных, нібыта Боскае аб'яўленне. Вядома, бачым мы праз шчыліны ў гэтым муры ніяк не сапраўды неспасцігальную "рэч у сабе", а часцей за ўсё нават і не тое, што ўздзейнічае на нашыя органы пачуццяў і на што імгненна рэагуе нашае цела. Звычайна мы ўспрымаем і адгукаемся на дзіўную сумесь непасрэднага досведу з абумоўленым нашай культурай сімвалам, сумесь пачуццёвых уражанняў з прадузятымі меркаваннямі пра сутнасць рэчаў. Прычым большасць лічыць сімвалічнае ў гэтым кактэйлі ўсведамлення важнейшым за непасрэдны досвед. І гэта непазбежна, бо для тых, хто прымае культуру некрытычна, не словы азначаюць (хоць і вельмі неадпаведна) рэчы, а наадварот: рэчы азначаюць знаёмыя словы. Кожнай непаўторнай падзеі свайго жыцця яны адразу адводзяць месца канкрэтнай ілюстрацыі да замацаванай у слове, асвечанай культурай абстракцыі, якую з дзяцінства заганялі ім у галовы.

Ці варта казаць, што шмат якія ідэі, перададзеныя нам носьбітамі культуры, надзвычай разумныя і жыццядайныя (іначай чалавецтва ўжо вымерла б як від). Але ў дадатак да гэтых слушных ідэяў кожная культура перадае і плойму нежыццёвых уяўленняў, з якіх адныя ніколі не мелі ніякага сэнсу, а іншыя, магчыма,

некалі раней і спрыялі выжыванню чалавека, але ў сённяшніх зменених і зменлівых умовах існавання сталі цалкам ні да чаго не прыдатнымі.

Людзі рэагуюць на сімвал гэтак жа імгненна і гэтак жа адназначна, як і на непасрэдны досвед. Да таго ж большасць з іх наіўна лічыць, што асвечаныя культурай словы пра рэчы гэткія ж (а мо і больш) сапраўдныя, як і самі рэчы, успрынятыя іх пачуццямі. І таму састарэлыя і паводле сваёй сутнасці бессэнсоўныя паняцці чыняць велізарную шкоду.

Жыццядайныя ідэі, што перадае культура, дапамаглі чалавецтву выжыць і ў асобных галінах пайсці ў сваім развіцці наперад. Але, нягледзячы на выжыванне і прагрэс, уся тая далёка не бясшкодная бязглуздзіца, якую кожнаму заганялі ў галаву ў працэсе "далучэння да культуры", бесперапынна нясе няшчасці чалавецтву. Гісторыя – гэта яшчэ і хроніка фантастычных, як правіла, па-д'ябальску жорсткіх штукарстваў ачмуранага культурай чалавецтва, якія яно выкідвае супраць сябе самога. І гэтая вычварная гульня ніяк не сканчаецца.

Што можа і мусіць зрабіць чалавек, каб змяніць на лепшае свае, паводле іроніі лёсу, двухсэнсоўныя дачыненні з культурай, унутры якой ён апынуўся? Як можна па-ранейшаму карыстацца з дабротаў культуры і пры гэтым не здранцвець, не звар'яцець ад яе атруты? Як можна прымаць у сябе не ўсе праявы культуры запар, а адпрэчваць бязглуздыя ды проста благія ўплывы і разам з тым цвёрда трымацца таго, што спрыяе выхаванню дабрачыннай, разумнай асобы?

Аддзяляць "зерне ад жыціцы" ў сваёй культуры, а тым болей змяняць яе аблічча дадзена толькі тым, хто здолеў пабачыць скрозь яе. Толькі тыя, хто прасек ваканіцы ў муры словаў навокал сябе, здатныя глядзець на свет (а значыць, і на саміх сябе) па-новаму, збольшага бесстаронным вокам. Гэткімі асобамі не нараджаюцца: імі мусяць зрабіцца. Але як?

Таму, хто будзе "прасякаць ваканіцы" ў муры, з традыцыйнай адукацыі спатрэбяцца веды. Веды пра гісторыю і сучасны стан розных культураў ва ўсёй іх невераемнай разнастайнасці. Веды пра сутнасць мовы і тыя рамкі, што яна ўсталёўвае, пра тое, як яе ўжываюць і як ёю злоўжываюць. Таму, хто ведае, што на свеце







існуе безліч культураў і што кожная з іх прэтэндуе на званне найлепшай і найпраўдзівейшай, складана будзе занадта сур'ёзна ўспрымаць самаўсхваленні ды не падлеглыя пярэчанням догматы ўласнай культуры. Гэтаксама і той, хто ведае пра дачыненні сімвала і рэчаіснасці, хто ажыццяўляе моўны самакантроль згодна з прынцыпамі агульнай семантыкі, наўрад ці занадта сур'ёзна ўспрыме недарэчную ды небяспечную бязглуздзіцу, што ў кожнай культуры падаецца за самабытную філасофію, жыццёвую мудрасць, палітычныя перакананні. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што падобная адукацыя розуму вельмі каштоўная ў падрыхтоўцы да "прасякання ваканіцаў". Але з гэткай жа пэўнасцю можна сцвярджаць, што аднае яе недастаткова. Неабходна, каб навучанне моўнасцю дапаўнялася навучаннем моўкнасці. Мы мусім навучыцца маўчаць розумам, мусім узрошчваць у сабе мастацтва чыстай успрымальнасці.

Моўкна ўспрымаць – як, здаецца, па-дзіцячаму проста! Але мы хутка пераконваемся, як насамрэч складана! Сусвет, у якім людзі адбываюць жыццё, створаны тым, што ў індыйскай філасофіі завецца нама-рупа, імя й форма. Рэчаіснасць – гэта бясконцасць, неспасцігальна-таямнічае, бязмежнае Нешта. Яго вонкавую праяву мы завём Матэрыяй, а ўнутраную – Свядомасцю. Мова – гэта прылада, каб выдаліць з Рэчаіснасці таямніцу, каб зрабіць яе падуладнай разуменню і перамяненню чалавекам. Узгадаваны культурай чалавек разбівае гэтую бясконцасць, начэплівае цэтлікі на асобныя яе аскепкі, пераносіць гэтыя цэтлікі на навакольны свет і такім чынам стварае сабе "надта ўжо чалавечы" сусвет з асобных рэчаў, дзе кожная з іх – проста ўвасабленне імя, канкрэтны прыклад нейкай пракаветнай абстракцыі. Успрынятае намі набывае форму кратаў паняццаў, праз якія яно працачылася. Чыста ўспрымаць няпроста, бо звычайная будзённая свядомасць чалавека заўжды абумоўленая культурай. Але, як шмат гадоў таму падкрэсліваў Уільям Джэймс, звычайная будзённая свядомасць – "гэта толькі адзін з тыпаў свядомасці, а вакол яе за найтанчэйшай заслонай туляцца іншыя, цалкам адрозныя формы свядомасці. Можна пражыць жыццё і нават не падазраваць пра іх існаванне. Але толькі надайце патрэбны імпульс – і яны адразу ж з'явяцца ва ўсёй сваёй паўнаце. Верагодна, гэтыя акрэсленыя тыпы

свядомасці прыдатныя ў сваёй сферы ўжывання. Ніводнае апісанне сусвету ва ўсёй яго ўсеахопнасці не будзе поўным і канчатковым, калі па-за ўвагай застануцца гэтыя формы свядомасці ".

Звычайная будзённая свядомасць – і наш найлепшы сябар, і найгоршы вораг (як, зрэшты, і культура, якою гэтая свядомасць абумоўленая). Яна дапамагае нам выжываць і развівацца. Але разам з тым яна перашкаджае нам раскрываць нашыя найкаштоўнейшыя магчымасці, а часам, бывае, і даводзіць да бяды. Каб узысці да вышыняў сваёй чалавечай сутнасці, "адмысловы штукар", "пыхліўца-чалавек" мусіць навучыцца не засціць сонца сабе самому. Толькі тады змогуць выявіцца ягоныя бяскрайнія здольнасці і боскасць у думцы. Як казаў Блэйк, нам трэба "расчысціць праходы ўспрымальнасці", бо тады "чалавеку ўсё адкрыецца такім, якім ёсць, – бясконцым". Для звычайнай будзённай свядомасці рэчы – гэта дакладна канчатковыя, адасобленыя, не звязаныя між сабою ўвасабленні словаў-цэтлікаў. Якім чынам можна пазбавіцца ад звычкі аўтаматычна пераносіць свае прымхі, асвечаныя сваёй культурай словы-вобразы на непасрэдныя ўражанні? Адказ такі: дзейсніць чысціню ўспрымання і моўкнасць розуму. Яны расчысцяць праходы ўспрымальнасці і пры гэтым дазволяць паўстаць іншым, адрозным ад звычайнай, формам свядомасці: эстэтычнай, мройна-праяўнай, містычнай. Ад культуры мы ўзялі ў спадчыну ўсю безліч назапашаных ведаў, каштоўны скарб – паслядоўную навуковую метадалогію, тысячы й тысячы эфектыўных тэхналагічных і арганізацыйных прыёмаў ды знаходак. Але чалавечай свядомасці адкрытыя і іншыя крыніцы інфармацыі, яна карыстае і з іншых тыпаў мыслення, яна мае ў сабе неад'емную скарбонку мудрасці, не абумоўленай культурай.

Як пісаў Уордзварт, "наш нязграбны інтэлект (тая частка свядомасці, што пры дапамозе мовы выдаляе з Рэчаіснасці таямніцу) дэфармуе прыўкрасныя абрысы рэчаў: каб прэпараваць, мы забіваем". Зразумела, нам не абысціся без гэтага самага "нязграбнага інтэлекту", без моўна-паняткавага мыслення. Але нават пры адпаведным ужыванні замацаваныя ў словах паняцці дэфармуюць "прыўкрасныя абрысы рэчаў". А пры неадпаведным ужыванні (што здараецца вельмі часта) яны дэфармуюць нашыя жыцці: абгрунтоўваюць спарахнелыя абсурдныя ідэі, правакуюць на масавыя забойствы, пераследы ды іншыя адмысловыя







штукарствы, ад якіх галосяць анёлы. Мудрая моўкная нядзейнасць супрацьстаіць атруце бязглуздай моўнай дзейнасці і нейтралізуе пабочны эфект мудрай моўнай дзейнасці. Неабходна, каб замацаваныя ў словах паняцці дапаўняліся непасрэдным, напрасткі, кантактам з рэчаіснасцю ў той форме, у якой яна нам раскрываецца.

Тут мы ізноў сутыкаемся са старой, як свет, праблемай духу і літары. Нам не абысціся без літары, але да яе нельга ставіцца занадта сур'ёзна, бо ў адрыве ад духу яна ўдушае і ўрэшце забівае. Дух жа "дзьме, куды пажадае", і калі не звярацца з найлепшымі картамі культуры, ён можа знесці нас з вызначанага курсу і патапіць карабель. Сёння большасць з нас ужываюць і дух, і літару так, што горш няма куды. Не зважаючы на вольныя вятры духу і кіруючыся, пэўна, кагадзе састарэлымі мапамі, карабель імчыць пад усёй парай нашай раздзьмутай пыхі. Поўны наперад! Мы запэўніваем сябе, што порт прызначэння – недзе на Блаславёных выспах (бо так напісана ў квітках, што мы самі ў сябе набылі). Але насамрэч мы часцей за ўсё апынаемся на Д'яблавым востраве.

Саманавучанне моўкнасцю старое, як сама цывілізацыя. "Будзь моўкны, нерухомы і ведай, што Я ёсць Бог", – першы і галоўны запавет для ўсіх містыкаў і празарліўцаў усіх часоў і народаў. Як паэт услухоўваецца ў сваю Музу, гэтак містык і празарліўца служаць свайму натхненню ў мудрай нядзейнасці, у дзейным няздумленні. У заходняй традыцыі гэты стан завецца "шчырай малітвай". Па Той Бок яго вызначаюць не столькі праз тэістычныя, колькі праз псіхалагічныя паняцці: у стане моўкнасці розуму мы "сузіраем сваю ўласную Самасць", "строга трымаемся немыслення, якое палягае на мысленні" і "робімся тым, чым у сутнасці сваёй былі заўсёды". Праз мудрую дзейнасць мы здабываем карысныя фармальна-лагічныя веды пра свет – веды, якія можна перадаць моўнымі сімваламі. Стан мудрай нядзейнасці дае магчымасць праявіцца іншым формам свядомасці, адрозным ад звычайнай будзённай з яе утылітарызмам. Замест карысных фармальналагічных ведаў пра свет – неістотнае з біялагічнага пункту гледжання, але прасвятляльнае для духу спасціжэнне свету. Напрыклад, непасрэднае эстэтычнае спасціжэнне свету як хараства. Альбо непасрэднае спасціжэнне непарыўнай дзівоснасці быцця, яго вялікай неверагоднасці. І нарэшце, непасрэднае спасціжэнне

адзінства свету. Няма словаў, якімі можна было б дакладна перадаць наўпраставае містычнае адчуванне лучнасці з Адзіным, што з'яўляе сябе ў бясконцай множнасці рэчаў і ідэяў. Словамі можна казаць толькі пра знешні бок містычнага досведу ды мрояўпраяваў. Моўнымі сімваламі ніколі не перадаць іх унутранае сутнасці.

Моўкнасцю розуму і мудрай нядзейнасцю мастакі, празарліўцы і містыкі рыхтуюць сябе да таго імгнення, калі свет аб'яўляецца як хараство, як дзіва, як адзінства. Але моўкнасць і мудрая нядзейнасць – не адзінае выйсце з "надта ўжо чалавечага" сусвету, які стварыла звычайная будзённая свядомасць, абумоўленая культурай. У "Дарадзе й адказе" наш слынны сваёй вучонасцю Мэцью папікае паэта:

*You look upon your Mother Earth*
*As if she for no purpose bore you;*
*As if you were her first-born birth,*
*And none have lived before you!*[1]

Калі падыходзіць з мерай звычайнай будзённай свядомасці, падобны погляд будзе сапраўдным інтэлектуальным хуліганствам. Але менавіта гэта мусяць рабіць і, па сутнасці, заўжды робяць мастак, празарліўца, містык: "Глядзі на чалавека, краявід, любую звыклую рэч так, нібыта бачыш іх упершыню", – вучыць адно з практыкаванняў у непасрэдным бязмоўным успрыманні, якія прадпісваліся ў старажытных (тантра-)будысцкіх тэкстах. Мастакі, празарліўцы і містыкі не жадаюць трапляць у палон узгадаваных культурай стэрэатыпаў адчування, мыслення і дзеяння, якія лічацца слушнымі і натуральнымі ў іх грамадстве. Яны свядома ўстрымліваюцца ад таго, каб пераносіць на рэчаіснасць асвечаныя культурай словы-цэтлікі, якімі так шчыльна наладаваныя людскія галовы. Як і ўсім іншым, ім вядома, што нам не абысціся без культуры і без мовы, — як падмурка кожнай існай культуры, і што без іх індывід ніколі не стаўся б чалавекам. Але ім лепш, чым усім іншым, вядома, што, каб стацца сапраўдным чалавекам, індывід мусіць навучыцца вызваляць сябе з-пад уплыву культуры, "прасякаць ваканіцы" ў муры словаў-сімвалаў, якім ён аточаны.

Вялікія мастакі, празарліўцы і містыкі сталіся першапраходцамі ў спазнанні неабсяжнага і таямнічага свету чалавечых магчымасцяў. Але па іх слядах могуць прайсці і астатнія. У кожным з нас закладзеныя "бяскрайнія здольнасці", кожны з нас "думкаю роўны Богу". Кожны можа дасягнуць іншага тыпу свядомасці, адрознай ад звычайнай будзённай. Сусвет, у якім чалавек адбывае жыццё, можна пераМяніць, перастварыць. Усяго толькі і трэба, што "прасекчы ваканіцы" ў муры і паглядзець навокал, як казаў філосаф Плацін, "іншым зрокам, які ўсе маюць, але мала хто выкарыстоўвае".

У нашай сучаснай сістэме адукацыі навучанне моўкнасцю вызначаецца мізэрнай колькасцю і нізкай якасцю. Больш за тое, ніколі дакладна не акрэсліваецца і паслядоўна не ажыццяўляецца сама яго мэта – дапамагчы чалавеку думкаю зраўняцца з Богам. Мы можам і – я падкрэсліваю – мусім пайсці далей у гэтым надзвычай істотным накірунку. У нашым поўным распараджэнні – жыццёвая мудрасць ранейшых цывілізацыяў і здабыткі адважных духам шукальнікаў у нашай культуры і ў нашым часе. Выкарыстоўваючы іх, можна было б без асаблівых цяжкасцяў скласці праграму і распрацаваць методыку навучання моўкнасцю. На вялікі жаль, улады ў большасці сваёй крэўна зацікаўленыя ў існаванні культуровых муроў. Іх перасмыкае ад "прасякання ваканіцаў", як ад падрыўной дзейнасці, яны цураюцца Плацінавага "іншага зроку", як сімптому вар'яцтва. Калі б можна было распрацаваць дзейсную сістэму навучання моўкнасцю, ці дазволілі б улады яе шырокае распаўсюджанне? Пытанне застаецца адкрытым.

З бязмоўнага свету культурова не забруджанай свядомасці пераносімся ў пазамоўны свет фізіялогіі ды біяхіміі. Чалавек – гэта тэмперамент плюс вынік выхавання культурай, але перадусім гэта надзвычай складаная і тонкая біяхімічная сістэма. Яе ўнутраная сутнасць у тым, што калі адбываецца зрух хімічнай раўнавагі ў той ці іншы бок, змяняецца і свядомасць. Акурат таму, што кожны з нас – біяхімічная сістэма, у вытлумачэнні чалавеку шляхоў Гасподніх, як казаў Хаўсман, Хмель можа зрабіць больш, чым Мільтан.

Тэалагічны трыумф піва тлумачыцца тым, што, кажучы словамі Уільяма Джэймса, «хмель надае магутны штуршок чалавечаму "Так!"». Далей ён працягвае: "Часткова глыбокая таямніца і вялікая трагедыя жыцця палягае ў тым, што шмат хто

з нас прымае алкагольныя водар і ззянне за дасканаласць, хоць насамрэч гэта толькі першыя хуткаплынныя хвілі агіднага падзення на дно”. Дрэва пазнаюць па пладах, і сапраўды, горкія плады надзеі на тое, што этылавы спірт надасць штуршок нашаму чалавечаму “Так!”. Не менш горкія і плады надзеі на седатыўныя, галюцынагенныя сродкі, стымулятары, якія фармуюць залежнасць, то бок опіум і апіяты (напрыклад, какаін, які так заўзята раіў сябрам і пацыентам д-р Фрэйд), барбітураты і амфетаміны. Але нядаўна фармаколагі вылучылі і сінтэзавалі некалькі рэчываў, якія моцна ўздзейнічаюць на свядомасць і пры гэтым зусім не шкодзяць целу ні пры ўжыванні, ні пасля, праз фармаванне залежнасці. Пры дапамозе гэтых новых псіхадэлічных прэпаратаў можна па-рознаму змяняць звычайную будзённую свядомасць. Падобна да таго, што глыбіннае “я” кожнага чалавека вырашае, што яму будзе найлепш, і, вырашыўшы, скіроўвае ўздзеянне наркотыка на тое, каб змяніць свядомасць у патрэбным чалавеку накірунку. І вось, калі Вам неабходна вярнуцца да выціснутых глыбока ў падсвядомае перажыванняў, яны адразу Вам і з’явяцца. Калі ўспаміны не адыгрываюць гэткай істотнай ролі, адбудзецца нешта іншае. Звычайнай будзённай свядомасці можа заступіць месца эстэтычная, і свет аб’явіцца ва ўсёй сваёй невыказнай красе, ва ўсім зіхоткім ззянні свайго "тут і цяпер". А эстэтычная свядомасць можа перайсці ў мройна-праяўную, і вось дзякуючы “іншаму зроку” свет аб’яўляецца нам не толькі невыказна прыгожым, але і неспасцігальна таямнічым, як безліч неабсяжных магчымасцяў, што бясконца ўвасабляюць сябе ў ніколі не паўтаральных формах. Па-новаму спасцігаецца свет дадзенага, па-новаму пераплятаюцца думкі і мроі – патокі новага залевай абрынуліся на свядомасць, і кожная яе кропля нясе зарад значэння. Ёсць сімвалы, значэнне якіх – па-за імі, у існым досведзе праявы, што была адкрытая празарліўцу, і ёсць існы досвед, які не абазначае нічога па-за самім сабою. Але “нічога па-за сабою” – гэта яшчэ і “не менш як Боскі пачатак усяго існага”. “Нічога больш” – гэта яшчэ і “адзінства ўсяго”. І вось эстэтычная ды мройна-праяўная свядомасць паглыбляюцца і пераходзяць у містычную. Свет бачыцца як бязмежная множнасць і пры гэтым адзінства; чалавек адчувае сваю лучнасць з бясконцым Адзіным, якое з’яўляе сябе ў кожнай кропцы прасторы, у кожным імгненні часу ў плыні






адвечнага паміранія і адвечнага нараджэння. Нашая звычайная будзённая свядомасць стварае сусвет скрайніх разрозніванняў – “чорнае” і “белае”, “тое” і “гэтае”, “я”, “ты”, “яно”. Містычная свядомасць у сваёй лучнасці з бясконцым Адзіным яднае супрацьлегласці, дазваляе ўспрымаць Неадрознае ў адрознасцях, пераўзыходзіць аднойчы і назаўсёды ўсталяваныя суб’ектна-аб’ектныя дачыненні з людзьмі і рэчамі. Містычная свядомасць дае нам непасрэднае адчуванне знітаванасці з усім існым, нейкую неад’емную перакананасць у тым, што, нягледзячы на непрадказальную зменлівасць лёсу, нягледзячы на нашую ўласную цёмную блазноту ды зламыснасць, так, нягледзячы на ўсё відочнае ліха, усё ж нейкім парадаксальным, цалкам не вытлумачаным чынам сутнасна ў свеце Усё Добра. Для звычайнай будзённай свядомасці фраза “Бог ёсць Любоў” – не болей, чым яшчэ адзін выпадак, калі жаданае прымаюць за сапраўднае. Для містычнай свядомасці – відавочная ісціна.

Імклівыя, як ніколі, тэхнічны прагрэс і дэмаграфічныя змены робяць нашае жыццё ўсё больш і больш небяспечным. Але разам з тым яны робяць усё менш і менш істотнымі стэрэатыпы ўспрымання і паводзінаў, навязаныя асобе (і “вярхам”, і “нізам”) культурай. Пашырэнне мастацтва праз “прасяканне ваканіцы” ў культуровым муры (што заўсёды было пажадана) цяпер стала для нас самай пільнай патрэбай. Ці можна паскорыць і зрабіць больш дзейсным навучанне гэтаму мастацтву праз разумнае ўжыванне сучасных бясшкодных для здароўя псіхадэлічных сродкаў? Зыходзячы з уласнага досведу і звестак, што прыводзіліся ў друку, я веру, што можна. Ва утопіі “Выспа” я ў літаратурнай форме ўяўляў, як можна было б пры дапамозе якога-небудзь злучэння тыпу псіліцыбіну ўзняць навучанне моўкнасці сярод падлеткаў і нагадаць дарослым, што існы свет вельмі розніцца ад той дэфармаванай мадэлі, якую яны сабе стварылі з прымхаў і забабонаў, узрошчаных культурай. “Жыць у кайф – пад кайфам”, – адмахнуўся ад праблемы адзін гарэза-крытык. Але што лепей: жыць у кайф – пад кайфам ці жыць ідыётамі – пад ідэалогіяй, са зброяй у руках развязваць войны, бо развязалі рукі словам, заўтра замольваць смяротныя грахі, бо ўчора маліліся багам смерці?

Як прызначаць псіхадэлічныя сродкі? У якіх абставінах, пасля якой падрыхтоўкі і пад якім кантролем? Адказ на гэтыя

 





пытанні трэба знайсці эмпірычна, у ходзе шырокамаштабнага эксперыменту. Чалавечая калектыўная свядомасць гэтак жа неахвотна скранаецца са звыклага месца, як глей падчас адліву. Але калі ў свеце адбываецца дэмаграфічны выбух, здзяйсняюцца тэхналагічныя прарывы, мацнее ваяўнічы нацыяналізм, час на роздум жорстка абмежаваны. Мы мусім адкрыць, прычым як мага хутчэй, новыя крыніцы энергіі, каб пераадолець псіхалагічную інертнасць грамадства, вынайсці лепшыя распушчальнікі для клейкага, як глей, анахранічнага мыслення. На моўным узроўні нам патрэбныя веды пра сутнасць мовы і тыя рамкі, што яна ўсталёўвае, веды пра тое, як яе ўжываюць і як ёю злоўжываюць. На бязмоўным узроўні – навучанне моўкнасці розуму і чыстай успрымальнасці. І нарэшце, нам трэба пад уздзеяннем бясшкодных псіхадэлічных рэчываў навучыцца адчуваць найвышэйшую радасць, пераходзіць у стан змененай свядомасці. Я мяркую, што гэта дасць усе неабходныя асобе крыніцы разумовай энергіі, усе распушчальнікі мысліцельнага глею. З іх дапамогай асоба, пэўна, здолее аддзяліць "зерне ад жыцціцы" паноўнай культуры, адмовіцца ад усяго ліхога, бязглуздага ды нявартага і з удзячнасцю прыме яе скарб – назапашаныя веды, глыбакадумнасць, чалавечнасць, жыццёвую мудрасць. Калі гэткіх асобаў будзе хапаць і колькасна, і якасна, магчыма, яны здолеюць ад асэнсаванага ўспрымання культуры ўзняцца да яе асэнсаванага змянення і пераўтварэння. Ці гэта толькі утапічная мара? Адказ на пытанне можа даць эксперымент, бо мара гэтая – рэальная. Утапічныя гіпотэзы можна праверыць толькі на практыцы. А ў наш жорсткі час праменьчык надзеі, вядома, ніколі не будзе лішні.

**Пераклала з англійскай**
**V. K.**

[1] Пераклад Юркі Гаўрука.

[2] *Ты глядзіш на Маці-Зямлю,*
*Нібы яна нарадзіла цябе без ніякай мэты,*
*Нібы ты – яе першынец*
*І да цябе ніхто не жыў!*

**(Падрадкоўнік.)**









# Леанід Галубовіч

*"Ад яго цёплага слова ў самы люты мароз не дачакаешся".*

*Пэўна, так кажуць, думаюць ці могуць сказаць многія літаматары пра Галубовіча-крытыка і рэдактара.*

*І – дарма. Бо вартых – адагрэў...*



 

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЖЫЦЦЁ ПАЭТА Ў МІНІЯЦЮРЫ

*(“Зацемкі з левай кішэні”)*

* * *

Жонка, вярнуўшыся з гандлёвага цэнтра “Вільнюс”, расказала, прыглушаючы ў сабе самоту і сараматлівасць, што наткнулася там на бамжа, які прасіў міласціну па-беларуску. Сярэдніх гадоў мужчына, колішні інтэлігент... Ніхто не даваў нічога, бо ў большасці і даць няма чаго... Падала яму *заечай драбязы*. Шкадуе, што мала. “Чалавек жа свой...”

Распавядаю гэта ў “ЛіМе”, і Барыс Пятровіч суцешна-аптымістычна ўзгадвае словы беластоцкага вучонага, беларуса Алеся Барскага пра тое, што "тутэйшыя" будуць пачувацца паўнацэннай нацыяй толькі тады, калі “на мове” загавораць мясцовыя прастытуткі... (Здаецца, калісьці нешта падобнае пісаў і Сяргей Дубавец.)

Што ж, час ляціць хутка: бамжы ўжо просяць і “дзякуюць”.

* * *

Трэба было зранку падзяжурыць у рэдакцыі. Чорныя, каламутныя “крынічныя” дні... Быццам штатныя кур’еры – пасівелыя, залышаныя рэдактары – гойсаем па розных бюракратычных канторах...

Падымаюся а дзесятай гадзіне па Кісялёва і, раптам, пачынаю адчуваць нутром пранізлівыя людскія позіркі... Увобмірг аглядваю сябе – як бы ўсё на месцы, ды за які крок наўзбоч натыкаюся вачмі на голага, як маці нарадзіла, мужчыну гадоў сарака... сярэдняга росту, добра збітага целаскладу, чырванаскурага ад яшчэ не прагрэтага ранішняга ветру... абсалютна спакойнага, з адзінай заклапочанасцю на твары – пераходам вуліцы... Міма, у накірунку плошчы Перамогі, адна за адной, як мышы з нары, вышмыгвалі легкавушкі – і ён чакаў іх сыходу...

Прысаромлены, але поўны жыцця, ружовы пеніс яго красаваўся на тым месцы, дзе й трэба, і быў не надта вялікі, каб ад яго нервавацца, а якраз такі – самадастатковы – каб быць на вачах скасавураных дзяўчатак-акселератак...

Збянтэжыўшыся на нейкае імгненне, падымаюся вышэй па вуліцы, толькі пачуўшы мімаходзь насупраць стаматалогіі шушуканне жаночага медперсаналу: “Ён нармальны? Здаецца... Ад бабы? З перапою...”

Не азіраючыся, зварочваю ў двор рэдакцыі. Мужчына як мужчына, голы дык голы...

А ўсё ж карціць калегам сваім пра тое расказаць! Ну, не кожны ж дзень бачыш голага чалавека ў цэнтры сталіцы!..

Першым перад ваччу паўстае Разанаў, і не проста Алесь Разанаў, а ўвесь Разанаў Алесь Сцяпанавіч – у элегантным касцюме сталёвага колеру і *гжэчным* швэдры той жа танальнасці... Стройны, вытанчаны інтэлектуал. Ужо і не памятаю, калі бачыў яго так адмыслова апранутым – па адміністратыўным фасоне...

Бянтэжуся канчаткова і не ведаю, чаму тут здзіўляцца найперш, і ці расказваць яму тую гісторыю...

* * *

Дэмакратыя – гэта тая ж спрадвечная чалавечая барацьба за месца пад сонцам, як і ўсе іншыя сістэмы грамадскага ладу жыцця.

Раней мы “выбіралі” аднаго дурня з аднаго, а цяпер – аднаго з дзесяці... Усяго й прагрэсу...

* * *

“Пагоня” Івана Пташнікава – яскравы сімвал беларускага жыцця. На першы погляд, як бы штампы і традыцыйнасць, а – свежа і па-мастацку праўдзіва...

Быкаў – навязлівы сваімі непрыкрытымі палітычнымі алюзіямі. Пташнікаў – новы ў спрадвечным.

* * *

Чытаеш зранку ў "Народнай газеце": "Привлечен к уголовной ответственности известный предприниматель гражданин Х."

Вечарам чытаеш у "Народнай волі": "За краты пасаджаны вядомы патрыёт і змагар за незалежнасць Беларусі спадар Х."

Нэндзіш маркотны: цябе і пасадзіць няма за што...

* * *

"Сегодняччко" позна ўвечары паведаміла, што на традыцыйным паэтычным конкурсе ў Йемене адзін паэт застрэліў трох "сваіх" парадыстаў... А пасля хацеў уцячы адтуль са сваім пятнаццацігадовым сынам... Аднак сябры парадыстаў дагналі іх і паэта застрэлілі.

Во, якія страсці-мардасці – жудасныя і трагічныя – творацца вакол паэзіі, а вы кажаце, што яна памірае... Не паэзію забіваюць, а – пародыю на яе.

А я сваіх парадыстаў люблю за іх увагу да маёй творчай сярмяжнасці... Я без іх прападу, як Лукашэнка без апазіцыі.

* * *

Гілевіч – манументальны беларус!

І як фігура для будучага манумента, і як знакавая асоба нацыянальнай ментальнасці...

* * *

Яшчэ да гэтага часу ў маёй вёсцы, бывае, пачуеш у мужычым гурце іранічнае:"Ну й брэша, як Хвядорка плача".

Справа вось у чым.

Калі Сталін сканаў, у нас на Клеччыне калгасы яшчэ толькі завязваліся. Людзі нашыя, "заходнікі", асаблівай жальбы па савецкім тыране не выяўлялі. Але, як паўсюль і заўсёды, знаходзіліся свае падхалімы, угоднікі і хрыстапрадаўцы...

Была такой і Хвядорка. (Памерла яна ў 99 гадоў, дажыўшы-такі да таго светлага й заможнага часу, калі разам з жоўцю выблёўваў я за вясковай хатай-чытальняй савецкі бурачны бімбар...)







Гэта яна і раўла, як па сваім родным бацьку, пачуўшы, што памёр таварыш Сталін.

– А-а-а Божухна ж мой, а-а-а каго ж ты ад нас забраў?! Як жа мы цяперака жыць будзем без сонца нашага-а-а, месяца яснага-а-а?! Бедная долечка нас чакае-е-е... А-а-а ніхто ж яго не заменіць... Не пакінь яго там, Божухна-а-а... Ой, Ёсіп Ісароныч, Ёсіп Ісароныч, о-о-ой...

А вочы прыадкрые – сухія, ясныя...

З прыходам Мікіты Хрушчова і пачалі ў адкрытую кпіць з таго яе плачу. Адразу пасмейваліся толькі з самой Хвядоркі, а пасля – асабліва пасля яе смерці – і з тых, хто пачынаў прыдурвацца дзеля пэўнай уласнай карысці: "Во брэша, як тая Хвядорка плача".

Але тады, вясною 53-га, ніхто не смяяўся. Праўда, і не плакаў ніхто, апроч Хвядоркі.

* * *

У чарговым зборніку вершаў Алеся Пісарыка "Глазами любви", што выдадзены ў перакладзе на рускую мову, чытаю такія радкі:

*Скосим васильки-волошки –*
*Цвет весь этот неземной,*
*Чтоб моей любимой ножки*
*Не бродили под луной.*

Так гучыць Алесь Пісарык, апрацаваны прафесійным пяром дабрадушна-барадатага маскоўскага беларуса Івана Бурсава.

*"Не читали б мои глазки бред весь этот неземной"!*

* * *

У "ЛіМ" даслаў ліст былы школьны настаўнік, а цяпер – старшыня райсавета... Працытаваўшы маю "зацемку":"*Паэзія і проза ёсць дзяцінства і старасць, здагадка і ўспамін. Гётэ не зведаў старасці і памёр маладым, а Купала "памёр ад старасці"*, – ён піша, што, "вось, Леанід Міхайлавіч ужо і Купалу крытыкуе, глядзіш, хутка і за самога Пушкіна возьмецца"...

Падтэкст адчуваеце: Гётэ – немчуру гэтага – крытыкуй

сабе на здароўе, і Купалу можаш, але занадта рук не распускай, а вось Пушкіна нашага "не замай" – гэта святое...

І гэта піша ў "культурны нацыянальны орган" беларускі чалавек, на дзяржаўнай пасадзе седзячы, педагог па адукацыі, больш за тое, сам вершы складаючы на матчынай мове...

Піша, вядома, машынальна, бюракратычна і тым часам шчыра і непадробна... Інстынктыўна. Ментальна.

А мы ўсё яшчэ ў рэферэндумах сумняваемся...

* * *

Завітала да мяне Алена Якаўлева. Калісьці разам жылі ў Маскве ў інтэрнаце на Дабралюбава. Я вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах, а яна на перакладчыцкім аддзяленні Літаратурнага інстытута. Шчырае данельга і па-дзіцячы наіўнае 18-гадовае беларускае дзяўчо з вёскі Ігрушка, што на Крупшчыне...

У 1992 годзе скончыла вучобу і ўжо больш за дзесяць гадоў жыве ў Маскве, выйшаўшы там замуж за вучонага-камп'ютэршчыка.

А з мінулага года пераехала з мужам у ЗША на час яго сумесных з амерыканскімі вучонымі даследаванняў...

Роўна адмыслова шчабеча як на роднай мове, так і па-ангельску. Прыехала ў госці, сядзіць у мяне і распавядае, як яе дахаты цягне – проста край... Успамінае, як многія лiтінстытуцкія дзеўкі з правінцыі аж вішчэлі, каб хоць якога лядашчага маскаля абкруціць ды ў стольным градзе асесці... А яна не хацела й не думала, аднак жа – ім не фарт, хоць ты плач, а ёй, хоць рыдай – доля выпала...

Сыну ўжо сем гадоў. Запісаны рускім (муж настояў), але – бульбаш! – круглашчокі, рахманы, сараматлівы трасяначнік (жыве пераважна ў дзеда ў Ігрушцы)...

Развітваемся... На адыходзе пакідае стос вершаў. Чытаю іх назаўтра вечарам. Спрэс настальгія: *мама*, хата, гарод, *бацька,* цяля, кот, *бабуля*, печ, чыгун... суніцы...

Вершы такія ж, як і сама Лена, – шчырыя, цнатлівыя, таемна-прыцішаныя...

А паэзія яшчэ недзе мелецца, заціснутая ў жорсткіх жорнах паміж Масквою і Крупкамі...











А як усё светла і дзіўна пачыналася – з Ігрушкі...

* * *

Дачка нарабіла шкоды і атрымала напоўніцу...

З шарай гадзіны ціхма зашылася спаць...

Няўжо ёй можа прысніцца мой злосны твар? Падыходжу да ложка і – сонную, цёплую, цнатлівую – цалую адным сваім дыханнем, захлынаючыся ад яе незямнога паху...

Сапраўдны ганчар лепіць свой адзіны гаршчок усё жыццё...

* * *

Тэлефаную маме. Адразу пытае аслабелым голасам, ці ўсё ў мяне (у нас) добра, ці здаровыя хоць... бо "занадта часта стала цябе сніць"...

Пытаюся ў адказ, ці здаровая сама, бо нешта голас аселы... Кажа, што ў ноч з чацвярга на пятніцу ледзь Богу душу не аддала – так скруціла было, нават "хуткую" з Клецка выклікалі...

"Прыязджай,– прашу,– да нас, пажыві хоць трошкі без клопату, адсапніся ад хлява ды печы, зіму спакойна перазімуй..."

– А, сынок ты мой, мо калі па цяпле... Мне і тут цяжкасці аніякай няма і ўсё сваё пад рукамі... Што я буду, як сукаватае палена, у вас пад нагамі валяцца...

І вось што ты з ёю, састарэлай, укаранелай у сваю зямлю, зробіш? Паехаць бы ў адведкі, дык яшчэ ж грошай на дарогу наскрэбсці трэба і дарогу тую ператрываць-перанесці, бо не магу я з-за хваробаў сваіх у грамадскім транспарце ездзіць далёка...

"Пазваню,– кажа наастатку,– як свінчо закалю, каб жа ўсім вам (а нас трое братоў і сястра) да Вялікадня па якому скрылю сала ды колцу кілбасы даць..."

Мама. Сын. На чым нашая любоў трымаецца? Нарадзіла – і ўсё жыццё корміць...

А ты толькі па магчымасці стараешся адказваць узаемнасцю: з удзячнасцю браць, штотыдзень тэлефанаваць, зрэдку наведвацца, спехам нешта дапамагаць, няўмела апраўдвацца, супакойваць...

І ноччу, пасля падобных званкоў,– доўга і бяссонна варочацца ў сваім мяккім, аднак мулкім ложку разам са сваімі неадчэпнымі ўспамінамі пра мінулае, пакуль ЯНА ТАМ сніць цябе, бо ўжо не можа мець такім, якім хацела мець *напершапачатку*...

* * *

Падсвядомае: мама – як бы вінаватая перада мной, што выбавіла мяне з адзіноты і пусціла ў гэты страшны людскі свет, а я – што пакідаю яе ў адзіноце па-за тым светам...

* * *

"Бумбамлітавец" Зміцер Вішнёў прынёс у "ЛіМ" стос сваіх вершаў. Драбнатэмныя, іранічна-пафігісцкія тэксты...

Аднак абачлівы Шніп ківае разгубленаму пііту галавой: "Штукі тры дамо"...

Як-ніяк – кансультант Саюза беларускіх пісьменнікаў. Не стрымліваюся і выпальваю абмякламу ў парозе аўтару чарговых "нятленак" свой саркастычны вердыкт: "Чыталі творы: прызналі – хворы"...

Дурная паўза... Дзверы зачыняюцца...

* * *

Пасля аднаго выпадку падумалася, што лепш бы выслаўляцца не па-савецку: "Я з ім у разведку не пайшоў бы", а па-мужчынску: "Я не хацеў бы з ім быць у адным застоллі".

* * *

*Надо писать*
*О том, чего больше не будет.*

Чытаю з вечара рускага лірыка Ул.Сакалова.

Прозай можна задаволіць зямны пожад жыцця, але дыхаць мусіш толькі высокім небам паэзіі...

Гляджу на гадзіннік: палова на другую ночы...

*Даже в самой наполненной строчке*
*Безвоздушные паузы есть.*

* * *

Я чытаў кніжкі запоем да таго часу, пакуль яны ўплывалі на фарміраванне майго інтэлекту і свядомасці.







Чытаць Умбэрта Эка і Міларада Павіча – зусім не значыць і самому мець адпаведны ім светапогляд.

Погляд у кожнага чалавека павінен быць свой, у тым ліку і на Умбэрта Эка і Міларада Павіча...

* * *

Часам чалавек піша так разумна, што за яго пачынаеш баяцца.

"Паміж простым, як мычанне, "МЫ" і асліным "Я" розніца тая, якая можа быць уключана ў супрацьстаянне бясконцага скончанаму і абмежаванаму; кожнае "МЫ" складаецца са шматлікіх "Я", якія самі яўляюць прадукт пэўнай гістарычнасці, уласцівай чалавеку, упісанай у глыб яго істоты, што дазваляе ўплываць знутры на вонкавае атачэнне, выклікаць пасоўванне культурнага тла з усталяваных пазіцый".

(Дзм.Серабракоў. "Крыніца" № 59 за 1999 г., з эсэ да "постаці" В.Чаропкі.)

Зрэшты, сярод новага творчага пакалення Серабракоў не адзінокі. Вось што піша ў тым жа нумары часопіса Андрэй Хадановіч, разважаючы пра пераклады "Песняў" Эзры Паўнда з маладым і таленавітым Міхасём Баярынам:"*Такі лінгвістычны падыход, натуральна, ускладняе камунікацыю*"...

Найноўшыя праявы андрэяплатонаўскага "камунгасу" ў сучасным літаратуразнаўстве.

* * *

Ідучы з вакзала, натыкнуўся вачыма на старую жанчыну. Уразіў яе твар – даўганосы, зморшчаны, востра выцягнуты – ну, мама дый годзе!.. А яшчэ вочы – глыбокія, з бледна-бяздонным блакітам... "Ма-ма!" – ёкнула ўнутры...

Але – не...

Разгублена азіраецца яна, углядваючыся ў шумнае брудна-заснежанае, грукотна-бетоннае наваколле сталіцы...

Падыходжу і спагадліва-вінавата пытаюся, немаведама чаму заклапочаны яе лёсам.

– Прабачце, вы часам не заблудзіліся?..

– Не, сынок... Проста стаю-ўспамінаю... Здаецца мне, што я тут была ўжо... некалі...

Мажліва, праз які дзесятак-другі гадоў, калі дасць Бог жыцця, я, напэўна, вось так буду ўглядацца ў зарослыя быльнягом сядзібы сваёй "малой" бацькаўшчыны...

– *Ну чё, деда*,– скажа, сплёўваючы праз губу ўнук, нехаця высоўваючыся з машыны,– *ниче нету здеся. Заплутали, что ль, или не тем путем пилили?..*

– Ды не, усё правільна... Быў я тут некалі...

* * *

Часамі, калі апатыя ўжо зусім зацягвае "жыццё на вузел",– я дастаю з самай верхняй паліцы кніжнай шафы, дзе ў мяне адстойваецца, як вінаграднае віно, самае-самае, чырвоны каленкоравы том мастацкай прозы Юрыя Казакова.

"Осень в дубовых лесах", "Свечечка", "Во сне ты горько плакал"...

Многае з названага я ведаю настолькі падрабязна, што мне бывае дастаткова адно толькі самой гэтай кніжкі перад вачыма...

І – *"Такая тоска забрала меня вдруг в тот вечер, что не знал я, куда и деваться – хоть вешайся!*

Мы были с тобой одни в нашем большом, светлом и тихом доме. А за окном давно уже стояла ноябрьская тьма, часто порывами налетал ветер, и тогда лес вокруг дома начинал шуметь печальным голым шумом.

Я вышел на крыльцо поглядеть, нет ли дождя...

Дождя не было".

Чыстым одумным святлом паступова затапляе маю плоць, і я – ажываю...

* * *

Глядзеў амерыканскі фільм у стылі рэтра "Любая Молі"...

Сюжэт: двое сяброў любяць адну дзяўчыну, яна ж, апроч як з імі, кахаецца яшчэ і з трэцім... Дык той трэці кажа пры выпадковай сустрэчы двум першым: "Жаночая любоў, як світальная раса, падае і на конскія *яблыкі*, і на пялёсткі ружаў"...

Нешта ў гэтым ёсць. Вульгарнае, простанароднае, але – трапнае... Дарэчы, на мой погляд, дык і мужчынская – таксама падае на тыя ж самыя прадметы...



* * *

Уласную смерць нельга ўявіць і зразумець даастатку.

Памятаю, бабуля мая Алімпа ў свае 93 гады штораз пры маім прыездзе назаўжды развітвалася са мною, баючыся, што не дажыве да маіх наступных адведкаў...

Нешта неапісальнае тварылася пры гэтым амаль натуральным акце развітання... і з ёю, і са мною...

Глыбока ў вачах яе тлеў маленькі таемны агеньчык, што, здавалася, мог згаснуць ад кожнага нашага няроўнага дыху – і то быў дух яе ці душа, пэўна...

Фізічную смерць мы можам зразумець: пралічыць пры жаданні арыфметычна і біялагічна.

А вось душу... Мажліва, чалавек яе прыдумаў, каб зачапіцца, хоць як і хоць чым, за вечнае і несмяротнае...

І гэтая яго прыдумка роўная па геніяльнасці той глінянай прыдумцы адвечнага Бога – стварэнню чалавека як жывой істоты.

* * *

Прачнуўся, як заўжды, каля адзінаццаці.

Жонка пакінула "ксіву": вынесі смецце!

Увесь ранішні туалет праводжу ў роздуме над Славамірам Адамовічам – усё пнуся напісаць для "ЛіМа" рэцэнзію на яго "нашаніўскі" зборнік "Плавільшчыкі расы"...

Не йдзе. Рэч сур'ёзная. Тут наскокам не возьмеш. Але ўжо колькі дзён зацыклены менавіта на гэтым...

Збіраючы цэлафанавыя смеццевыя мяшкі, успамінаю ўчарашні вясёлы расповед Валянціна Акудовіча пра начныя пасядзелкі Адамовіча ў вітальні познаньскага бардэля, – аўтаматычна зачыняю за сабой дзверы ўласнай кватэры...

Выношу смецце і вяртаюся. Ключы ад кватэры "захлопнуты" з таго боку!..

Госпадзе! Навошта мне было звязвацца з гэтым Адамовічам?! Цяпер паўдня калывайся перад гэтымі сваімі, самім сабой замкнёнымі дзвярыма, як злодзей – перад чужымі...

Каб, у рэшце рэшт, зноў замкнуцца, але ўжо з адваротнага боку...

* * *

Максім Гарэцкі, пішучы пра творчасць "маладнякоўца" Аркадзя Моркаўкі: *"Творчая прадукцыя ішла ў яго вельмі няроўна. У 1922 і 1923 г. ён напісаў некалькі вершаў. У 1924 г.– нічога не напісаў. У 1925 г.– зноў некалькі вершаў, а ў 1926 – зноў нічога, ніводнага вершу. Найбольш пісаў у 1927 г. Мала і з вялікімі перапынкамі піша ён, між іншым, з прычыны цяжкіх умоў жыцьця".*

(Час."Полымя". №9 за 1928 г.)

Вы можаце ўявіць сабе, што нешта падобнае можа выдрукаваць сённяшні афіцыйны крытык у дзяржаўнай перыёдыцы пра якога сучаснага, хоць і маладога, але таленавітага паэта, у якога таксама *"творчая прадукцыя ідзе вельмі няроўна з прычыны цяжкіх умоў жыцьця"?!*

* * *

Чалавек усім сабою паказвае нам, што ён паэт альбо хоча ім быць і звацца, і ў той жа час дазваляе сабе ўчынкі адваротнага кшталту, якія адводзяць яго ад абранай мэты...

Паэт – гэта не быццё, а – падсвядомасць...

* * *

Узяў у рэдакцыі "ЛіМа" пачытаць-пагартаць на вечар два новыя зборнічкі вершаў вядомых мне паэтак. Нашай – Ніны Гарагляд з Берасцейшчыны, і рускай – былой супрацоўніцы выдавецтва "Мастацкая літаратура" Марыны Наталіч (у свеце – Наталля Давыдзенка).

Чытаючы, у абодвух натыкнуўся на балючую для сябе тэму – паэтычнай творчасці.

Ніна Гарагляд піша так:

*Калі адчую, што слабею,*
*Што слоў для песні не стае,*
*Тады ў зялёны нерат грэблі*
*Я гуслі пакладу свае.*



Моцна, традыцыйна. З самабытнай купалаўскай інтанацыяй...
У Марыны Наталіч іначай:

*Никакая я не поэтесса,*
*Я стихиня, женщина-стихия,*
*Я отрада вечная твоя,*
*Не пишу поэмы и стихи я,*
*А кормлю с ладони воробья.*
.......................
*Быть собой – не грех и самозванство,*
*А названья вечны и легки.*
*Я – стихиня,*
*И с моей руки*
*Отлетают в Божее пространство*
*Птицы и стихи.*

А вось тут – з лёгкай аўтарскай рукі – высыпана праз меру і літаратурнага какецтва, і мройлівай метафорыкі...

Празмернае ўпрыгожванне непраўдзівае настолькі ж, наколькі непрыгожая і праз край аголеная праўда.

Але на тое й Паэзія, каб знайсці ў сабе моцы і зазірнуць той страшнай праўдзе ў вочы – і ўзвесці яе ў ранг высокага мастацтва...

* * *

Сканаў у рэанімацыі — пасля таго, як яго збіла таксоўка на вуліцы, — наш слынны гісторык Мікола Ермаловіч.

Заўтра ў Доме літаратара адбудзецца жалоба.

Вечарам уключыў "Панараму" навінаў Беларускага тэлебачання, думаў, скажуць колькі добрых слоў услед вялікаму чалавеку ды заадно спавесцяць пра заўтрашняе развітанне з ім гэты цёмны й гаротны, але ўслаўлены ім народ...

Не, у апошнім раздзеле – "Навіны культуры" – ажно ўздрыгнуў ад гневу і неўразумеласці, калі дыктар Косцін пачаў блытана зачытваць наступнае: *"А вось казахстанскія вярблюды, шаноўныя тэлегледачы, пра якіх мы вам ужо расказвалі і за лёсам якіх уважліва сочым, усё-ткі выжылі і, нарэшце, будуць*

*адпраўлены з Брэсцкай мытні ў Гродненскі заапарк. І пра гэта ў нашай заўтрашняй праграме – больш падрабязна...”*

І ані слова – пра трагічны лёс слыннага чалавека.

Што гэта?! Духоўнае варварства, душэўны цынізм, паранойя?..

* * *

Быў на жалобе па Міколу Ермаловічу.

Надвор’е нудотнае, кіслае, восеньскае (а заўтра, між іншым, 8 сакавіка)... Народу правесці ў апошні шлях свайго нацыянальнага гісторыка прыйшло надзіва мала (пра тое, пасля ўсяго ўжо, пажурыліся сумесна з Брылём). Ці не таму і гісторыя гэтага народа на сённяшні дзень такая сіратліва-сумная?..

Тым жа вечарам чытаю свежую “Нашу Ніву”. На першай старонцы – юбілейны матэрыял да 65-годдзя Рыгора Барадуліна. Хораша, з густам, з павагай да паэта...

Але навошта гэтае (нават і ў загалоўку вялікімі літарамі) пра жывога, дзякаваць Богу, паэта: АПОСТАЛ НАЦЫІ – трошкі ніжэй некралога з фотакарткай Міколы Ермаловіча ў чорнай рамцы?!

Жывога пры памерлым...

Усё-ткі няма ў нас, беларусаў правінцыйных, гонару – не за кожнага паасобку – а за чалавека ўвогуле...

І ад гэтага – таксама самотна...

* * *

Чытаў “Палыновыя санеты” Барадуліна ў першым за 2000 год нумары “Полымя”.

Якія перлы! Якія залатыя россыпы!

Барадуліна, і як паэта, і як вершаскладальніка, так многа – і якасна, і колькасна – што яго аднаго хапіла б на ўсю сучасную беларускую паэзію. І гэта не дакор Барадуліну, а шчырае захапленне тым, што ён такі ў нас ёсць...

* * *

Па веравызнанні я, безумоўна ж, хрысціянін. А вось да якой канфесіі вернікаў сябе аднošу – цяжка сказаць.



Не праваслаўны, бо не хаджу ў царкву, хоць немаўлём і ахрышчаны ў ёй бацькамі; не каталік, бо на імшу ў касцёл Святога Роха на Залатой Горцы ходзяць толькі мая жонка з дачкою, хоць я там і абвянчаны; не уніят, хоць гэта мне найбліжэй, не баптыст-евангеліст з тых, якія да свайго малітоўнага дома завабілі ўсіх маіх аднавяскоўцаў...

Хрысціянін сам па сабе – пад Богам і дзеля Яго славы.

Жонка раніцай кажа, што ў каталікоў сёння *Папялец*, і пытае ў мяне, ці не хачу я *пасыпаць сваю галаву попелам...*

Ды яна ў мяне ім і адлівае, як апошні грош у бяссрэбраніка...

* * *

У Янкі Брыля – пра “талстоўскае адчуванне меры” – і ва ўспамінах, і на юбілеях, і на паніхідах...

Усё так, Іван Антонавіч, Леў Мікалаевіч праўду казаў. Адна толькі акалічнасць спакою не дае: мера-то ў кожнага з нас свая.

І тое, што мог несці Талстой, Брыль, магчыма, і не панясе, а пасільнае Брылю – Галубовічу непад’ёмнае...

* * *

А вось з тым, што Брыль “не ручаецца, што пражыў бы” сваё жыццё *нанова* лепш, чым гэтае, якое дажывае, я абсалютна згодны.

Бо, на маё меркаванне, жывучы другім наваратам, чалавек засцерагаў бы сябе ад усялякай небяспекі, ад якой яму не давялося ўвільнуць у сваім *першым* жыцці, таму й на спагаду і бескарысную любоў да людзей у яго ўжо наўрад ці хапіла б часу і душэўнага чуцця...

Думаючы толькі пра *сваё* жыццё, у рэшце рэшт, пражываеш *чужое*...

* * *

Прачытаўшы ў "лімаўскай" нізцы вершаў Віктара Шніпа такія радкі:

*“Хто Азію любіць, хто любіць Еўропу,*
*А ён палюбіў вашу царскую попу...”* –

я адразу ж прыпомніў, як напрыканцы 80-х таксама паспрабаваў быў "пазарыцца" на гэты адметны фізічны орган, аднак тут жа атрымаў "адлуп" ад нашага вядомага дзіцячага паэта-лагерніка Станіслава Шушкевіча. Яго іранічна-суворы ліст прыйшоў да мяне ў вёску Вароніна літаральна праз тры дні пасля выхаду "ЛіМа" з такімі маімі імпрэсіямі:

*І не прыкрыўшы ўнуку попу –*
*Нібыта Пётр акно ў Еўропу –*
*Акно раскрыльвае ў Сусвет...*

дзе, чорным па белым, было напісана так: *"А дэкадэнцкае слова ПОПА трэба замяніць беларускім словам СРАКА"*.

Увогуле крытыкаваў мяне дзед няшчадна, але, як сёння мне бачыцца, справядліва. Я, хоць і запознена, прашу ў яго прабачэння за свае тадышнія "геніяльныя бзікі" ў адказ на яго дабрадзейныя лісты.

Цяпер, браце Віця, "тваю" ПОПУ могуць замяніць толькі на ЖОПУ... Прабач...

* * *

У Жылкі чытаю: *"Трагічнае схавана хараство"*. Гэта ў адносінах – у дадзеным выпадку – да паэзіі Максіма Багдановіча.

Трагічнае хараство, схаванае ад досведу зямнога людства, – гэта не што іншае, як чалавечая planіда. Тое, што заўжды чакае нас наперадзе – невядомае і таямнічае – нават і пасля смерці...

* * *

Чытаю ў Ю.Тынянава: "*Пісаць пра вершы цяпер гэтак жа цяжка, як і пісаць вершы. А пісаць вершы настолькі ж цяжка, як і чытаць іх. Такі безвыходны круг нашага часу. Вершаў усё менш і менш, і, па сутнасці, цяпер перад намі не вершы, а паэты. І гэта не так мала, як здаецца*"...

Артыкул 1924 года, але, на мой погляд, ён *бясчасны.*

* * *

Вельмі хачу пазнаёміцца (а ў перспектыве і пасябраваць) з сапраўдным беларускім яўрэем, які не камплексаваў бы з выпадку






сваёй прыналежнасці да гэтай вялікай і таленавітай нацыі, не хаваўся б ад свету і не хаваў бы сябе і сваё адпрыроднае (Боскае).

Я хачу паразумецца з адным канкрэтным яўрэем як з індывідуумам і значнай чалавечай асобай, а праз яго і з усёй нацыяй і народам яго, што ў сваёй патаемнасці і схаванасці не даюцца майму грахоўнаму разуменню...

* * *

Выпадкова сустрэўся з Сысам каля "лімаўскіх" дзвярэй. Выпіты, худы, разбэрсаны, тужліва-апатычны... Коратка падстрыжаны, на галаве – доўгі шнар ад сякеры... Зусім сапсеў чалавек.

Не магу даўмецца, што зрабілася з ім (а мо зрабілі?) за апошнія пятнаццаць гадоў. Я памятаю яго дваццацігадовым малайцом у Каралішчавічах, якога мы цэлым багемным кагалам ледзь угаварылі пракаўтнуць стограмоўку гарэлкі...

Чысценькі, правільны такі, прыгожы паляшуцкі маладзён – аб'ект дзявочых заляцанняў...

І вось што ад яго засталося: скура, косці ды загнаны воўчы пагляд – аднекуль у нікуды...

Плата за растрачаны Боскі талент?..

* * *

Ужо амаль год, як скончыліся "лімаўскія" шумныя пасядзелкі ў заўжды адчыненым пакоі Барыса Пятровіча.

Прыйшоў Пісьмянкоў, сышоў Пятровіч, з'явіўся Гаўрон...

І – стала ў "ЛіМе" ціха, пуста, вусцішна і пpасторна... Хоць, як той казаў, сабак ганяй...

Дык – не, і сабак то яны ганяюць не тут, а ў "Нашай Ніве"...

* * *

*"Arche"* – дарагі, а "ЛіМ" – танны...

* * *

За ўсё сваё літарацкае жыццё я так і не напісаў аніводнага аб'ёмнага твора альбо хоць якой лядачай паэмы.

Я – мініяцюрна выпісаны чалавек пры Яе Вялікасці Літаратуры.

* * *

Чытаю ў Віктара Шклоўскага: "Часопіс быў запоўнены рыхлай, напластаванай, нават на старое сена не падобнай, белетрыстыкай. Туды пісалі людзі, якія адрозніваліся адзін ад аднаго толькі прозвішчамі".

Як знаёма. І вось гэтае – таксама, нават і на сённяшні час актуальнае: "Пафас яму быў патрэбны, як лецішча".

* * *

Ларыса Генію ш – міламу, страшна загінуўшаму праз самагубства – Міколу Прашковічу ў 1965 годзе піша: «Я хацела б, каб Вы заўсягды мелі малы заробак, бо баюся, калі стане ён большы, Вы можаце "меншым" зрабіцца».

Як трапна ў дачыненні да людзей з няўстойлівым характарам і саслабелай воляй. Хоць, іншым разам, і безграшоўе некаторых з нас штурхае да лукавага і д'ябальскага...

Бо мера матэрыяльнага – у чалавека, а мера духоўнага – у Бога...

* * *

Перачытваў трагічнага расейскага іраніста Венедыкта Ерафеева. Здаровы, цвярозы несавецкі чалавек.

Лёс увайшоў і выйшаў скрозь яго горлам...

* * *

Ці патрэбная сёння каму-небудзь, апроч саміх аўтараў, мастацкая літаратура? Безумоўна, што і ў самога сябе пытаюся... І – не адказваю, бо – не ведаю...

Мабыць, адказ на падобнае пытанне можна звесці да яшчэ аднаго, не менш істотнага: а сам чалавек ці патрэбны каму? Кожны канкрэтны і ўсе разам узятыя?

Зрэшты, Борхес – памёр, а бібліятэка – засталася...

* * *

Праз сваю шчырасць і колькімагчымую сумленнасць я застаўся, па сутнасці, наводшыбе нашай літаратуры.

Не скажу, што мяне ненавідзяць альбо прылюдна староняцца, бо гэта было б празмерна, але што недалюбліваюць у душы сваёй – гэта бясспрэчна...

Выходзіць, адзін толькі я і стаўлюся да сябе з павагай. Але, скажу вам, што і гэткую пашану ў самога сябе заслужыць не так проста, як тое можа некаму падацца...

* * *

Ужо больш як год адчуваю сябе падобна расстроенаму раялю...

Нешта ўнутры мяне абарвалася, парушыўшы пэўныя сувязі душы і розуму, – і там усталяваліся і фальшыва запанавалі хаос і дысгармонія...

Маё Я зрабілася не адэкватным майму ЁН...

І цяпер я жыву, як разладжаны гэтым часам чалавек...

* * *

Бог сплаціць тым, хто зведаў нястачы, са сродкаў тых, хто спазнаў шчадроты...

* * *

Як мудра, прыгожа і чалавечна развітаўся ў "ЛіМе" Анатоль Кудравец з Уладзімірам Верамейчыкам...

Прачытаў – пранікся – быцта й сам з некім родным і некім блізкім вось-вось толькі што расстаўся... А не ведаў жа нябожчыка, не бачыў ні разу, нават, каюся, і чытаў мала што...

Пра мяне так ніхто не напіша. Не таму, што не захоча ці не зможа, а таму, што я сам не такі і такіх верных сяброў не маю...

Шкада. І Верамейчыка, і сябе, і часу няўпыннага, які то прылічвае нас да сябе, то – адлічвае...

* * *

Не трэба, хлопцы, прыдумляць сябе.

Давайце жыць проста, як сама прырода, з якой мы ўсе выйшлі...

І памятаць, хоць і рускае, а ўсё ж мудрае, і трохі мной перафразаванае выслоўе: "На выдумку только голь хитра"...

* * *

Цяпер і Ельцын уліўся ў шэрагі беларускіх адраджэнцаў...

Ён, як і Арлоў з Мальдзісам, – кавалер ордэна Францішка Скарыны.

* * *

18 лютага 2000 года глядзеў праграму БТ "Землякі" з Клецкага раёна. Пагляджу, думаю, на сваіх землякоў, парадуюся, падзіўлюся, успомню... Тым больш што і вядучы – вядомы мне літаратар Валодзя Клімовіч.

Выступае са сцэны мясцовага шыкоўнага Дома культуры настаўніца гісторыі Марацкай СШ. Хораша гаворыць па-беларуску пра сваю нацыянальную школу... Вядучы кажа, што яшчэ яна добра спявае ў дуэце са сваім васьмігадовым сынам. Зала запрашае іх што-небудзь праспяваць. І што, вы думаеце, яны заспявалі?!

Расейскую папсу:"Там, за туманами, вечными(?) пьяными(?!)"...

Было брыдка, крыўдна, абразліва да слёз...

Але было і радасна напрыканцы, калі інжынер масларобчага камбіната, жанчына гадоў трыццаці пяці, што прыехала сюды з мужам на яго бацькаўшчыну з далёкай расейскай Поўначы, сказала, што моцна палюбіла сваю новую радзіму і вечарамі вывучае беларускую мову разам са сваім сынам...

Які тут можа быць каментар, калі тутэйшых даводзіцца ненавідзець, а прышлых любіць...

* * *

Бывае, што не разумею, дзеля чаго некаторыя літаратары намагаюцца пісаць свае тэксты так складана, з такімі завіхрэннямі і закавыкамі, калі, у рэшце рэшт, з усяго напісанага імі выяўляюцца такія простыя, а то і прымітыўныя рэчы...

* * *

Чытаю ў тыднёвіку "Книжный мир" артыкул былога







дырэктара Літфонда СП БССР Вільтоўскага пра раман у вершах "Родныя дзеці", таксама былога старшыні праўлення СП БССР Ніла Гілевіча. Між іншым, піша ён наступнае: "На жаль, раман выйшаў смехатворным тыражом – усяго шэсць тысяч экзempляраў"...

Усяго толькі шэсць тысяч?! Птамаць! І што тут яшчэ скажаш, апроч сказанага: "Быў час, быў век, была эпоха"...

А менавіта – 1985 год.

* * *

Жончына сяброўка падаравала маёй дачцэ пародзістага сабаку. Не спалі ўсю ноч...

Назаўтра ж – аддалі назад.

Не, у маім свеце ўжо адназначна няма месца для сабак, якімі б яны ні былі – паслухмянымі, ліслівымі, вернымі...

З маленства не жадаў з імі знацца, і бацька іх пры сваім двары не трымаў, і чужых за вярсту абыходзіў...

Аднак цяпер такое "поветрие" пайшло – асабліва ў гарадах, – што сабак сталі любіць больш, чым людзей...

Ці не таму сёння і шарыкавы ў такой народнай пашане?..

* * *

Жонка разумее мяне ў дзвюх рэчах – любові і творчасці...

Як ні дзіўна, але гэтага мне хапае, каб не лічыць сябе дарэшты няшчасным...

* * *

Помнае яшчэ з маленства, а нядаўна наноў падгледжанае за дзіцячымі забавамі з дачкою.

Гуляем у хованкі. Не знаходжу малой, бо хачу паказаць, як яна добра схавалася ад мяне ў нашай прастакутнай "хрушчоўцы"...

А ўсё ж трэба яе й адшукаць нарэшце... Ды як толькі я набліжаюся да яе схову, яна закрывае свае вочы рукамі і думае, што я не бачу яе, гэтаксама як і яна мяне...

Падобнае падманнае спадзяванне закрадваецца і ў дарослыя галовы: маўляў, калі я закрыю ўласныя вочы на тое кепства, якое раблю дзеля ўласнай карысці, то яно і іншымі не будзе заўважана...

Наіўна, але менавіта так мы спрабуем закрыць вочы на зямныя грахі свае перад Богам, дачасна разумеючы, што падманваем, у рэшце рэшт, не Яго, а сябе (мы – ашукваем, а Ён – адшуквае)...

* * *

У Янкі Брыля ў чарговай нізцы лірычных запісаў: "Нявесту, дзеля праверкі нерушы, саджалі іменна на дзяжу".

Не магу даўмецца – чаму? Цеста, дапусцім, узыходзіла, і – што? Ці дзяжа была пустая, і – як?..

Зусім я ў гэтай справе нюх згубіў...

Трэба спытаць у самога Івана Антонавіча. Якія казытлівыя і патаемныя рэчы, аказваецца, яму пашчасціла назіраць у сваім доўгім, здаровым і молада-рупным жыцці!

Зайздросна. І ў гэтым нават...

* * *

Не першы раз заўважаю маладзёнаў на менскіх вуліцах – і хлопцаў, і дзяўчат – у шапках, надзетых брылямі назад, не да твару, а да спіны...

Атрымліваецца даволі цікавая сітуацыя, пры якой у чалавека галава пад шапкай ёсць, а твару як бы й няма...

* * *

– А Сыс гэты – хто ён, не пазнаёміш?

– Ды п’янтос ён...

– П’янтос, а так піша?! Што ж ён п’е?..

(З падслуханага дыялогу бывалага і пачаткоўца.)

* * *

Вось дажыў да 50 гадоў. Здаецца, ёсць ужо нейкая “вядомасць у вузкіх колах”...

А як хочацца назад – туды! – у маладое і невядомае...

* * *

Калі жыццё ёсць штодзённым духоўным абавязкам і маральнай адказнасцю чалавека перад той Прыродай, якая спарадзіла яго, то такое жыццё з’яўляецца *божаісным*, а значыць, свабодным.

Усякае ж астатняе жыццё – *неабавязковае* і *безадказнае*...

* * *

Дачка мая дванаццацігадовая, калі на яе сварымся, хітра папракае нас за тое, што на яе крычым: я ж яшчэ малая, каб усё разумець...

Калі ж справа даходзіць да смачнай крамнай пакупкі ці святочнага падарунка, то тут яна заяўляе, што ўжо абсалютна дарослая і можа сама вырашаць гэтыя пытанні...

Так і мы, дарослыя: грахі свае “*умаляем*”, а жаданні “*возвеличиваем*”...

* * *

Не пішу вершаў сам, дык запоем магу чытаць чужую, але сваю мне, паэзію...

Сыс, Адамовіч, Разанаў, Мінкін, Дранько-Майсюк, Някляеў, Купрэеў, Булыка, Пацюпа, Дубянецкая, Хадановіч, Чобат...

Атрымліваю новы душэўны і разумовы досвед ад перачытвання іх вершаў...

Абсалютна правільным было маё рашэнне – пакінуць пісаць вершы. Чытаць паэзію ўсё ж лягчэй, чым *жыць* ёю...

Той час цяпер цяжка ўспамінаць. Лепш *перачытваць* чужы... як свой...

* * *

Памятаю, у музеі Янкі Купалы, што таксама важна ў праекцыі да гэтай зацемкі, на вечарыне ў гонар чарговага дзяржлаўрэата ад паэзіі Уладзіміра Някляева, іншы наш паэт, Генадзь Бураўкін, пачаў горача заклікаць слухачоў, а ўсе яны былі ў сваёй большасці паэты, што: "*Паэтам трэба ісці ва ўладу!*"

Ці то ў апраўданне сваёй жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі, ці то яшчэ што...

А я маракую, што калі талент чалавеку даецца Богам, то ён (чалавек той) ад Бога і *залежны*.

Таму кожны сапраўдны паэт павінен быць ва ўладзе –

абсалютна так, Генадзь Мікалаевіч, але ва ўладзе *Боскай*, а не *д'ябальскай*...

* * *

Я думаю, што творчасць чалавечая пачынаецца не са здзіўлення і любові, не з нянавісці і злосці, а з супраціву таго, што ты наважыўся выявіць на свет Божы з таемных сховаў душы і розуму...

Усякая рэч – суб'ектыўная і аб'ектыўная – жывое і нежывое – граніт, фарба і слова – супраціўляюцца творцы, захоўваючы сябе ў сваім першародным (прыродным) стане...

Творцу супрацівіцца ўсё, а сам творца супрацівіцца толькі ўладзе над сабой...

* * *

Калі я пішу пра жанчын-літаратараў у тым сэнсе, што яны творцы самі па сабе (па прыродзе сваёй), што свае творы яны нараджаюць у пакутах зямных і гэтыя іх творы ёсць чалавекі, то на мяне моцна сярдуюць і тыцкаюць носам то ў Сафо, то ў Жорж Занд, то ў Вірджынію Вулф, то ў Габрыелу Містраль, то ў Марыну Цвятаеву, то ў Ганну Ахматаву...

Вядома, што самыя высокія праявы чалавечага духу – паднебныя, неразгадана-таемныя – гэта менавіта творы музыкі і паэзіі... Больш за тое, музыку і саміх музыкаў ставяць пад гэтым небам чамусьці вышэй за паэзію і паэтаў.

Але ці здольныя вы назваць мне хоць колькі значных і шырокавядомых імёнаў кампазітараў жаночага роду?

Жанчыны толькі нараджаюць *музыкаў*, а ўжо тыя збіраюць да адзінай гармоніі ўсе згукі іх патаемнага жыцця...

* * *

Шчыра кажучы, я так не хваляваўся нават, чакаючы выхаду ў свет сваёй першай кніжачкі вершаў "Таемнасць агню", як хвалююся ў свае пяцьдзесят перад "таемна-падпольным" выхадам у старажытным Полацку кніжачкі *"апошніх вершаў леаніда галубовіча"*...

Магчыма, развітанне з паэзіяй больш шчымлівае і драматычнае для душы, чым першая сустрэча з ёю...

А можа, і насамрэч – паэт я ўсё-ткі?..






* * *

Сёння вычытаў у Тынянава пра смерць як паэтычны вобраз у літаратурнай творчасці.

Тынянаў цытуе словы Вяземскага адносна згаданай тэматыкі ў Жукоўскага: "*Жуковский более других должен остерегаться от однообразия: он страх как легко привыкает. Было время, что он напал на мысль о смерти и всякое стихотворение свое кончал похоронами. Предчувствие смерти поражает, когда вырывается; но если мы видим, что человек каждый день ожидает смерти, а все-таки здравствует, то предчувствия его, наконец, смешат нас.*

(...) Евдоким Давыдов рассказывает, что изувеченный Евграф Давыдов говорил ему, что он все о смерти думает:" (...) ну, и думаешь, что умрешь вечером; ну, братец, и велишь себе подать чаю; ну, братец, и пьешь чай и думаешь, что умрешь; ну, не умираешь, братец; велишь себе подать ужинать, братец; ну, и ужинаешь и думаешь, что умрешь; ну, и отужинаешь, братец, и не умираешь; спать ляжешь; ну, братец, и заснешь и думаешь, что умрешь, братец; утром проснешься, братец; ну, не умер еще; ну, братец, опять велишь себе подать чаю, братец".

Быў, як я сёння разумею, і ў мяне падобны перыяд у вершаванні...

Папапіў і я *гэтай гарбаты*. А ўсё жыву, браткі, дзякаваць Богу...

* * *

Жывыя дадумваюць чалавечае жыццё за памерлых...

* * *

З выхадам у свет сваіх *"апошніх вершаў"* я зразумеў, што ёсць людзі, якія зайздросцяць не толькі таму, што ты зрабіў ці робіш, але і таму, чаго ты разам з імі рабіць не хочаш...

Яны не маюць сілы на падобнае і – зайздросцяць... нават гэткай тваёй незайздроснай долі...

* * *

Такой вясны і не прыпомню – у 20-х чыслах красавіка да 25 градусаў цяпла... Стаю на гаўбцы з голым торсам, у шортах, і

натуральна хмялею ад паху белапеннай чаромхі... Жыццё прэ з усіх адталых пасля зімы пор, ажно галава йдзе кругам...

Каб працверазець, уключаю "навіны" БТ – там яшчэ *люты...*

* * *

Бацька сканаў (з дапамогай морфію) ціха, пад самы вечар... Абмываць яго паклікалі суседку, бацькаву, лічы, равесніцу. Мы з бацькавым шваграм, дзядзькам Мішам, падтрымлівалі яго, а яна абмывала, змочваючы свежае палатно ў цёплай вадзе, і абцірала схаладалае, апруцянелае ўжо цела...

А мама збоку стаяла і нейк любасна-шчымліва, як бы нават раўніва ўзіралася, развітальна аглядваючы свайго мужа-нябожчыка...

Суседка ўзялася абмываць бацькаў чэлес, без усялякай да таго ўважнасці, мыючы плоць як адно цэлае, хоць ужо й мёртвае...

А мама раптам падышла, мімаходзь, па-гаспадарску ўзяла бацькаў чэлес з суседчыных рук, на якое імгненне толькі, і сказала як са здзіўленнем нават: "Госпадзе, і адкуль ён цяпер у яго такі ўзяўся?"

Ніхто на яе словы не звярнуў увагі, і толькі я сам сабе падсвядома зварухнуў кароткую думку, што мама, пэўна, мела на ўвазе бацькаву цяжкую, хоць і нядоўгую, хваробу, калі ёй трэба было "вадзіць яго да ветру", шукаючы ў палатняным прарэху нагавіцаў яго скукожаны ад сораму й немачы чэлес, каб даць аблегчыцца...

У яшчэ жывога, у яе руках – ён канчаткова згасаў, а сёння ў мёртвага, у суседчыных – быў наўпрост відочны, хоць пусты і халодны...

І гэта не парнаграфія, малахольныя эстэты!

Гэта чыста вясковая людскасць, якая і Фрэйду не снілася...

* * *

Атрымаў самы аб'ёмны ў сваім жыцці (42 старонкі машынапісу праз адзін інтэрвал!) ліст ад сябра з Кіева...

Ліст нервовы, блытаны, роспачны, як нашае (а яго асабліва!) жыццё...

Чытаў усю ноч. З перапынкамі, са спробамі асэнсавання.

Заснуў, як ніколі, адразу й намёртва...

Прачнуўся хворы...







* * *

Госпадзе, якая беднасць настала! Як сорамна стала жыць...

Яшчэ гады таму два-тры назад можна было ў пераходзе на Круглай плошчы падаць міласціну ў тысячу, а то нават і ў пяць тысяч беларускіх рублёў якому старому жабраку ці збяднеламу музыканту...

А сёння?!

Як цудоўна іграе на саксафоне малады, па ўсім відаць, вясковы хлопец, студэнт кансерваторыі... Не пайшоў красці і ў бацькоў апошняе не выцягвае, а спрабуе зарабіць...

Іду міма, слухаю, апусціўшы вочы долу, з пустой правай кішэняй і зжаленай душой...

А мая нішчымна-душэўная "міласціна" *з левай кішэні* – каму яна сёння патрэбная?..

* * *

Я, на жаль, прачынаюся намнога пазней за жонку. Часта заседжваюся за поўнач. І ўсё ж – зрэдзьчас – здараецца наадварот...

Як і сёння вось, думаючы пра нашыя ўзаемаадносіны, раптам соладка зажадалася пацалаваць яе – сонную (спячую)...

Пацалаваць так таямніча, ціха, амаль эфірна, каб не пачула і не прачнулася, а толькі ўнутры сябе, недзе пад сэрцам, адчула гэты мой дотык, гэты мой адчайна-запознены паклон каханню і любові, як адчувае вагітная новае жыццё ў жываце сваім...

Пішу гэтыя словы, прысаромлены імі, з лёгкай вільгаццю на прымружаных вейках... Старэючы дурань...

* * *

У адным і тым жа нумары "ЛіМа" – маё "юбілейнае" эсэ да 50-годдзя нашага слыннага культуролага Валянціна Акудовіча пад сімвалічным, адносна яго творчасці, назовам "Я ЁСЦЬ", і – некралог, зноў жа напісаны мной ад калектыву рэдакцыі часопіса, на смерць ягонага бацькі, ЯКОГА ЎЖО НЯМА...

Проста містыка нейкая.

* * *

*Свой* храм, дзе я малюся *свайму* Богу, я будую ў *сваёй* душы...

Там ужо ёсць моцны зямны падмурак і падваліны ды ўзгадаваныя гадамі і абчасаныя часам сцены...

Мне засталося толькі апусціць паднебны купал альбо ўзвысіцца да яго...

* * *

Адных – *выдаюць*, другіх – *ведаюць*...
А *помняць* – зусім іншых...
Вышэйшая справядлівасць.

* * *

Адносна нашага *менталітэту...*

Праганяе малады міліцыянер бабулек, што гандлююць шчанюкамі ў пераходзе метро насупраць Камароўкі. Бабкі злуюцца на яго, вясковага пераапранутага злыдня пры дзяржаўнай дубінцы. Крычыць яму адна з пафасам дзікім: *"Ты што, нярускийʔ!"*

А ён з тупой упэўненасцю і пыльным гонарам крыўдліва рохкае ў адказ: *"Не-а, беларус я..."*

* * *

Акудовіч тэлефануе з рэдакцыі дахаты. Слухаўку падымае мужчына(?!). Валянцін разгублена пытае: "Скажыце, калі ласка, гэта кватэра Акудовіча?" І пачуўшы ў адказ лаканічна-грубаватае "нет", млява апускае трубку на апарат, збянтэжана адвесіўшы ніжнюю сківаіцу...

Настолькі быў упэўнены ў дакладнасці свайго званка, што яшчэ доўга не мог адважыцца набраць правільны нумар свайго хатняга тэлефона... Бывае, што доўгі одум дарэшты затлумлівае чалавечы розум... Скажаш, што цябе *няма*, а пасля як *быць*?..

* * *

Гадавіна па 53-х загінуўшых у пераходзе метро "Няміга"...

Гляджу ток-шоу "Будні" па БТ, прысвечанае гэтай трагедыі. Выступаюць журналісты, відавочцы, бацькі загінуўшых дзяцей... Гаворка рускамоўная. Атмасфера тужлівай жальбы...

Даюць слова і Паліне Качатковай з праваабарончай арганізацыі "Вясна", беларускамоўнай, нацыянальна ангажаванай маладой жанчыне. І што ж мы чуем ад яе? "Русскую речь"!

Дык вось дзе яна, нашая беларуская немач! У нас саміх, а не толькі ў тым, што нам забараняюць і не даюць. Мы самі не маем моцы абараніць свой нацыянальны гонар, а часам нават сваю натуральную самасць, і – толькі мэкаем, як тыя авечкі, сабраныя ў цёмнай аўчарні...

Дарэчы, той трагічны дзень якраз супаў з праваслаўным днём Святой Тройцы...

А сярод загінуўшых, кажуць, не было ні аднаго каталіка і яўрэя...

* * *

...усё адносна.

Кажуць: бяры ад жыцця ўсё. Значыць: атрымлівай ад яго насалоду, пакуль можаш (маладым), бо пасля будзе позна (час твой мінае)...

Аднак ты шчаслівы ці няшчасны толькі ў той момант, калі тое з табою здараецца. Пасля ты ўжо не мецьмеш таго шчасця (кар'еры, грошай, любові, удачы), што меў (ці яшчэ можаш мець), і няшчасным ты будзеш па-іншаму і з іншай нагоды (нягоды)...

Усё адносна...

* * *

Сядзець у турме, не думаючы пра ўцёкі адтуль, можа толькі поўны вар'ят альбо наглядчык той жа турмы...

* * *

Падараваў мне нядаўна Янка Брыль свой шыкоўна выдадзены ў "Беларускім кнігазборы" бардова-залацісты том...

Галеча і бядота ў маёй хаце... Нэндза... Грошай не плацяць, жонка звягае...

Але вось застаўся дома адзін і стаў вачыма па кніжных паліцах зыркаць, бы які звер галодны, і ўжо ў каторы раз на ўсё таго ж Брыля і напароўся.

Сеў ды чытаю... І, о дзіва, – як новае...

Столькі зместу і падтэксту ў гэтых дробных брылёўскіх мініяцюрах, хоць напісана па стылі вельмі проста, ледзь не па-

народнаму даходліва-павярхоўна – ды насамрэч глыбока...

Быццам рака тая, пракаветная і бясконцая, цячэ скрозь час здалёку ў далеч – а вада ў ёй штораз свежая, чыстая...

* * *

Чытаю ў Чэслава Мілаша, не далёкага ад роду нашага чалавека, і як бы міжволі, па інерцыі патрапляю на брылёўскую інтанацыю... Мілаш піша так:

*Все, что я говорю здесь, согласен, не поэзия.*
*Стихи же писать можно лишь редко и нехотя.*

І яшчэ, з таго ж верша “Поэтическое искусство”, толькі ад пачатку яго:

*Я всегда тосковал по форме более емкой,*
*которая не была бы ни слишком поэзией,*
*ни слишком прозой*
*и позволяла бы объясняться, не обрекая кого-то,*
*автора или читателя, на чрезмерные муки.*

Вельмі блізкія мне прадчуванні “новай” літаратуры.

* * *

Кожны чалавек на зямлі мае своеасаблівы склад розуму, такі, якім яго надзялілі бацькі і Прырода.

Аднак большасць людзей не мысліць сваім розумам, а ўсё яшчэ жыве законамі гуртавых інстынктаў.

Толькі адзінкі мысляць неардынарна. Яны і гарманізуюць супярэчлівасць дабра і зла ў паднебным свеце...

Не людзі, не народ наладжваюць магчымае жыццё на зямлі, а эліта. Мысляры.

Людзі будуюць і разбураюць...

А мысляры ствараюць...

І хоць Бог – усім ім бацька, аднак, як пісаў Багушэвіч, і Ён “не роўна дзеле”... Не роўна, але справядліва.

* * *

Юры Алеша пісаў яшчэ ў сярэдзіне 50-х: "*Большие книги читаются сейчас в перерывах – в метро, даже на его эскалаторах,– для чего ж тогда книге быть большой? Я не могу себе представить долгого читателя – на весь вечер. Во-первых – миллионы телевизоров(?!), во-вторых – в колхозах – надо прочесть газеты*". (Падкрэсленні і знакі здзіўлення ў дужках – мае.)

Прайшло больш за сорак гадоў, а сітуацыя, па вялікім рахунку, тая ж. Хіба што сучасны чытач яшчэ больш *зменшыўся* і стаў зусім *кароткім*...

Ён стаў *малым* найперш у сэнсе колькасным, бадай што нават адзінкавым, але затое – упартым, пранікнёным і больш удзячным аўтару, таксама – рэдкаму, але неардынарнаму...

Слова думаецца, вымаўляецца, чуецца, усведамляецца – і *адклікаецца* назад, як зваротнае рэха...

Як, у дадзеным выпадку, адклікнуўся я Алешы...

* * *

Чытаў падараваную мне Акудовічам кніжку Л.фон Захера-Мазоха “Венера ў футры” з тлумачальнымі тэкстамі Жыля Дылёза і Зыгмунда Фрэйда.

І падумалася, чытаючы, што і сам я ў літаратуры ў нейкай меры – мазахіст. Часам нават маю пожад да крытычнай лупцоўкі, але не дзеля крыві, а для эгаістычнага задавальнення: мяне б’юць, бо – любяць і хочуць, каб я стаў лепшым, чым ёсць, каб любіць мяне яшчэ больш...

Часам і баліць, вядома, але тое вычухваеш на самоце, каб на людзях зноў быць гатовым *“да біцця аж да самазабыцця”*...

* * *

Наша беларуская ментальнасць: нарадзіцца з крыкам, каб сканаць без енку...

* * *

У Пташнікава – не шматслоўе, а – шматгалоссе...

* * *

Усе нашыя пісьменнікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску,

з’яўляюцца нацыяналістамі і апазіцыянерамі, не зважаючы на тое, як і пра што яны пішуць, бо пісаць і думаць па-беларуску ў гэтай краіне, дзе нацыянальная мова – афіцыйна і неафіцыйна – лічыцца “андэграўндам”, ёсць не што іншае, як праява палітычнага, сацыяльнага і бытавога супраціву любому рэжыму...

* * *

Жывеш – звонку, а паміраеш – знутры...

* * *

У сёмай гарадской паліклініцы стаіць на ўліку Марыя Палікарпаўна К. У лячэбнай картцы напісана, што яна пенсіянерка рэспубліканскага значэння. Абслугоўваецца доктарам КДБ(?!). Мае 84 гады жыцця...

Маёй маме 72 гады. У яе ўжо было два мікраінсульты. Але кожнае лета, і сёлета – званіла – таксама, вясковы брыгадзір “заганяе” яе ў бурачныя доўгія рады на праполку, бо іначай не будуць дапамагаць садзіць бульбу на сотках... І – полюць тыя дзялкі бабулькі, сагнутыя ў крук, і дзяды з кашлем перадсмяротным...

Бо – каму?! Моладзі той засталося – на два канторскія крэслы ўсадзіш...

Нібы прыгоннае права наноў вяртаецца. Аніяк з той траклятай радоўкі бацькі нашыя не выкараскаюцца... Так, у рэшце рэшт, і застаюцца ў зямлі той чорнай...

Праўда, Бог злое бачыць. Старшыняваў там да мінулага года мой пагодак Валодзя. Яго яшчэ са школы чамусьці “французам” абзывалі. Усе калгаснікі перад ім па “вертыкальнай” струнцы стаялі... А пра сябе не забываў – прыхароміўся, прызапасіўся на чорны дзень... А дзень гэты тут як тут – упаў дома ў сваёй прыбіральні і сышоў крывёю...

*“Выпіў ты ўсю маю кроўку, ірад пракляты!”* – так рыдала-прыгаворвала мая маці за яшчэ жывым маім бацькам-п’яніцам. Памёр ён таксама неўпрыкмет і не ад старасці...

А такія, як Марыя Палікарпаўна, перажываюць усіх сваіх ахвяр, будучы пад пільным АСАБІСТЫМ наглядам дактароў з КДБ...







Як там пісаў наш народны пясняр?

*Я – калгасніца*
*Маладая.*
*Жыву весела,*
*Ані дбаю!*

Калі тое было, здаецца, а і сёння перад ваччу як жывое... Геніем напісанае, таму і несмяротнае...

А то некаторыя марксісты лічаць, што *“мир насилия они разрушили”*...

* * *

Галя Булыка за вясёлым сталом: “Я *умеренная* нацыяналістка”.

Кім гэта *у-мераная?*

А я пра гэта і не задумваўся. Нармальны, здаецца, беларус...

* * *

Няважна, на якой мове піша чалавек – рускай, беларускай, польскай ці англійскай... Галоўнае – каб на *сваёй*...

* * *

*О, я стажыльная паэтка –*
*Хоць перавяслы з жылаў ві!*

Так пісала за год да самагубства Жэня Янішчыц. Але віць перавясла да пары можна. Перакруціш – і вязь перарвецца...

* * *

Быў у Дамашэвіча ў Клецку. Спадабаліся яго арыстакратычная жонка і яе шляхетная, досыць “велькая” напаўзакінутая гаспадарка: стары бацькоўскі дом, бярозавы цяністы двор і доўгі зялёна-квітнеючы гарод... І ў тым гародзе – ладная лапіна дагледжанага поплаву, каб росным ліпеньскім ранкам можна было выйсці і проста, у радасць і без прынукі, пакасіць там маладую зялёную атаву...

Яна хоча, каб у вядомага мужа-пісьменніка быў хоць які свой *"маёнтак"*, дзе б ён мог тварыць і спачываць душою...

А сам Уладзімір Максімавіч хоча мець творчы плён з таго, што ўжо ёсць, – не з нажытага і набытага, а з пражытага і перажытага...

Хоць усё, як заўжды, апынаецца ў руках Божых... Найлепшым чынам.

* * *

Нядаўна мой вясковы пяцігадовы пляменнік упершыню пабыў са сваёй мамай у горадзе. У дзесяцітысячным правінцыйным Клецку. Старажытнае мястэчка з некалькімі гістарычнымі помнікамі. Найбольш, відаць, "запарушыў" яму вока адметны гмах колішняга касцёла... Высокі прыгожы храм з залатым купалам...

Назаўтра вечарам сядзім сваім кагалам у бацькоўскай хаце ды пераглядаем віншавальныя паштоўкі 70–80-х гадоў. Усе тыя, а іх пераважная большасць, дзе ёсць выявы Крамля ды іншых маскоўскіх сабораў, пляменнік тут жа выхоплівае з рук, нема выкрыкваючы сваю нязбытную радасць: *"Клецак, Клецак! Гэта Клецак!! Я тут учора быў з мамай!!!"*

І паспрабуй яму давесці, што гэта не так...

* * *

(27.08.2000 г.) Гарыць Астанкінская тэлевізійная вежа... Аніяк не могуць затушыць...

А мне чамусьці ўспамінаецца вершык рускага пііта з туркменскага Ашгабада, майго колішняга (1987–1989 гг.) сакурсніка па Вышэйшых літаратурных курсах Івана Мішына. Для пэўнасці дастаю з кніжнай шафы ягоны зборнічак вершаў "Три закона любви" і цытую адну страфу адтуль без выняткаў:

*Останкинская башня заболела –*
*Не ест, не пьет, а ходит – чудеса.*
*И не куда-то вправо или влево,*
*А под себя – уже промокла вся...*

Цікава, па версіі Мішына, чым жа яна "ходила под себя", калі да гэтай пары не дадуць рады патушыць?..







Панабудуюць, панапісваюць празмернага ды лішняга, а пасля не ведаюць, што з гэтым рабіць...

* * *

Міжнародны футбольны матч у Барысаве паміж маладзёвымі зборнымі Рэспублікі Беларусь і Уэльса. Гучаць гімны...

Адзін з нашых трэнераў пры выкананні былога і цяперашняга беларускага гімна прыклаў руку да грудзей... Перажывае, хвалюецца чалавек за сваю радзіму, і гэта добра...

А тэлекаментатар Навіцкі "дамалёўвае" згаданую мною тэлекарцінку так: *"Шаноўныя сябры, для мяне было дзіўна і прыемна, калі на лаўцы запасных пры выкананні нашага гімна трэнер Касоўскі трымаўся за сэрца"*...

Магчыма, што і гэта праўда.

* * *

Чытаючы аповесць "Нічые" Андрэя Федарэнкі, лавіў сябе на думцы, што чытаю паспешліва, як падганяючы сябе, каб не адстаць ад нечага своечасова не асэнсаванага, каб не выпасці з хуткаплыннага хаатычнага часу ўвогуле – лепш, мабыць, сказаць, каб не апынуцца па-за сучасным жыццябытам...

Разгубленасць нашага часу спараджае няпэўнасць у вызначэнні ўсіх дзей і рэчаў...

Трэба, каб усё ўсталявалася, каб разышліся кругі ад кінутых глыжоў, каб адстоялася вада, а каламуць асела на сваё глыбокае дно і затаілася там да новага ўзрушэння...

Калі ўсё ўпарадкуецца і ўладкуецца, і ў прыродзе і ў людзях, магчыма, тады толькі ясна выявіцца сапраўднае аблічча пражытага – усе дзеі і дабрадзеі, творы і творцы...

Я спяшаюся, таму што не маю пэўнасці ні ў сабе, ні ў людзях...

Але куды ж я спяшаюся? Да *пэўнасці* свайго выраку?..

**Мінск – Вароніна – Мінск,**
*1999–2000 гг.*



## Сяргей Верацiла

*І што тут віною? Ці не нашая славянская любоў да штучных цяжкасцяў, якія потым трэба пераадольваць? З гэтага, дарэчы, можа вынікнуць тэма для дысертацыі (крый Божа, не маёй). Вось і назва: "Мазахізм як праява нацыянальнага характару" альбо "Сізіф як архетып беларуса".*







# "СМЕХ БАГОЎ"

Аповесць-эсэ

*Смех нечуваны ўсчынілі шчасліўцы нябёс жыхары.*

**(Іліяда, песня 1-я.)**

Багі смяюцца. Смех — іхняя прыдумка і прэрагатыва. Мы стараемся прыпадабняцца ім да тае крэскі, што нам адмералі багі. А багі смяюцца. Смеючыся яны ўздымалі горы, напаўнялі акіяны; тварылі смеючыся і смеючыся разбуралі. У апошнім мы ўжо можам недзе і супернічаць. А багі падсмейваюцца адзін з аднаго, і, на жаль, іхнія жарцікі адбіваюцца на нас. І сярод іх ёсць не толькі такія аматары, як Гефест, які ўзяўся не за сваю справу, чым і выклікаў Смех багоў, а й такія прафесіяналы-блазны, як Апалон, Гермес, Локі, Кецалькаатль (дарэчы, любімы фокус апошняга быў у тым, што ён кідаўся ў агонь і потым узнімаўся, цалкам абноўлены). Апалон таксама далёка не анёл — узнагародзіў цара Мідаса аслінымі вушамі. У палінезійцаў быў свой жартаўнік – Ронга. Боства ён найдабрэйшае, але паслядоўнікі дагэтуль не могуць разабрацца, быў ён ці богам вайны, ці богам міру; дарэчы, гэты Ронга так пажартаваў... Але пра гэта потым. Там жа, у Палінезіі, жартаваў і Маўі, які вылоўліваў тысячы абтокаў і атолаў з акіяна, бы якіх акунёў шморгаў. Жартаўніком быў і Рама-Крышна, чые паслядоўнікі надакучальна-ветліва прапаноўваюць на вуліцах кнігі з пярэста-бліскучымі ілюстрацыямі. Сапраўдны блазан і рымскі бог міру Янус, які меў ажно два аблічча... Але, здаецца, я залез у гушчар міфалогіі, дзе куды зручней шчыраваць уседлівым навукоўцам.

Бывае, я высоўваюся з дому дзеля шпацыру, і ў мяне з'явіўся любімы маршрут: у бок аўтабазы, уздоўж Мелавога кар'еру, міма Скрыбава і Зенчыкаў, паўз Дзеда і Бабу (гэта два курганы) ажно да Ендрыхаўцаў. Сама дарога вядзе на Дыхнавічы і Вярэйкі. Я не ведаю, з якіх часоў існуе гэта дарога, і зразумела, што я не помню яе грунтовую, з глыбокімі каляінамі ад вазоў і не менш глыбокімі лужынамі. У летнюю суш лужыны выпарваліся, іхняе глінiстае дно рабілася, бы застарэлы апёк другое ступені на скуры. Узімку лужыны замярзалі і заносіліся снегам, але часам на іхняе гладкае паверхні слізгалі і тыя, хто ехаў на санях, і тыя, хто ішоў пешкі. Такою дарогу я не помню. А потым адна з уладаў вырашыла скарыстаць камяні, якія шчодра радзіла тутэйшая глеба. Камяні збіралі, грузілі на вазы і везлі ў Рось на млын, а потым ці не да кожнае вёскі ў наваколлі лёг брук, і па шэрых, паўкруглых, масляніста-паблiскваючых камянях грымелі абабітыя жалезам колы вазоў, а потым намазоленая брукаванка падкідала ровары і машыны. Амаль такая ж брукаванка пралягала ад Ваўкавыска недзе ажно да Лунна ў кірунку Гародні (ад Лунна да Гародні быў лапік асфальту). У прыгарадным "ЛАЗе" мы дзецьмі стараліся заняць стаячыя месцы ззаду, і на няроўнасцях бруку нас падносіла да самае аўтобуснае столі, тут ужо трымайся, каб не прыкусіць язык. А вось пасля сярэдзіны сямідзесятых брукаванкі пачалі паступова заліваць асфальтам. І экзотыка знікала, да радасці шафёрскага племені. Неяк падчас маёй адсутнасці ў родных мясцінах асфальт укрыў і тую брукаванку, па якой я любіў наладжваць свае шпацыры, але не ведаю, ці паклалі асфальт за Ендрыхаўцы: так далёка я ніколі не заходзіў, можа быць, мяне не заахвочваў густы, цяжкі пах жывёлагадоўчага комплексу.

Сонца ў той дзень паліла бязлітасна, і людзі шукалі паратунку ў зеляніне садоў, а я кіраваўся ў бок Скрыбава, прыладжваючы адну да другое рыфмы. А густое гарачае паветра, набрынялае гукамі лета, дрыжэла перад вачыма, і мне мроілася ў ім нешта трывожлівае і чужое. І раптам я падумаў, што сёння дваццаць другое.

Канчаўся Купальскі Тыдзень. І ўсе цёмныя і паэтычныя сілы бесперашкодна валодалі светам. Набліжаўся і сам Купала — Непераможны Мітра, сонца ў апагеі, магутнасць без межаў. Агонь растопіць лёд, святло перамагае цемру. *"Drang nach Osten"*, *"Trink Blut"*, *Blitzkrieg*, *Barbarossa*, "Кадры решают все", "Винтовка рождает власть", "Мы придем к победе коммунистического труда" — усё гэта ўжо так далёка і ўжо амаль нязвыкла, і за гэтым ужо амаль нічога няма, акром таго спякотнага лета, калі пад чырвонымі сцягамі з чорнаю свастыкай у белым крузе рухаліся войскі, рухаліся акіяны людзей, затапляючы прастору між Балтыкай і Чорным морам. Ішлі пешкі, ляцелі самалётамі, плылі на караблях, скакалі на конях і ехалі, ну канечне ехалі: на роварах, танках, самаходках, машынах, на вазах з гумавымі шынамі, на матацыклах. Вось яны рухаюцца, а за імі — старыя добрыя германскія багі: Одзін, Тор, дзеўкі-мечаносіцы Валькірыі. І ўсё гэта, вядома, пад поўныя энтузіязму, моцы, здароўя, упэўненасці бравурныя маршы Вагнера, хоць мог быць і Бетховен, а мог быць і Шуман ці Орф, альбо яшчэ Грыг (як-ніяк, паўночная галіна расы, блізкі паводле крыві і, чым чорт не жартуе, можа быць і па духу). Альбо Чайкоўскі. Не, гэта, мусіць, мае асабістыя фантазіі: па-першае — славянін, а па-другое, як цяпер кажуць, нетрадыцыйная сексуальная арыентацыя, хоць пішуць, што і ў зверхнікаў тысячагадовага райху з арыентацыяй не ўсё было *gut*. Вось яны ідуць роўнымі ўсмешлівымі калонамі ў шэра-зялёных уніформах, як не на вайну, а на шпацыр, і воз з патэфонам, з якога ліецца праз густое мроіва чэрвеньскага паветра бравурная мелодыя Вагнера з ягонымі грымучымі партыямі духавых і ўдарных. Але вось марудлівых драбаў абганяе матацыкліст. Вось ён набліжаецца да мяне: я ўжо бачу ягоны выцягнуты твар, бачу халодныя і ў той жа час крыху вар'яцкія вочы, бачу бялявы віхур белакурае бестыі з-пад каскі. Я яшчэ паспяваю здзівіцца рэальнасці маёй мроі, я яшчэ паспяваю падумаць пра ўздзеянне спёкі на маю здольнасць да ўяўлення.

Матацыкліст ледзьве паспеў загальмаваць свой "касік" ці не каля самага майго цела, якое ўжо, відаць, рыхтавалася да развітання з душою. Я ўбачыў ашалелы хлопцаў позірк. Я ўбачыў, як процілеглыя эмоцыі змагаліся за выраз на ягоным твары, пакуль нарэшце не перамагла радасць — здарэнне магло зрабіцца

фатальным для нас абодвух: я разбіраў пах таго рэчыва, з ужываннем якога з пераменным поспехам змагаюцца "гаёвыя" ці не з першага дня заснавання іхняе ўстановы.

Я не ведаю, што паказваў на той момант мой твар, якія эмоцыі адбіліся на ім, я магу толькі здагадвацца і ўяўляць, але першае, што я сказаў, нават ужо не сказаў – ляпнуў, не ведаю з якое нагоды: "Добры дзень".

На хлопцавым твары бледнасць няўхільна саступала месца звычайнай чырвані, і ў вачах з'яўляўся жывы бляск, але калі ён пачуў маю рэпліку, позірк ягоны стаў задуменна-шалёны, а сам ён толькі змог вымавіць: "Бля..." Потым схамянуўся, паправіў на галаве танкісцкі шлем, пакруціў пальцам каля скроні, газануў і пакінуў мяне сам-насам з думкамі, фантазіямі і ўспамінамі.

Успаміны гэтыя мне не належаць. Я – толькі рэтранслятар, і з гэтае прычыны ў пэўным сэнсе — інтэрпрэтатар.

**Навела першая**

## САМНІЦАЕ ЯРМО

Тутэйшыя людзі амаль абыякава ўспрынялі чарговае ўварванне ў свае землі. Шмат якія людзі нават не вельмі доўгага веку колькі іх ужо пеpажылі: царскія войскі, кайзераўцы, чырвонаармейцы, пілсудчыкі, чырвонаармейцы, ізноў пілсудчыкі, ізноў Саветы, і вось нарэшце — немцы, цяпер, праўда, іншыя. Тыя ці не тыя, якая розніца, бо немцы ёсць немцы. Саветы паўцякалі, не паспеўшы нат апрануцца, а не тое што ўсталяваць "светлае жыццё", і натуральна, што і мабілізацыя толкам не была праведзена, а каго і паспелі забраць у шыхты, дык яны ці не адразу амаль усе павярталіся дахаты ў тым, у чым пайшлі ў войска. І тыдні з два тут праіснаваў сапраўдны сялянскі вырай — поўная адсутнасць хоць якіх уладаў. Але немцы, нават прыйшоўшы ў вёску, у ейнае жыццё асабліва не лезлі. Паставілі солтыса (хутчэй, праўда, зацвердзілі мужыка, негалосна абранага вёскай). Задачай солтыса было збіраць прадукты для вермахта, з гэтым солтыс






больш-менш паспяхова спраўляўся: сяляне паступова налаўчыліся калоць кабанчыкаў у бліжэйшых прылесках, а солтыс бадзёра дакладваў немцам, што парсюкоў рэжуць ваўкі, якія, як вядома, маюць тэндэнцыю пладзіцца падчас катаклізмаў.

Немцы пасяліліся на ўскрайку, абраўшы для сябе школу. Па ўсім было відаць, што немцы тут ненадоўга, і гэта вельмі суцяшала вяскоўцаў, а таму кантакты з імі вызначаліся лаяльнасцю і былі самыя мінімальныя. Немцы да тутэйшых ставіліся падазрона, відаць, немаведама што ім нагаварылі пра беларускае дзікунства на палітзанятках оберлерэры Трэцяга Райху. Мусіць, баючыся атруты, салдаты пітной вады з вясковых студняў не бралі, а цягалі яе з рэчкі. І хоць ваду вазілі ў двухсотвядровай бочцы, але на такую плойму, як батальён чыстаплотных еўрапейцаў, яе патрабавалася мора, а таму воз з бочкаю рабіў за дзень не адзін тузін рэйсаў. (Батальён — гэта, мусіць, перабольшванне, але за што купіў, за тое і прадаю.) Дарога да рэчкі была някепская, яе нат забрукавалі часткова, але вось узгорак абмінуць не дадумаліся. І што тут віною? Ці не нашая славянская любоў да штучных цяжкасцяў, якія потым трэба пераадольваць? З гэтага, дарэчы, можа вынікнуць тэма для дысертацыі (крый Божа, не маёй). Вось і назва: "Мазахізм як праява нацыянальнага характару" альбо "Сізіф як архетып беларуса". Але тут я, можа быць, усё, як заўсёды, паблытаў, і дарогу цераз узгорак праклаў наш невынішчальны аптымістычны рацыяналізм, каб мёртваю дарогай не мярцвіць яшчэ адзін кавалачак атавы. Да школы людзі падыходзіць асцерагаліся, бо там увесь час стаяла ўзброеная варта, а таму ўся цікаўнасць перамясцілася на немца-вадавоза і ягонага каня. Хлопцам, якіх у войска забраць не паспелі (а вываз моладзі ў Нямеччыну яшчэ не распачаўся), работы ў міжсезонне не было, не хадзіць жа, як малеча, у грыбы ці ў ягады, дык вось яны неяк скампанаваліся вакол вадавоза, гаманліва суправаджаючы яго рэйс за рэйсам.

Конік немцаў, відаць, быў трафейны, можа ўзяты ў якім чырвонаармейскім медсанбаце, а да таго, мусіць, пасвіўся сярод бяскрайніх мангольскіх стэпаў. Быў ён невялікі, увесь калматы і ўвесь час злосна касавурыўся ў немцаў бок. Мусіць, калі б той яго асядлаў, то дастаў бы нагамі зямлю. Сам жа немец — рукі ці

не да каленяў, руды твар увесь вызалачаны рабаціннем, і калі б не акуляры, дык сярод нашых людзей згубіўся б (у нас такія тыпажы не рэдкасць).

Дзень быў спякотны, паліла ці не ад самага ранку, і немец дазволіў сабе зняць форменную куртку, і ягоныя рукі-плечы тут жа сталі чырванець пад ласкавым беларускім сонцам. Пра тое, што ўвечары без смятаны заснуць не ўдасца, "фрыц" і на дух не ведаў. Праўда, зняўшы куртку, ён пакінуў на сабе боты, штаны-галіфэ і пілотку (мусіць, каб не напякло ў белабрысую галаву).

Да рэчкі "фрыц" ехаў змрочны, яго, відаць, не вельмі натхняла праца па напаўненні бочкі вадою. Затое на шляху ад рэчкі яго было не пазнаць: твар ажно свяціўся з павагі да сябе. Седзячы ля бочкі, з лейцамі на шыі, ён нават нешта граў на губным гармоніку. А конік цягнуў і воз, і бочку з вадою, і распёртага ад спякоты і самапавагі "фрыца". Пад гару зусім цяжка было, і "фрыц" тады адкладаў гармонік убок і дапамагаў коніку то лейцамі, то пугаю, а вось злазіць з воза не дадумваўся. А хлопцам, зразумела, было шкада жывёлу. Так ужо, відаць, збудаванае сялянскае сэрца, што чалавек хутчэй на сабе жылы парве, а жывёлы дарма не пакрыўдзіць. (Я калісьці, яшчэ на парозе юнацтва, чытаў, як пры аблозе Казані маскоўскі цар Іван Жахлівы загадаў адліць велічэзную гармату, у якую замест пяцісот коней запрог дзве тысячы мужыкоў. Што ж, коні ў суседняй дзяржаве тады каштавалі куды даражэй ад "людишек".)

Дык вось недзе апоўдні, калі ўжо на ўсе лады былі абтрапаныя языком і конік, і "фрыц", і воз, і бочка, хлопцы неяк надта ўжо жаласліва пашкадавалі каня. І о цуд! Добрае нямецкае сэрца адгукнулася на спачуванне, выяўленае хлопцамі. Немец, які да гэтага не звяртаў аніякае ўвагі на публіку, "фрыц", які быў адлучаны ад тутэйшага жыцця чужою моваю, раптам усё зразумеў. Кантакт быў усталяваны! "Фрыц" бадзёра саскочыў з воза і паклікаў: *"Komm zu mir!"* – і падмацаваў заклік жэстам. І хлопцы зразумелі яго. Зразумелі, і калі "фрыц" папрасіў распрэгчы каня, а потым "фрыц" з прыязнаю ўсмешкай прапанаваў ім запрэгчыся ў воз. І тут ужо паразуменне







скончылася. Нашыя абаронцы правоў трафейных коней адразу затрусілі ў бок лесу, але "фрыц" спыніў іх сваім рэзкім, як стрэл, *"halt!"* Хлопцы, можа, і не паслухаліся б, калі б не аўтамат у "фрыцавых" руках. Хлопцы падпарадкаваліся сіле. І цэлы дзень ад абеду і недзе да таго часу, як сонца пачало завісаць над вяршалінамі дрэў, вазілі немцам ваду. Вядома, гэтае відовішча нельга было ані ў якім разе параўнаць з пяроўскаю "тройкай", хоць і там у аснову сюжэта пастаўлена бочка. Нямецкія жаўнеры спачатку падзівіліся на такі спосаб дастаўкі вады, але пасля "фрыцавых" тлумачэнняў весела зарагаталі і весяліліся ажно да вечара. Тутэйшыя абурана пазіралі, але баяліся заступацца. А хлопцы, сцяўшы зубы і нахіліўшы галовы, ішлі пад ярмом, бы працоўная жывёла. І злосць, і сорам, і крыўда перапаўнялі іх. Такое ганьбы не зазналі, мусіць, і французскія рыцары, калі ў 1302 годзе пасля няўдалае для іх "бітвы шпораў" бельгійскія бюргеры прагналі іх пад ёрмамі. Не зазналі, мусіць, такое ганьбы і ганарыстыя рымляне, разбітыя самнітамі ў 321 годзе да н.э., калі пераможаных таксама прагналі пад ёрмамі. Праўда, потым рымлянам усё ж удалося адолець самнітаў, і ў гонар гэтае перамогі яны ўзвялі арку, пад якой ладзілі свае трыумфы.

Злосць і крыўда бушавалі пякучым полымем у хлапечых душах, але стома ў рэшце рэшт узяла верх над жаданнем помсты, і калі "фрыц" нарэшце двойчы выдыхнуў сваё *"alles gut"*, то ў хлопцаў толькі дастала сілаў выпрагчыся і знясілена паваліцца ў траву. Калі яны трохі дайшлі да сябе, "фрыц" дастаў з кішэні алюмініевую пляшку ці то каньяку, ці то брандвейну і, добра каўтнуўшы з яе, пусціў па коле. Хлопцы, якія ў жыцці не каштавалі нічога мацнейшага за дваццаціградусны бімбер, умомант сп'янелі. І былая лагоднасць ды памяркоўнасць паступова вярталіся ў іх душы, а злосць і крыўда гэтак жа паступова пакідалі іхнія сэрцы. Але тут усё сапсаваў сам "фрыц". Ён распрануўся і палез купацца: зайшоў па калена ў рэчку і стаў з віскам пырскаць на сябе вадою. Вечаровае сонца разбівалася ў тысячах вадзяных знічак, разбівалася на золаце і шкле акуляраў (іх "фрыц" чамусьці не зняў), агнём адбівалася ў хлапечых сэрцах і будзіла іхнюю кроў. "Фрыцава" радасць ад паўнаты жыцця абурыла хлопцаў, можа,

яшчэ больш, чым пад'ярэмная ганьба. Як па камандзе, яны падхапіліся і пасля кароткае барацьбы звязалі "фрыца" лейцамі, забралі аўтамат, боты, пляшку з брандвейнам і з канём рушылі да лесу.

Быў ліпень. У беларусаў пачыналася вайна.

**Навела другая**

## ПОЛЬСКАЯ КАВАЛЕРЫЯ

Вайна ўжо ішла на ўсю катушку, але вёсцы пашанцавала, бо ў ёй размясцілася нейкая тылавая служба. З яе пасля наладжвання бартэрных кантактаў на тутэйшых пасыпалася "манна нябесная" ў выглядзе рэчаў з маркаю *"made in Deutschland"*, а за іх – самагонка, яйкі, сала, сыр, каўбасы і яшчэ колькі ўежных вырабаў сялянскае гаспадаркі перапраравіліся ў нямецкія страўнікі. Асаблівых поспехаў у гандлёвых аперацыях дасягнуў адзін з афіцэраў тылавое службы, альбо, як іх называлі ў савецкім войску, – "затылак".

Росту ён быў недзе пад два метры з крываватымі нагамі, на якіх ён пасоўваўся ўздоўж хатаў неяк няўпэўнена, быццам яшчэ зусім нядаўна хадзіць навучыўся; шырокія скругленыя плечы і ўчэпістыя цяглістыя рукі выдавалі вялікую фізічную моц. У прынцыпе нічога такога надзвычайнага ў Немцавай постаці не было (я так і надалей буду яго называць – Немец; мае інфарматары на працягу расповеду некалькі разоў блыталі ягонае імя), а вось твар... Адзін шнар зверху ўніз дзяліў ягоны твар на дзве няроўныя часткі, якраз па лініі: вока — куток рота. І натуральна, што правага вока ў яго не было, і Немец палохаў ці забаўляў мясцовую малечу, дастаючы з вачніцы шкляны шарык. Другі шнар ішоў злева направа. Вынікам удару была нястача левага вуха і кончыка носа. Адсутнасць вуха Немец хаваў за доўгімі валасамі, а вось нос глядзеў на свет дзвюма цёмнымі правалінамі, і патрабавалася вялікая мужнасць, каб зірнуць на гэты нос. Яшчэ ў Немца на правай далоні





бракавала ажно чатырох пальцаў, меўся толькі вялікі, а таму Немец ніколі не здымаў з гэтае рукі чорнае пальчаткі. Казалі, што Немец нібыта яшчэ і кульгаў, але думаю, што гэта ўжо байды, да якіх схільная душа заходняга беларуса.

Як я ўжо казаў, Немец меў недзе пад два метры росту і, мусіць, большую частку ягонага магутнага цела займаў страўнік, які даваў магчымасць свайму носьбіту супернічаць калі не з Гарганцюа, дык хоць бы з незраўнаным Ламэ Гудзакам. Трускалкі ён трушчыў кошыкамі, яйкі выпіваў на дзесяткі, смятану цадзіў гарлачамі, цыбулю знішчаў вязанкамі, а шматы сала заядаў цэлымі колцамі пальцам пханае, на лусту хлеба намазваў масла на тры пальцы, а самагонку смактаў ці не вёдрамі. Можа, ён быў хворы на булімію, а можа ў ім жыў саліцёр, які прагнуў значна больш, чым патрабавалася Немцаваму хоць і немалому, але ўсё ж чалавечаму целу.

Але тут Немцу трэба аддаць належнае: ніякі саліцёр у ім не жыў, усе свае дзённыя набыткі ён з'ядаў увечары, і не адзін, а ў кампаніі чатырох сваіх тутэйшых таварышаў. Рэч тут была ў тым, што Немец паходзіў з Сілезіі, а таму някепска ведаў польскую мову і змог за даволі кароткі час авалодаць і беларускаю, што давала яму значныя перавагі ў гандлі перад калегамі, а расавыя ідэі правадыра неяк абмінулі ягоную душу.

Немец любіў шпацыраваць па вёсцы, зазіраючы на падворкі, у сады, хаты, не абмінаў і хлявоў, і калі бачыў руплівую руку гаспадароў ці то ва ўпарадкаваных дровах, ці то ў акуратных ходніках, ці то на чыста вымытай падлозе, ці то ва ўмела ўшчэпленых дрэвах, ці то на добра дагледжаных каровах, дык ухваляў упадабаны парадак заўсёды адной і тою ж фразаю: "Як у польскае кавалерыі!" Дык вось, за некалькі месяцаў у яго склаліся вельмі добрыя дачыненні з чатырма мясцовымі мужыкамі, якія хоць і не былі самыя заможныя на вёсцы, але вылучаліся сярод іншых як акуратысты. Вечарамі яны збіраліся ў каго на хаце паводле калейкі і, папіваючы "самагнёт", абмяркоўвалі плынь падзеяў. І мала-памалу між імі ўсталявалася такая блізкасць, якую можна назваць сяброўствам, і натуральна, што ў адзін з вечароў сама сабою завязалася гамонка пра тое, хто дзе служыў у войску. Тут ужо што ні кажы, але для шмат

якіх людзей вайсковыя ўспаміны ці не самыя яркія ў жыцці, бо, па-першае, тэрмін службы прыпадае на гады юнацтва, а, па-другое, для многіх мужыкоў гэта, бадай, ці не адзіная магчымасць, акрамя можа адсідкі ў турме, вырвацца за межы ваколіцы. Хоць, калі казаць праўду, то беларусы людзі даволі рухавыя і лёгкія на нагу, а таму іх можна напаткаць ці не ў любым кутку планеты, і я б не ўзяўся сцвярджаць, што іх туды штурхае толькі пошук лёгкага хлеба. Але, здаецца, я вельмі ўжо збочыў ад абранага маршрута. Дык вось, у адзін з "п'яненькіх" вечароў мае героі пачалі шчыраваць, прыгадваючы, хто дзе ў войску служыў. Адзін быў у пяхоце, другі — мараком, трэці — у артылерыі, а чацвёрты вырашыў прагнуцца перад сваім нямецкім прыяцелем і сказаў, што ў Войску Польскім быў кавалерыстам. Можа быць, я памыляюся, сказаўшы пра матывацыю хлусні, і, можа быць, яму проста ад прыроднае добразычлівасці хацелася быць прыемным, а можа, ён меркаваў, што такім чынам атрымае больш прывілеяванае месца ў нямецкім сэрцы і такое ж месца – каля вермахтаўскага інтэнданта. Мне цяпер вельмі цяжка тлумачыць маральны бок гэтага ўчынку пасля таго, як столькі гадоў мінула і прамых сведак супакоіла беларуская зямля. Няважна з якое прычыны, але мужык схлусіў: паводле маіх інфарматараў, праваслаўных беларусаў у кавалерыю не бралі, толькі ў конныя карабінеры, а ў элітныя кавалерыйскія аддзелы бралі толькі каталікоў. Можа, гэта і не так, але ў любым выпадку гэты чалавек сказаў няпраўду, бо ён, як і першы, служыў у інфантэрыі. Няважна, які матыў штурхнуў чалавека да хлусні, але ягоныя словы далі зусім не той вынік, на які ён разлічваў. Пасля ключавых слоў "польская кавалерыя" Немец выбухнуў сумессю траціла з дынамітам. Ён схапіў беднага кавалерыста сваімі ўчэпістымі рукамі і, выкрыкваючы *"Scheise, Scheise!"*, павалок таго ў двор. Адзінае Немцава вока налілося чырванню і пырскала агнём, як у крывапіўцы, недзе гадзіны дзве, пакуль не аціхла слынная *"furia teutonica"*. І натуральна, што ні гаспадар, ні астатнія госці не насмеліліся заступіцца за свайго таварыша. І натуральна, што злашчасны "кавалерыст" быў выключаны з кампаніі, і толькі недзе праз паўгады мужыкі набраліся смеласці







запытацца ў Немца, што паслужыла прычынаю ягонага гневу. Немец у той вечар быў у добрым гуморы і шчыра распавёў пра тое, як вераснёўскімі днямі трыццаць дзевятага адзін нямецкі кавалерыйскі аддзел быў пашаткаваны "на капусту" польскімі шаблямі.

Хто з нас не чытаў пра ўсесакрушальныя атакі кавалерыстаў Рэчы Паспалітай, асабліва ўзрушальныя ў пастаноўках Ежы Гофмана, ці пра адчайную пераправу польскіх драгунаў цераз Нёман, так пранікнёна апісаную Львом Талстым!.. І адным з усплёскаў былое славы была бітва пад Віслаю, калі гімназісты, сеўшы на коней і ўзяўшы ў рукі шаблі, абрынулі коннікаў Тухачэўскага і на дваццаць гадоў спынілі экспансію пралетарскага інтэрнацыяналізму. І гэта дае мне нейкім чынам падставы гаварыць пра *"furia slavica"*.

**Навела трэцяя**

## БРАТКА

Трэцяя навела ўжо не звязаная з конскаю тэмаю, хоць нейкім чынам і не абмінае яе. Рэч у тым, што апошні мой інфарматар быў танкістам у Чырвонай Арміі, праўда, мабілізаваны ён быў ужо недзе пад канец вайны, а таму сам не з'яўляўся непасрэдным сведкам ці ўдзельнікам апісаных ніжэй падзеяў і расказаў мне пра іх з чужых словаў. Гэтым маім інфарматарам быў муж матчынай сястры, маёй роднай цёткі. І, як у нас лічыцца, даводзіўся ён мне родным дзядзькам. Спачатку ён скончыў сямігодку, яшчэ да вайны, пасля хадзіў у вячэрнюю школу, а потым нейкім чынам ён скончыў Вышэйшую партшколу і шмат гадоў працаваў на розных кіруючых пасадах, пакуль цыроз не дабіў ягоную бедную печань. У час майго маленства вечарамі, калі дзядзькаў страўнік яшчэ не быў напоўнены дзесяткам стограмовак, я не раз здаваў яму іспыт па палітычнай геаграфіі, паказваючы на мапе не толькі замаляваныя брунатным, чырвоным, жоўтым і зялёным асноўныя краіны (ЗША, СССР, Кітай, Індыю), але й спрытна знаходзіў пазначаныя лічбамі

экзатычныя Манака, Гамбію, Сектар Газу ці Нейтральную Зону. Памятаю, што мяне турбавала пытанне, ці існуе Сектар Нафты. Аднойчы дзядзька тыцнуў пальцам у гэтую таямнічую Нейтральную Зону і патлумачыў, што яна і ёсць Сектарам Нафты. Пасля гэтага інтрыгуючая загадкавасць назвы для мяне знікла. Дык вось, пасля паспяхова здадзеных іспытаў з палітычнай геаграфіі й бягучых міжнародных дачыненняў дзядзька літасціва распавядаў мне штонебудзь з жыцця рыбаў, птушак, пчолаў ці наогул плёў мне якую байку ўжо з жыцця людзей, як дзед Самусь плёў з капронавых нітак брэдні. Часам расповеды тычыліся ваенных часоў, і гонар распіраў мне грудзі, калі я каторы ўжо раз даведваўся пра неаспрэчную перавагу "тэтрыццацьчацвёркі" над "пантэраю" ды "тыграмі", а "Кэ Вэ" наогул уяўляўся мне нейкім казачным Вярнідубам, браню гэтага танка ў маіх мроях не бралі нават і бомбы. Я помню малюнак з падручніка па найноўшай гісторыі, малюнак гэты тычыўся перыяду Першай сусветнай вайны: там на акопы наязджае танк, і жаўнеры ў смешных шлемах разбягаюцца ва ўсе бакі; гэта разумнейшыя, а дурнейшыя страляюць па танку з карабінаў. Мне той танк падаваўся якраз легендарным "КВ", жаўнеры ў шлемах — фашыстамі. Страляць жа па танку з карабінаў было тое самае, што ісці з віламі на бронецягнік. Такімі ж смешнымі падаваліся мне расповеды пра знакамітыя атакі польскіх кавалерыстаў на танкавыя злучэнні. Неяк днямі мой прыяцель, зямляк і мастак Сяргей Стэльмашок, распавёў мне гэтую гісторыю, а яму расказаў ягоны дзед (дарэчы, у нашых мясцінах пачуць яе можна з вуснаў яшчэ жывых "сведкаў").

Танкавы ўзвод вераснёўскімі днямі 39-га выехаў на ўскраіну вялікае вёскі, і калі танкі пачалі прыпыняць хаду, то тут з-за блізкага лясочка вылецеў, бліскаючы аголенымі шаблямі, недзе швадрон польскіх кавалерыстаў. Яны хутка пашыхталіся і пад кліч: *"Niech zyje Polska!"* – неастрашліва кінуліся на танкі і пачалі секчы сталёвую браню шаблямі. Потым яны, ужо палонныя, распавялі, што, маўляў, прапаганда ім уводзіла: савецкія танкі зробленыя з фанеры і толькі зверху абабітыя бляхаю. Не ведаю, колькі праўды ў тых словах, але мяркую, што палякаў на браню з шаблямі кінулі адчай асуджаных (два Молахі, камуністычны і фашыстоўскі, сціснулі Польшчу ў смяротных абдымках), а таксама






шляхетнае жаданне пачэснае гібелі. Такі расповед я чуў неаднаразова, так што мы можам залічваць яго да плёну народнай міфалогіі.

Але, здаецца, час ужо вяртацца на абраную сцежку. Таму перакажу зусім іншую гісторыю, што, на маю думку, паказвае яшчэ адзін бок нашага нацыянальнага характару.

У адным з пяхотных палкоў N-скае дывізіі служыў адзін старшы лейтэнант. Служыў ён там ці не ад самага пачатку вайны і за ўсе цяжкія месяцы адступленняў і контрнаступленняў яго міналі і кулі, і хваробы: былі толькі некалькі несур'ёзных драпінаў ды лёгкая кантузія. І хоць быў ён афіцэр спраўны і дасведчаны ў варунках вайны, на што паказвалі шматлікія ўзнагароды, але намераў да вайсковае кар'еры не меў і марыў пра свой далейшы лёс у чыста цывільным накірунку. А таму пасля чарговага подзвігу чарговае званне капітана ўспрыняў як павелічэнне "денежно-вещевого довольствия". Рэч была ў тым, што наш герой, як і іншыя афіцэры, атрымліваў так званую "афіцэрскую кніжку", але траціць грошы з яе мала хто меў магчымасць, дый ці працяглым было жыццё пяхотнага афіцэра? А таму наш братка карыстаў з гэтага і меў немалыя выгоды. Да таго, як мы атрымалі мянушку "бульбашы" ці "бульбонікі" (дарэчы, асабіста я ў ёй нічога крыўднага не бачу), на абшарах Імперыі нас клікалі "браткамі" (а цяпер гэтае слова паказвае на прыналежнасць да крымінальнага свету). У Чырвонай Арміі "браткі" праславіліся не толькі дысцыплінаю й паслухмянасцю, а яшчэ і сваім умельствам рабіць разнастайны запас рэчаў, наколькі сягала фантазія сціснутага ўмовамі франтавога жыцця чалавека. І наш герой, капітан, натхнёна рабіў запасы, спалучаючы, і даволі ўдала, і бартэрныя, і грашовыя разлікі, а ягоныя аднапалчане надзвычай лёгка развітваліся з франтавымі грашыма, бо ў пераважнае большасці жылі адным днём. Дый хто быў упэўнены, што дажыве да канца вайны? Да таго ж, многія наіўна верылі, што пасля вайны жыццё абавязкова будзе ў сто разоў лепшае. І толькі капітан не паддаваўся такім рамантычным настроям, а педантычна напаўняў адзін са сваіх сідараў каляровымі купюрамі. І хоць быў ён ужо на той час уладальнікам немалога капіталу, але грошай не траціў, і ў той жа час грошы былі для яго не самамэтаю, а толькі сродкам дзеля

ажыццяўлення сваёй мары. А мара ягоная была такая: пасля вайны ашчасліўіць багатымі дарункамі ўсіх сваякоў з беднай усходнебеларускае вёскі. Бывала, у перапынку паміж баямі зловіць наш капітан каго-небудзь з аднапалчанаў, асабліва з новенькіх, адвядзе куды і заціснe так, што той, бедны, вырвацца не зможа, і недзе добрую гадзіну будзе распавядаць пра ўсіх сваякоў і пра тое, каму які падарунак падрыхтаваны: і карова, і ровар, і касцюм з крамнае тканіны, сукенкі й спадніцы, і боты абавязкова хромавыя, і швацкая машынка, і яшчэ столькі, што ў любога галава набакір стане, а ўжо пра імёны, асабліва чужыя для нетутэйшага, нязвыклага вуха, то і гаварыць не выпадае, тым больш разабрацца ў мудрагелістых спляценнях сваяцкіх дачыненняў ніякае рады даць было немагчыма. І калі націск крыху змяншаўся, то бедалага ўцякаў, дай Бог ногі, пад дружны смех сведкаў, якія не прапускалі магчымасці павесяліцца. Дый ці шмат на фронце, дзе смерць штодня дыхае ў патыліцу і зазірае ў вочы, забаваў? А капітан калі не знаходзіў новае ахвяры, то хаваўся дзе-небудзь і ў памяці перабіраў імёны сваякоў і падарункі для іх, і трэба зазначыць, што памяць у яго была фенаменальная, бо ні ў якіх спісах ён не меў патрэбы. Так што капітан толькі ў гэтым быў дзіваком, а так — афіцэр як афіцэр, не горшы, а мо нават і лепшы за астатніх. У палку яго і любілі і ганарыліся ім.

А вайна між тым стала пастулова набліжацца да свайго завяршэння. І ў 44-м яна зноў пакацілася праз беларускія землі, цяпер, праўда, у зваротным кірунку. І форма на вайскоўцах была іншая, іншая міфалогія была ў галовах, іншая музыка лілася з патэфонаў.

І кожны дзень набліжаў Братку да сустрэчы са сваякамі. І так здарылася, што N-ская дывізія праходзіла зусім недалёка ад родных мясцінаў капітана, і Братка адпрасіўся ў камандзіра палка на адведкі. Той з прыроднае шчырасці ды з пачуцця павагі да афіцэра даў яму ажно трое сутак. Але капітан вярнуўся ўжо на першы ж дзень, толькі што позна ўвечары. Вярнуўся нейкі адразу схуднелы, чорны з твару і занадта ж маўклівы. Як потым даведаліся, ягоная родная вёска месцілася ў партызанскай зоне і яшчэ ў 43-м трапіла пад бязлітасны ўдар карнікаў ды падзяліла лёс яшчэ дзвюх з нечым тысяч вялікіх і невялікіх беларускіх







вёсак. І нельга сказаць, каб нічога не змянілася ў капітанавых паводзінах, праўда, грошы ён збіраў па-ранейшаму, толькі ўжо ні да каго не чапляўся ні са сваякамі, ні з падарункамі для іх у пасляваенны час, і сам заставаўся ўзорна дысцыплінаваным афіцэрам: да подзвігаў не рваўся, але ішоў куды накіруюць.

Праз колькі часу, калі ўжо вайна бушавала ў Польшчы, неяк запаволіўся рух на Захад і распачаліся пазіцыйныя баі. Падчас зацішку капітан раптам пакінуў зыходную пазіцыю, пабег у бліндаж, прынёс адтуль два заплечнікі і залез з імі на акопны насып. Ніхто нічога не мог зразумець, усе нема і нерухома толькі назіралі за капітанам. А той нетаропка развязаў абодва заплечнікі і пачаў даставаць адтуль грошы і раскідваць іх на вецер разам са словамі. Вецер падхопліваў каляровыя паперкі і даносіў фразы: "Антосю — карова, Валерыку — каляровыя алоўкі..." Хвілін праз пяць капітана з насыпу зняў нямецкі снайпер.

Што грошы? — Попел. І паўсюль попел, попел спаленае вёскі, попел спаленых сэрцаў, попел спаленых мараў. Спаленых кімсьці чужым, не кліканым і не жаданым. Але Валерык ужо ніколі ў правым кутку белага цвёрдага аркуша не намалюе сонца з доўгімі чырвонымі прамянямі.

## І НЕШТА НАКШТАЛТ ЭПІЛОГА

Смех нечуваны ўсчынілі шчаслiўцы нябёс жыхары...

Гэта ж для іх смех, а для нас — вайна. Гэта яны, шчасліўцы, стварылі Сусвет, занялі галоўныя месцы ў сваіх шматлікіх пантэонах і чакаюць пашаны і ахвяраў, час ад часу падсмейваючыся і са сваёй неўміручасці, і з нашае мізэрнасці. Вось яны пасмяяліся, а ў нас — вайна. А што станецца з намі, калі яны пачнуць весяліцца ўсур'ёз?

І каб канчаткова не збіцца на развагі і маралізатарства, лепш распавяду вам, як адзін з багоў, што называецца, "падставіў" сваіх вернікаў, а другі... але пра гэта надалей.

Жыў за даўнім часам у Цэнтральнай Амерыцы адзін ці то

чалавек, ці то бог. Звалі яго Кецалькаатль, а па-нашаму – Вогненны Змей, або Змей з Бліскучым Пер'ем. Дык вось гэты Змей для ацтэкаў быў вельмі добры. Ён іх вывеў з сельвы, даў ім кукурузу, пісьмо, навучыў будаваць дамы, ужываць агонь, лічыць зоркі, апрацоўваць металы. Але потым расчараваўся ў людзях і пакінуў іх за нейкія цьмяныя правіны. Эміграваў ён на Усход, а гэта для нас якраз і будзе Захад, абяцаўшы пры гэтым яшчэ вярнуцца. Дарэчы будзе сказаць, што быў ён немалога росту, меў светлы колер вачэй, скуры і валасоў. У 1521 годзе прароцтва споўнілася. З Усходу ў Амерыку прыйшлі іспанскія канкістадоры: высокія, куды вышэйшыя за мясцовых індзейцаў, былі яны барадатыя, мелі светлы колер скуры, валасоў і вачэй (гэта ў нас існуе няправільнае меркаванне пра іспанцаў як пра людзей чарнявых; у любым выпадку яны былі святлейшыя ад індзейцаў, і да таго насілі сталёвыя панцыры). А яшчэ ў іх былі коні, а іхнія аркебузы выстрэльвалі кулі куды далей, чым мог пацэліць лучнік. Карацей кажучы, ацтэкі са сваім імператарам Мантэсумам трапілі пад уплыў сваёй жа легенды, і літаральна за лічаныя месяцы магутная імперыя разам са сваёй бліскучай сталіцаю Тэначтытланам перапыніла гістарычнае існаванне.

А цяпер раскажу, як пажартаваў найспагадлівейшы бог Ронга, або Лона, пра якога я гаварыў яшчэ недзе на самым пачатку. І пажартаваў ён не з уласных вернікаў, а з чалавека, які пра гэтага Ронга ні слыхам, ні дыхам не ведаў. Жыў гэты Ронга ў Палінезіі, але асабліва яго шанавалі на Гавайскіх астравах, дзе ён гавайцам шмат чаго добрага даў. Быў ён бялявы, светласкуры і блакітнавокі (проста цэлая бяда ў міфалогіі з гэтымі бландзінамі!), і жыў ён сярод тых гавайцаў даволі значны час, а потым пакінуў іх – праўда, пры гэтым ён абяцаў вярнуцца ў драўляным плывучым храме пад воблакамі і прывезці сваім улюбёнцам процьму розных дарункаў.

І вось у 1779 годзе ангельскі мараплаўнік Джэймс Кук знайшоў для нас Гаваі, а гавайцы знайшлі нарэшце свайго Ронга. З павагі да субардынацыі Кук назваў новую зямлю Сандвічавымі астравамі ў гонар свайго непасрэднага начальніка. (Праўда, надоўга начальнікава імя на геаграфічных мапах не затрымалася, затое ён увайшоў у гісторыю вынаходніцтвам сэндвіча.) А Кук, прыплыўшы






на Гаваі, трапіў, што называецца, у рай. Тут яго даўно чакалі. Блакітнавокі бландзін на драўляным соракагарматным фрэгаце — вось вам і Ронга на плывучым храме, а тысячу ветразяў нат пры невялікай наяўнасці паэтычнага ўяўлення вельмі нескладана было прыняць за аблокі, — можна ва ўсё, асабліва калі хочаш, паверыць. Карацей, Кука ўшаноўвалі як боства, і гэты салодкі сон, што і не сніўся хлопчыку з ліверпульскіх докаў, мог доўжыцца на гады. І не манархам ён стаў, бо ў гэтым зямным парадызе ўжо меліся манархі, а — богам. Але, як на тую бяду, Кук не ведаў, як павінен быў сябе паводзіць, паводле меркавання гавайцаў, іхні Ронга. І гэтае няведанне прывяло да трагічнага фіналу. Расчараваныя гавайцы спачатку забілі свайго бога, а потым з'елі яго. Дарэчы, манархія на Гаваях праіснавала яшчэ больш за сотню гадоў, пакуль у 1894 годзе там не была абвешчаная рэспубліка, а ў 1898-м там залунаў зорна-паласаты, а ў 1959 годзе астравы сталіся сорак дзевятаю зорачкай на тым сцягу. І калі ўсё гэта мае хоць нейкае дачыненне да расповеду і калі вам усё яшчэ цікава, то скажу, што першым прэзідэнтам тае Гавайскае рэспублікі быў беларус.

Смех нечуваны ўсчынілі шчаслівцы нябёс жыхары, — так казаў Гамер, а Другая сусветная вайна пачалася першага верасня і другога верасня скончылася. А ўсяго разам — 2 011 дзён, у сярэднім па дваццаць пяць тысяч чалавечых жыццяў за адзін дзень.



# Мікола Гусоўскі

*Меў я надзею, што ты не дапусціш шматлікіх аблудаў,
Рым, бо трымаеш даўно веру святую Хрыста.*







## Дакор святому гораду

Нашэсце турак на Еўропу ў сярэдзіне XV стагоддзя, пагроза знішчэння не толькі цэлых дзяржаў, але і хрысціянскіх духоўных цэнтраў і святыняў прымусіла еўрапейцаў шукаць шляхі да кансалідацыі, да паразумення перад агульнай бядой. У 1444-м пры Варне,[1] а ў 1448 годзе на Косавым полі туркі разграмілі арміі хрысціянскіх дзяржаў, а ў 1453 годзе быў узяты і Канстанцінопаль. Заклікі біскупа Рыма да еднасці хрысціянскіх народаў знаходзілі слабы водгук на Захадзе, а на Усходзе – яшчэ слабейшы. У 1452 годзе Папа Мікалай V паслаў невялікую дапамогу з 200 салдатаў да імператара Канстанціна Палеалога. Аднак "другі Рым" не прыняў яе, бо ў той час у свядомасці праваслаўных жыла вядомая тэза: "Лепш турэцкі турбан, чым рымская тыяра".

І ўсё ж заходнія першаіерархі ў XV–XVI стст. – Калікст III, Пій II, Сікст IV, Юлій II, Леў X – настойліва імкнуліся схіліць да аб'яднання супраць туркаў. Аднак праваслаўныя не давяралі Рыму, у каталіцкіх валадароў былі свае інтарэсы і супярэчнасці, а з 1517 года Еўропа ўступае ў паласу Рэфармацыі і рэлігійных канфліктаў. Для значнай часткі еўрапейцаў Рым страціў сваё значэнне як цэнтр хрысціянства; яны мянуюць Папу Рымскага "антыхрыстам", а Рым – "пякельнай кузняю". Да голасу рэфарматараў у канцы XVI стагоддзя далучаецца і сонм усходнееўрапейскіх праваслаўных пісьменнікаў.

Сярод тых, хто расчараваўся ў магчымасцях Рыма, быў і наш кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары. Ён адклікаў пасольства на чале з Эразмам Вітэліусам, у складзе якога, як вядома, знаходзіўся і Мікалай Гусоўскі.

Менавіта ў Рыме беларускім паэтам-навалацiністам былі напісаны "Песня пра постаць, лютасць зубра і паляванне на яго", створаны такія шэдэўры паэзіі, як "Да Боскага Себасціяна", "Малітва да Святой Ганны", "Суцяшэнне Эразму Плоцкаму".

І сярод іх вылучаецца верш "На ахвярапрынашэнне чорнага быка". Гэты твор належным чынам не даследаваны і фактычна не ўведзены ў навуковы ўжытак, паколькі нават у вядомай манаграфіі В.Дарашкевіча "Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI века" яму прысвечана толькі 25 радкоў. "Адкрыў" верш рускамоўнаму чытачу Якаў Парэцкі ў 1973 годзе ("Вопросы филологии. Вып.3"). На гэтым шлях верша да беларускага чытача і завершыўся... Між тым гэты шэдэўр навалацінскай паэзіі павінен заняць сваё месца не толькі ў айчыннай літаратуры, але і ў пачэсным радзе такіх твораў сусветнага мастацтва, як "Плач Ераміі", "Трэнас" Мялеція Смарыцкага і інш.

Мікалай Гусоўскі – хрысціянін-каталік, паэт, які ўсвядоміў сваю місію прарока. Для яго Рым – сімвал і захавальнік высокай хрысціянскай маральнасці. Рым – паняцце вечнаснае, яго апякуюць сам Хрыстос і яго праўдзівая вера. Вякамі менавіта непахісная вера ў Хрыста выратоўвала горад ад розных навал. Рым – захавальнік мошчаў святых, у касцёлах – Цела Бога, духоўная ежа. І раптам Рым, цвярдыня хрысціянства, не можа супрацьстаяць выпрабаванню – чуме, ад якой неаднаразова выратоўвала яго жыхароў вера. Веру замяняюць бязвер'е, роспач, чорны бык, прынесены ў ахвяру, замяняе ахвяру Госпада, і рымляне не чакаюць "ад Пана Хрыста" дапамогі. Успомнім словы з Кнігі прарока Ераміі, звернутыя да жыхароў Ерусаліма: "Яны ізноў звярнуліся да беззаконняў прапрашчураў сваіх, якія выракліся слухацца слоў Маіх і пайшлі ўслед чужым багам, служачы ім. Дом Ізраіля і дом Іуды парушылі запавет Мой, які Я заключыў з прашчурамі іх" (Ер. 11:10).

Для Мікалая Гусоўскага страта веры, страта духоўнасці азначае і страту дома Божага. Зварот да апостала Пятра з адчайнаю просьбаю перанесці "свой дом да чужынскіх народаў" – апафеоз верша.

**Уладзімір КАРОТКІ**



# *Верш*
## *на ахвярапрынашэнне чорнага быка ў Рыме, учыненае публічна нейкім грэкам дзеля супрацьстаяння чуме* [2]

Хто б ты, вандроўнік, ні быў, ацані, падышоўшы да Рыму,
Гэты заліты крывёй горад пакутаў святых,
Горад, што бачыў так часта дзівосы шматлікія веры,
Строга глядзіць на сусвет праз манументы свае.
Многім здаецца: не будзе нічога трывалага ў свеце,
Раптам як зрынецца Рым; прыклад усім ён дае.
Што ж на малое пытанне ён мне адказаў, чужаземцу?
Штосьці такое, пра што нельга нікому маўчаць!
Нават калі б разарвалі на часткі знямоглае цела,
Я б і тады не хацеў гэты аповед спыніць.
Меў я надзею, што ты не дапусціш шматлікіх аблудаў,
Рым, бо трымаеш даўно веру святую Хрыста.
Колькі ў цябе абаронцаў! А колькі ў шматлікіх грабніцах
Маеш ты мошчаў святых, што не схаваны ў труне!
Ёсць у касцёлах тваіх і жывое, сапраўднае Цела:
Целам, дакладней сказаць, сам прызываецца Бог.
Што ж, непатрэбнаю стала, скажыце, духоўная ежа?
Мо ўжо не можа яна стаць даражэйшай за хлеб?
Можа, не варта звяртацца да Бога на гэтым вось месцы,
Па-за якім у нішто сыдуць малітвы твае?
Што ж ты не хочаш крыху ў старажытнасць вярнуцца і

ўспомніць,
Як дапамогу калісь Божая Маці дала?
Мінула сотня гадоў з тых часоў, як у гэтым жа месцы
Мор быў ад лютай чумы. Як пра такое забыць?
Людзі з малітвай няслі абразы
Багародзіцы-Панны,
Сёння ж схаваны яны ў сценах святыняў сваіх.
Хіба не ўзносілі рымляне разам малітвы штодзённа?
Хіба ратунак з нябёс не атрымаў ты тады?
Помніш азнаку? Узняўся на вежу анёл Адрыяна,
Меч абасечны падняў цвёрдай рукою сваёй;
Кроў на лязе!.. Апускае ён меч і ўкладае да похваў.
Так нечакана тады выратаванне прыйшло.
Готаў нашчадак, о Рым, што глядзіш на струхлелыя
дахі?
Хопіць маніць, што твой род з Лацыем разам паўстаў.
Мусіў бы ты прамаўчаць пра закон старажытных
квірытаў[3],
Памяць пра твой радавод лепей бы не ўваскрашаць.
Ці ж не твая гэта кроў па мячах за Хрыстовую веру
Добраахвотна цякла? Ці ж не народ гэта твой
Целы свае падстаўляў пад смяротную зброю, каб нівы
Чыстым напоўніць зярном, новае войска
сабраць?
Ты, вераломны, на добры, саспелы ўраджай не зважаеш,
Рукі не хочуць твае поўнае жніва ўчыніць.
Хіба ты ў страху нікчэмным ад марнай чумы так
сумеўся,
Што ўжо праз чорных быкоў моліш падземных пачвар?
Бачыш, няма і няма ад багоў старажытных
адказаў!
Толькі чаму ж ты не йдзеш продкаў дарогай святой?







Храмы напоўніў нашто дэманічнымі ты бажаствамі,
Курыш з мальбой фіміям культу сівой даўніны?
Значыць, ужо не чакаем ад Пана Хрыста дапамогі?
Значыць, у веры цяпер сталі бязвернымі мы?
Што ж ты бунтуеш, скажы мне, ўвесь свет у ганебных
аблудах,
Сам саслабеўшы цяпер тысячнай смерцю, о Рым!
Запанаваць над усім гэтым зброі турэцкай няцяжка,
Бо пагарджаеш ты сам веравызнаннем сваім.
Варты ты ўсё ж, тым не менш, каб прысуд
справядлівага Бога
Вывеў са сценаў тваіх злую навалу чумы.
Перанясі ж ты, о Пётр, свой дом да чужынскіх народаў:
Гэткай знямогі, як тут, болей не знойдзеш нідзе!

**Пераклад з лацінскай мовы**
**Жанны НЕКРАШЭВІЧ і Ірыны ШКУРДЗЮК**

---

[1] Пад Варнаю Еўропу ад турэцкага нашэсця бараніў Уладзіслаў III, кароль польскі, сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. там ён склаў сваю галаву, а праз тры гады на польскі пасад сеў вялікі князь літоўскі Казімір Ягайлавіч і стаў Казімірам Чацвёртым.

[2] У 1522 годзе на Рым напала такая жудасная чума, што на шляхах і перакрыжаваннях дарог людзі паміралі раптоўнай смерцю. Паколькі ў адсутнасць пантыфіка ўсе арыстакраты і кардыналы ўцяклі з горада і паколькі не было пад рукою аніякіх лекаў, якія маглі б дапамагчы няшчаснаму народу, нейкі грэк, імем Дэметрый Спартанус, каб спыніць заразу, узяў на сябе вось якую справу са згоды народа і магістрата. Схапіўшы дзікага быка, ён адцяў у яго палову рога і, нашэптваючы ў правае вуха магічную песню, такім чынам прыручыў звера. Потым пусціў, трымаючы за прадзетую праз рог тонкую нітку, каб той хадзіў па горадзе наўкола, дзе сам жадаў. Тым часам неразумны народ дзівіўся гэтаму выпадку. Нарэшце, блізу амфітэатра ён *(грэк, – Ж.Н.)* прынёс быка ў ахвяру, каб улагодзіць багоў, паводле звычаю старажытных.

[3] **Квірыты** – ганарова-ўрачыстае найменне рымскага народа.




*Літва! Славутая гераізмам, ты доўга пакутавала ад здрады тваіх сыноў! Я абяцаю табе ўзначаліць змаганне грамадзян, якім удзячны за давер.*

Казімір
Барташэвіч





# З ГІСТОРЫІ ПАЎСТАННЯ КАСЦЮШКІ

Паўстанне ў Літве і Жмудзі. – Вызваленне Вільні. – Першыя бітвы. – Прарыў брыгад з Кіеўшчыны



**У** адзін час з Варшавай зварот Касцюшкі пачула і Літва. Жмудзь нават магла пахваліцца тым, што ўжо напярэдадні, за дзень да варшаўскага "святога паўстання", узялася за зброю.

Сапраўды, 16 красавіка, у час склікання ў Шаўлях земскага суда, вядомыя і паважаныя грамадзяне – камандзір 6-га палка Несялоўскі, былы віцэ-брыгадзір Рамуальд Гедройць, віцебскі ваяводзіч Антоній Прозар і суддзя ковенскага памешчыцкага суда Пётр Завіша – прыбылі да брыгадзіра Суліcтроўскага, які разам са сваім войскам знаходзіўся ў Шаўлях, з мэтай дамовіцца аб тым, каб распачаць паўстанне. У яго спаткалі генерал-маёра Хлявінскага, накіраванага гетманам Касакоўскім правесці скарачэнне войска. Пасля працяглых перамоваў Хлявінскі прыхільна паставіўся да прысягі на вернасць Бацькаўшчыне і акту нацыянальнага паўстання. За прыкладам гэтых грамадзян пайшлі суддзі памешчыцкага суда і "ўсе прысутныя".

У адпаведнасці з распрацаваным планам Гедройць выйшаў з Шаўляў з 200 коньмі ў Шаты, дзе тады знаходзіўся 3-ці полк. Па дарозе ён злучыўся з меншымі групоўкамі, сустрэўшы супраціў толькі з боку дваіх афіцэраў, якія далі яму бой; пасля сутычкі яны мусілі здацца. Прыбыўшы ў Шаты, Гедройць захапіў гаўптвахту, дзве гарматы і з нацэленым пісталетам уварваўся ў жытло падпалкоўніка Штэйтына, свайго швагра, які "з вялікаю ахвотай"

здаўся яму з усёй сваёю камандай. З Шатаў Гедройць выправіўся ў Янава, па дарозе туды арыштаваўшы ўдзельнікаў Таргавіцы. У Зыжморах ён аб'яднаўся з 4-м палком пад камандаваннем палкоўніка Мейена.

Несялоўскі разам з Сулістроўскім накіраваўся ў войска, размешчанае ў Панявежы, і рушыў у бок Вількаміра, дзе ўдалося сабраць полк пад кіраўніцтвам ваяводзіча Касакоўскага, адкуль хуткім маршам гэтае войска выйшла ў Вільню.

Хлявінскі накіраваўся ў Расены, дзе знаходзілася 3-я брыгада Касакоўскага. Уся яна ахвотна дала прысягу; не выключэннем быў і сам Касакоўскі, які апынуўся там не па сваёй волі, але ў хуткім часе ён усё ж захацеў уцячы за курляндскую мяжу разам з віцэ-брыгадзірам Белазорам; мясцовае насельніцтва і вайскоўцы затрымалі іх, калі яны ўцякалі. На шляху ў Коўна да Хлявінскага далучыўся полк Лісоўскага. Няўдача напаткала іх у Ваўкавыску: палкоўнік адмовіўся прысягаць і накіраваўся ў Аліту, паведаміўшы аб тым, што адбываецца, гетману Касакоўскаму. Ён яшчэ не ведаў: над панам гетманам ужо быў здзейснены прысуд народа, які абышоўся з ім па ўсёй справядлівасці[1].

У Вільні галоўнакамандуючы расейскімі войскамі генерал Арсенneў адразу не вельмі паверыў, што паўстанне пачалося, нягледзячы на паведамленні Шымана Касакоўскага. Ён таксама не верыў, быццам Вільня ўражана гвалтам, што выявіўся ў арышце Бжастоўскага, Радзішэўскага, ксяндза Богуша, Грабоўскага і інш. Але гэтае насілле не прывяло б да такога хуткага і паспяховага развіцця рэвалюцыйных падзей, калі б не Шыман Касакоўскі, які загадаў арыштаваць некалькі штабных афіцэраў, падазраючы іх у арганізацыі змовы. Сярод тых, каго падазравалі, быў палкоўнік інжынерных войскаў Якуб Ясінскі, патрыёт, прыроджаны рэвалюцыянер, які падтрымліваў сувязь з варшаўскімі змоўшчыкамі, падначаленымі Дзялынскаму. Ясінскі, якога папярэдзілі раней, схаваўся і працаваў па як найхутчэйшым правядзенні паўстання[2].

Арсенneў нарэшце пачаў верыць у тое, што сярод шляхты і польскага войска распачалася змова з мэтай аднаўлення дзеяння Канстытуцыі 3 мая рэвалюцыйным шляхам, таму 21 красавіка ён накіраваў да палкоўніка Дэева зварот з просьбай, каб той разам з Тамбоўскім палком рушыў у бок Вільні. Назаўтра Касакоўскі, прыехаўшы ўвечары са сваіх уладанняў, папярэдзіў Арсеннева, што літоўскія брыгады з варожымі намерамі ідуць у бок Вільні[3].

У гэты ж час, 22 красавіка, Ясінскі, "любімы калегамі-афіцэрамі", закончыў падрыхтоўку да паўстання. Ён меў слабыя сілы: дзве няпоўныя роты, якія засталіся ад 4-га палка, дзве роты 7-га палка і, нарэшце, таксама няпоўны атрад літоўскай артылерыі. Але салдаты і афіцэры былі настроены рашуча. Ясінскі падзяліў іх на некалькі частак, якім даручыў адначасова атакаваць непрыяцеля ў розных месцах. Гарматны стрэл пачуўся а 1-й гадзіне ночы і быў сігналам да пачатку сумесных дзеянняў. У адзін час былі атакаваны гаўптвахта, кватэра Арсеннева і кватэры іншых вышэйшых афіцэраў. Расейскае войска, заспетае ў сне, панічна напалоханае, было не здатнае на энергічную абарону. Амаль без стратаў капітан Салецкі захапіў гаўптвахту і дзве гарматы, якія стаялі перад ёю на рынку; Нарвскі і Пскоўскі палкі ў поўным складзе трапілі ў палон. Былі схоплены Арсенneў[4], Касакоўскі, палкоўнік Языкаў і інш. "Тады ўсе баяліся расейцаў; таму адусюль расейскіх салдатаў і афіцэраў прыводзілі ў касцёл Святога Казіміра, дзе і замыкалі; гарматы, харугвы, сцягі, амуніцыя, склады са зброяй, грошы – усё гэта трапіла ў нашы рукі". Атака працягвалася менш за дзве гадзіны. У палон было ўзята, акрамя вышэйшых ваенных чыноў, 904 малодшыя афіцэры (падафіцэры) і шмат салдатаў. Забітых і параненых расейцаў налічвалася ад 30 да 40, з польскага боку адзін чалавек быў забіты і некалькі – паранены.

Удалося ўцячы толькі маёру артылерыі Тучкову, які пасля першага ж удару ў званы накіраваўся да дзвюх сваіх рот, што знаходзіліся на Пагулянцы, з гарматамі, размясціў іх у баявым парадку і хацеў на досвітку атакаваць паўстанцаў, але, убачыўшы перавагу ў сіле, загадаў прыпыніць падпальванне і рабаўніцтва як Пагулянкі, так і прадмесцяў Любішкі і Сніпішкі, і адступаць аж да Гродна, палячы вёскі, корчмы, сялянскія двары.

Удзень 24 красавіка віленскія і іншыя грамадзяне, якія тады знаходзіліся ў Вільні, выкарыстоўваючы "імгненне свабоды", падпісалі асобны акт аб паўстанні літоўскага народа, прысягнулі на вернасць яму на віленскім рынку і абралі Найвышэйшую Раду.

На наступны дзень Рада выдала "Зварот да ваяводстваў і паветаў правінцый Вялікага княства Літоўскага і свабодных гарадоў", у якім паведамляла: "Айчына выратавана. Літоўскі народзе! Слухай, што табе гавораць не слабы кароль з яшчэ слабейшага трона, не буйны натоўп, які не мае нічога, акрамя наймення народа, а спакойны саюз тваіх дабрадзейных сыноў, што доўга працавалі дзеля твайго вызвалення тады, калі ты ўжо пачаў страчваць надзею на яго..." Затым ішоў урывак, які ў далейшым знік невядома куды – відаць, узяты з дрэздэнскага паведамлення Прозара аб дапамозе з боку Францыі, аб яе жаданні дапамагчы паўстанню. Далей зварот паведамляў, што пасля "мужнага змагання войска пад камандаваннем Якуба Ясінскага, палкоўніка інжынерных войскаў", Вільня вызвалена ад непрыяцеля, а грамадзяне, што падпісалі акт паўстання, абралі Найвышэйшую Раду, у склад якой увайшлі: навагрудскі ваявода Юзаф Несялоўскі, віленскі харунжы Антоній Тызенгаўз, прэзідэнт горада Бенядыкт Марыконі і літоўскі пісар Станіслаў Мірскі, мінскі стараста Міхал Бжастоўскі, а таксама: Дамінік Нарбут, Юзаф Пац, Міхал Грабоўскі, Станіслаў Валовіч, Тамаш Ваўжэцкі, Валенты Гарэцкі, Бенядыкт Карп, Міхал Страшэвіч, Юзаф Коцел, Каятан Нагурскі, Вішнеўскі, Мікалай Мараўскі, Тадэвуш Высагерд, Алойзы Сулістроўскі, Ігнацій Гелгуд, рэктар акадэміі Марцін Пачобут, князь Міхал Карповіч, Ежы Бялапётровіч, генерал-маёры Антоній Хлявінскі і Рамуальд Гедройць, палкоўнік Ясінскі і Антоні Лахніцкі.

У гэты ж час быў адноўлены крымінальны суд – для вынясення прысуду здраднікам, прычым судовы працэс мусіў быць кароткім і, у выпадку пільнай неабходнасці, на працягу 24-х гадзін вынесці вырак: амністыя або шыбеніца. Былі арганізаваны камісіі – следчая, скарбовая, грамадскай бяспекі. Нарэшце, зварот заклікаў грамадзян да арганізацыі ўсенароднага апалчэння "па ўзору цэнтральных правінцый" і да мабілізацыі рэкрутаў. "Звярніцеся, – вось яго словы, – да народа, змучанага прыгнётам, які галадае з-за нашэсця непрыяцеля, жыве ў смутку і роспачы і чакае толькі загаду; хай гэтая зброя, якой замінае яму карыстацца салдат-нягоднік, – прылада для апрацоўкі глебы, – будзе садзейнічаць выратаванню Бацькаўшчыны і абароне свабоды". Прывёўшы словы прысягі, дадзенай на віленскім рынку, Найвышэйшая Рада запэўнівала, што не займаецца ніякімі прыватнымі пытаннямі, адмаўляецца ад усіх пенсій, узнагарод і любой карысці – да той пары, пакуль "дзяржаву поўнасцю не вызваляць ад іншаземных захопнікаў і не ачысцяць ад усіх здраднікаў... пакуль яна не апынецца ў стане поспеху".

Тады ж сабраўся крымінальны суд, які выказаўся за павешанне Шымана Касакоўскага. Шыбеніца была ўсталявана на рынку, туды прывезлі асуджанага, апранутага "у жоўты нанкінавы шлафрок з белымі баранчыкамі"; камергер Эльснер, адвакат віленскіх судоў, седзячы на белым кані, прачытаў кароткі ўказ: Шыман Корвін Касакоўскі, які некалі належаў да Барскай канфедэрацыі, назаўсёды звязаў лёс з ворагамі Бацькаўшчыны і, прывёўшы сюды расейскую армію, назваўшыся гетманам літоўскіх войскаў, стаў прычынай прыгнёту і бяспраўя народа, цяпер прызнаецца за не вартага пашаны, маёмасці і жыцця, таму павінен быць павешаны катам на гэтай шыбеніцы[5]. Гэтага было дастаткова, каб ажыццявіць прысуд.

Прыехаўшы ў Вільню ў дзень яе вызвалення, палкоўнік Стафан Грабоўскі – хутчэй за ўсё, па дамоўленасці з Ясінскім – вырашыў пачаць актыўна дзейнічаць. Даведаўшыся, што пад Няменчынам, за тры мілі ад Вільні пад Віліяй, сабралася да 300 чалавек расейскай пяхоты з 150-ю казакамі пад камандаваннем палкоўніка Кірэева, ён 21 красавіка выйшаў з Вільні разам з 300 воінамі 7-га палка, узяўшы з сабой 60 кавалерыстаў і дзве гарматы. У гэты час уночы з Вількаміра прыбыў расейскі палкоўнік Ланізы з тысячай воінаў і злучыўся з Кірэевым. Грабоўскі не ведаў аб гэтым і, калі выйшаў з Няменчына, на світанні ўдарыў па ворагу, які ў 4 разы пераўзыходзіў яго ў ваеннай сіле. Бітва была зацятая: 7-ы полк ішоў проста на штыхі. Колькасная перавага аказалася вырашальнай, атаку адбілі. Нягледзячы на гэта, непрыяцель адступіў з занятых раней пазіцыяў, а Грабоўскі вярнуўся ў Няменчын. Былі пахаваны 280 расіян і 98 палякаў. Загінула некалькі польскіх афіцэраў: паручнікі Нідэцкі і Гарноўскі з пяхоты, Жыдовіч – з конніцы. Найбольш быў ушанаваны маёр Біруля. Асаблівай смеласцю вызначыўся лідскі вайсковец Юзаф Нарбут.

Тым часам у Вільню з усіх бакоў з'язджаліся людзі, каб

далучыцца да паўстання. Сярод іншых 29 красавіка засведчылі свой удзел дзяржаўны сакратар Антоні Грабоўскі, абозны Пацей і таргавіцкі падскарбій Міхал Агінскі. Гэты апошні выказаў жаданне сфарміраваць уласны атрад, што неўзабаве і зрабіў.

Войска абрала сваім палкаводцам Ясінскага. У сувязі з гэтым літоўская Найвышэйшая Рада ўлічыла пажаданні войска і 3 мая, "аддаўшы камандаванне літоўскімі Узброенымі Сіламі Ягамосці Якубу Ясінскаму, палкоўніку інжынерных войскаў, пад вярхоўным галоўнакамандаваннем Узброенымі Сіламі Тадэвуша Касцюшкі, дзеля знаёмства з усімі меркаванымі аперацыямі (уваходжання ў курс справы. – *зайв. перакл.*), наладжвання лягчэйшых і хутчэйшых кантактаў з Радай пры дапамозе рапартаў, нагляду за выкананнем усіх распараджэнняў, прызначыла ў дапамогу Якубу Ясінскаму наваградскага ваяводу Юзафа Несялоўскага, палкоўніка Юзафа Коцела і генерал-маёра Рамуальда Гедройця, а таксама іншых іх калег з Найвышэйшай Рады".

Найвышэйшая Рада на гэтым спыніла сваю дзейнасць, але адбылося гэта не з-за яе дрэнных намераў. Усё, у чым папракаюць яе з гэтай нагоды цяперашнія гісторыкі, нельга лічыць слушным. Кажуць, што яна прысвоіла незалежную ўладу, абудзіла "дух нязгоды, які перашкаджаў адзінству братніх народаў". Пры гэтым забываюцца на тое, што паміж Касцюшкам і Вільняй была вялікая адлегласць, што цяжка было чакаць, пакуль кур'ер даімчыць да яго і вернецца назад з атрыманымі распараджэннямі. Гэта быў час не чыгунак і тэлеграфаў – па меншай меры тры тыдні трэба было чакаць адказу (кур'ер з Варшавы даехаў да Касцюшкі толькі за тыдзень). Таму патрабавалася перадаць камандаванне ў чые-небудзь рукі, даручыць некаму правядзенне ваенных дзеянняў.

Усё ж Літоўская Рада на пачатку траўня накіравала да Касцюшкі Сулістроўскага "для абмеркавання шляхоў спрашчэння віленскага акту і аб'яднання дзвюх правінцый у адзіны арганізм" – відаць, яна сама адчувала, што яе ўлада часовая, а Касцюшка вырашае ўсё. Вось чаму наконт прызначэння галоўнакамандуючага літоўскімі войскамі рэзалюцыя, прынятая Радай, паведаміла: Ясінскі мусіць заставацца "пад вярхоўным галоўнакамандаваннем Узброенымі Сіламі Тадэвуша Касцюшкі". Літоўская Рада не магла таксама ведаць і аб тым, што яе дні злічаныя, бо Касцюшка ў гэты час ужо прызначыў Найвышэйшую Нацыянальную Раду. Арганізацыйная пастанова гэтай Найвышэйшай Рады пазначана датай 10 траўня, а зварот, які паведамляе аб прынятці пастановы, – 21 траўня (сама Рада пачала дзейнасць на тыдзень пазней), звесткі аб гэтым рашэнні маглі дайсці да Вільні не раней 1 чэрвеня. Вось адкуль з'явіліся папрокі ў адрас Літоўскай Рады, быццам яна хацела дзейнічаць на ўласную рызыку. Як бачым, яны не маюць пад сабой ніякіх падстаў.

Ясінскі, сабраўшы каля 1 800 салдат пад камандаваннем Мейена, Несялоўскага і Стафана Грабоўскага, узмацніўшы сваё войска за кошт сялянскіх паўстанцаў колькасцю 700 чалавек, 7 траўня рушыў пад Паляны (каля 7 кіламетраў ад Вільні) супраць палкоўніка Дэйена, які знаходзіўся там. І тут літоўскае войска напаткала неспадзяванка. Ланізы і Кірэеў часова аб'ядналіся з Дэйенам, утварыўшы разам рэгулярнае войска, якое перавышала 3 тысячы чалавек. Ясінскі захапіў непрыяцеля знянацку і гарматным агнём моцна зменшыў ягоныя шэрагі. На жаль, сяляне не вытрымалі варожага агню і кінуліся наўцёкі. Непрыяцель выкарыстаў гэта, прымусіўшы Ясінскага адступіць. Гэта, аднак, не было паражэннем, бо вораг панёс значна большыя страты, чым Ясінскі, і, не праследуючы таго, адступіў да Смаргоні, – хутчэй за ўсё, гэта была няўдалая атака.

Сталі вядомыя распараджэнні Касцюшкі, адно з іх падзяляла літоўскае войска на тры карпусы: пад камандаваннем Ясінскага, Хлявінскага і Францішка Сапегі. Усе распараджэнні былі выкананы, і 13 траўня Літоўская Рада накіравала да Касцюшкі Юзафа Коцела з запэўніваннямі ў "вернасці" і ў падпарадкаванні ягоным загадам. Абвяргаючы падазрэнні ва ўзурпацыі ўлады, Рада прыняла адозву, і гэта як найлепш даказвала адданасць грамадзян справе паўстання. Пад ёю яна падпісалася ўжо не як Найвышэйшая Рада Літвы, а як Часовая Літоўская Рада[6].

"Дарэмнай была б ваша руплівасць, – гаворыцца ў адозве, – дарэмнымі былі б намаганні Рады, марнай аказалася б кроў, пралітая мужнымі воінамі, калі б працягваліся няўзгодненасць мэтаў палітычных дзеянняў і шкодныя размовы аб магчымасці іх няўзгодненасці. Бог, вызваляючы польскі народ з пакутлівага ярма няволі, зрабіў Кракаўскую зямлю калыскай свабоды, новага

жыцця палякаў, і Тадэвуша Касцюшку, нашага земляка, паслаў туды здзейсніць Сваю святую волю. І адбылося!.. Дзякуючы ўчынкам гэтага чалавека, якога будуць ушаноўваць многія пакаленні вашых нашчадкаў, адрадзіліся свабоды палякаў; ужо ўсюды чуваць лязгат пераможнай зброі; усюды ўжо бачыце конніка, які скача па вашай зямлі. Гэты чалавек з тых, каго Неба пасылае народам рэдка, раз у некалькі стагоддзяў, дадаў мужнасці ў сэрцы і літоўскіх рыцараў. Яму мы абавязаны Бацькаўшчынай! Яму абавязаны сваім узлётам – ягоным дабрадзейнасці і мужнасці. Таму Літоўская Рада не знайшла ў сваіх шэрагах нікога, хто б мог параўнацца з ім веліччу духу; прыняўшы акт аб паўстанні 24 красавіка ў Вільні, яна не здолела прызначыць нікога іншага дзеля кіравання народам. Жадаючы, каб усе дзеянні Рады былі адзначаны павагай і поўным падпарадкаваннем гэтаму чалавеку, яна абвяшчае народу: Рада лічыць настолькі важным выкананне загадаў вярхоўнага галоўнакамандуючага, што толькі з ім звязвае надзеі на шчасце народа; з ім яна хоча ажыццявіць усё, чаго патрабуюць свабода і незалежнасць Бацькаўшчыны".

Далей у адозве Літоўская Рада сцвярджала, што не збіраецца пашыраць пакаранні на тых, хто далучыўся да Таргавіцы, "падпарадкоўваючыся абставінам, падвяргаючыся насіллю і пераследу". Напрыканцы яна заклікала дзеля Бацькаўшчыны ахвяраваць жыццём і маёмасцю, "на якія замахнуліся прыгнятальнікі".

Адозва была датавана 22 мая, калі Літоўская Рада яшчэ не ведала, што яе беспадстаўна абвінавацілі перад Касцюшкам, аб чым сведчыў ягоны зварот "да Княства Літоўскага, у прыватнасці Часовай Віленскай Рады", напісаны ў лагеры пад Боркавам 21 траўня. У гэтым звароце Касцюшка сцвярджаў, што быў бы "не вартым даверу" народа, калі б "не мог выкарыстаць і ўтрымаць" уладу, дадзеную ім. Таму, "выпраўляючы памылкі, зробленыя ў пачатку паўстання", ён паведамляў: з-за неабходнасці распачаць у гэтыя дні дзейнасць Найвышэйшай Нацыянальнай Рады "Часовыя Рады – Варшаўская і Віленская – будуць распушчаны". Ён заяўляў: прызначаныя ім для Літвы генерал-лейтэнанты Ясінскі, Грабоўскі і Хлявінскі[7] будуць камандаваць асобнымі карпусамі або стануць дзейнічаць сумесна, з узаемнымі стасункамі, памятаючы, што любоў



да Айчыны для нас вышэй за любоў да сябе. Ён засцерагаў Літоўскую Раду ад "інтрыганаў, што без усялякай справы таўкуцца ў Польшчы" і вядомыя "сваімі падазронымі сувязямі, спалучаюць нахабства і двудушнасць". Каго Касцюшка тут меў на ўвазе, меркаваць цяжка, але не выклікае сумнення тое, што недзе пляліся нейкія інтрыгі. Рэха гэтых падзей дайшло і да Касцюшкі, калі ён адважыўся на такія вострыя словы[8].

У хуткім часе пасля гэтага Касцюшка звярнуўся з яшчэ адной адозвай да Літвы: «Літва! Мае землякі і суродзічы! Я нарадзіўся тут, і ў маім паважлівым стаўленні да Айчыны ёсць нешта ад братэрскай любові да тых, сярод каго пачалося маё жыццё. На вас глядзіць уся Польшча, ад вас яна чакае праяў грамадзянскай энергіі, а вы, у сваю чаргу, павінны глядзець на астатнюю частку народа; паглядзіце, як ахвотна ён распачынае ўсеагульнае ўзбраенне, як пераследуе ворага, пакідае сем'і, хаты ў імя Бацькаўшчыны; зірніце на землякоў, натхнёных дэвізам "Перамагчы або памерці!.." І мы пераможам! Усемагутны Бог раней ці пазней пакарае прыгнятальнікаў, дапаможа прыгнечаным народам, выратуе верных яму і адданых грамадзянскаму абавязку! Мы пераможам, але для гэтага мы павінны ўзяцца за зброю, нас мусіць быць многа. Таму давайце забудземся на ўсе нязгоды і спрэчкі, давайце будзем дбаць толькі аб вызваленні Бацькаўшчыны і дзейсным адпоры непрыяцелю!

Літва! Славутая гераізмам, ты доўга пакутавала ад здрады тваіх сыноў! Я абяцаю табе ўзначаліць змаганне грамадзян, якім удзячны за давер. Адзінствам, актыўнасцю, энергіяй вы мусіце аблегчыць нашай краіне магчымасць быць абароназдольнай. Няхай непрыяцель не затрымліваецца на вашай зямлі; хай я назаву вас пераможцамі; хай сумеснымі нашымі намаганнямі барацьба польскага народа навучыць ягоных ворагаў паважаць нашу свабоду!»

Паколькі пасля ўтварэння Найвышэйшай Нацыянальнай Рады ў Варшаве Літоўская Рада была распушчана і засталася толькі Упарадкавальная камісія літоўскага князя, то да апошняй і звярнуўся Касцюшка, патрабуючы ад яе, каб яна "ўдыхнула ў грамадзянскія саслоўі настрой адзінства", "выпрацавала ў народзе добрыя памкненні", выхоўвала і адукоўвала, задавальняла патрэбы

арміі, працавала "з поспехам", была "прыкладам дабрадзейнасці і мужнасці". Напрыканцы ён паведамляў, што "ў гэты момант" даручыў Найвышэйшай Нацыянальнай Радзе звярнуцца да насельніцтва Літвы з заклікам стварыць усеагульнае апалчэнне. Гэтая адозва, датаваная 2-м чэрвеня, была напісана ў лагеры пад Кжэціцамі.

Літва пасняхова змагалася і без адозвы.

Вільня сфарміравала два батальёны і стварыла муніцыпальную гвардыю, належным чынам абмундзіраваную і ўзброеную карабінамі, пікамі, пісталетамі, сякерамі і бердышамі. 11 траўня перад накіраванымі ў Літоўскую Раду Тамашом Ваўжэцкім і Міхалам Агінскім адбыўся агляд гвардыі, якая налічвала да 3 тысяч чалавек (лічба, мажліва, перабольшаная)[9]. На пачатак чэрвеня колькасць рэкрутаў, сабраных у Вільні, дасягнула 6 тысяч. Ідучы за прыкладам Кракава і Варшавы, народ незалежна ад полу і маёмаснага стану ўдзельнічаў у насыпанні шанцаў, закліканых абараніць горад ад непрыяцеля. У чэрвені ў Вільні былі адчынены парахавы млын і збройны завод, якога Літва не мела "з даўніх часоў". Знайшоўся "мастак" Заліўскі, які штотыдзень пастаўляў па адной 6-фунтовай гармаце.

Пасля Вільні і Жмудзі першым далучылася да паўстання мястэчка Заблудаў каля Беластока – 24 красавіка, дзякуючы намаганням Андрэя Казаноўскага і Яна Стрыенскага, начальніка коннай літоўскай гвардыі. Жыхары Гродзенскага павета 9 траўня сабраліся ў Саколцы (склікалі абываталяў там, паколькі Гродна займала калона расейскага генерала Цыцыянава) і стварылі Упарадкавальную камісію. На сходзе старшыняваў Францішак Буфал, які прапанаваў камендантам павета абраць вядомага па падрыхтоўцы да паўстання Канстанціна Ельскага. Гэтую прапанову прынялі аднагалосна; было вырашана накіраваць да Касцюшкі кур'ера – з паведамленнем аб сваім далучэнні да паўстання і з просьбаю прысвоіць Ельскаму званне генерал-маёра. У Саколцы адразу ж утварыўся атрад у сто чалавек з палка Азулевіча – знайшліся і добраахвотнікі пад камандаваннем Казаноўскага (магчыма, пасля далучэння да паўстання Заблудава), якому Касцюшка потым прысвоіў званне палкоўніка.

Напярэдадні да Цыцыянава, што знаходзіўся ў Гродне, далучыўся генерал Тучкоў, які адступіў з-пад Вільні. На працягу







ўсяго свайго шляху ён паводзіў сябе, як татарын: паліў, катаваў, рабаваў, пакідаючы за сабой трупы, папялішчы і руіны[10]. Калі ён прыбыў у Гродна, то 4 траўня сабраў у Цыцыянава нараду. У ёй удзельнічаў нікчэмны здраднік, маёр польскіх войскаў Клейст, які разам з палкоўнікам Бардаковым параіў абрабаваць горад і пазабіваць усіх яго жыхароў. Супраць гэтага выступілі польскі палкоўнік Закжэўскі і англічанін Фок, начальнік артылерыі. Цыцыянаў, відаць, падтрымаў іх і абмежаваўся патрабаваннем кантрыбуцыі ў 108 600 злотых з захопам 600 тысяч казённых грошай і крамы сукна. Задаволены, ён рушыў на Скідзель і Шчучын да Нясвіжа, па дарозе знішчаючы вёскі і палячы маёнткі.

Па адступленні Цыцыянава ў Гродне аб'явіўся камісар па ўпарадкаванні Гродзенскага павета, вядомы ў часы Чатырохгадовага сойму Іаахім Храптовіч. Ён быў з тых, хто "пад ціскам абставін" далучыўся да Таргавіцы; тады кароль прызначыў яго канцлерам. Таргавіцкая здрада ўчынена ў асноўным дзякуючы яго дзейнасці, ён не бачыў магчымасці абараняцца і хацеў знайсці выратаванне ў "мудрасці" Кацярыны. Аднак у хуткім часе ён аддаў свіце пячатку (непасрэдна перад Гродзенскім соймам) і выехаў за мяжу. Даведаўшыся аб паўстанні Касцюшкі, ён накіраваўся з Рыма ў Вену, а потым – у Літву, дзе ўсю душу ўклаў у справу паўстання. 19 траўня, выступаючы з гарачай прамовай перад сходам мясцовых жыхароў, ён прыводзіў ім у якасці прыкладу іншыя гарады. Тады і было заяўлена аб далучэнні да паўстання – была абрана Упарадкавальная камісія, што праводзіла пасяджэнні ў той жа зале замка, у якой ганебны сейм пагадзіўся разарваць Рэч Паспалітую на кавалкі. Тым часам былі мабілізаваны ў войска ўсе, хто мог насіць зброю; да іх прыстаўлены дзесятнікі, сотнікі і тысячнікі. Ужо 25 траўня перад Упарадкавальнай камісіяй з'явіліся ўзброеныя жыхары горада; сярод іх нават было шмат габрэяў. Кіравалі гэтай міліцыяй купцы, а камандаванне часова ўзяў на сябе Эрэнкрайц. Адразу ж Касцюшку накіравалі рапарт, у якім паведамлялася аб гэтых падзеях. Касцюшка ў адказ даслаў інструкцыю: загадаў размяркоўваць добраахвотнікаў у адпаведнасці з правіламі, прынятымі Польскай дзяржавай, фарміраваць батальёны з дапамогаю генерал-маёраў, рыхтаваць сялян да ўступлення ў народнае апалчэнне і пераліваць званы на гарматы ў Вільні або

Варшаве. Ужо 7 чэрвеня Гродзенскі павет паставіў 5 тысяч рэкрутаў, якімі камплектаваліся другі і трэці палкі; тады ж былі створаны і новыя вайсковыя часткі. 300 пешых і 400 конных стралкоў пад камандаваннем Сахацкага, як і батальён стралкоў палкоўніка Трамбіцкага, генерал-маёр Ельскі накіраваў у лагер Ясінскага. Казаноўскі сфарміраваў конны полк, а пазней, у ліпені, атрад добраахвотнікаў са шляхты, які налічваў 1 200 чалавек, Ельскі прывёў у Ломжу дзеля аказання дапамогі генералу Карвоўскаму.

Вядома, што 4 траўня расейская вайсковая частка пад камандаваннем Цяслінскага, якая знаходзілася ў Брэсце Літоўскім, уцякла на падводах у бок Пінска. На ўсім шляху да Кобрына яе праследавалі каманда Беляка, які заняў месца Францішка Сапегі, і іншыя атрады паўстанцаў. Праз некалькі дзён, 9 траўня, у Брэсце адбыўся сход жыхароў, які адкрыў сваёй прамовай Казімір Сапега, былы маршалак Чатырохгадовага сойму. На сходзе прысутнічаў прысланы туды Касцюшкам брэсцка-літоўскі ваяводзіч Ян Горайн. Сабраныя вырашылі далучыцца да паўстання, абралі Упарадкавальную камісію і склікалі крымінальны суд. Брэст, як мы бачым з адозвы Касцюшкі "да брэсцкіх і кобрынскіх грамадзян", аб'яднаўся з Кобрынам і прыняў шэраг пастаноў адносна ўзбраення і прызыву "ў адпаведнасці з кракаўскімі законамі". Асобным грамадзянам Касцюшка выдаў патэнты і паабяцаў "памятаць аб дабрадзейным грамадзяніне падпаручніку Бельскім". Брэсцкую і кобрынскую міліцыю мы пазней убачым у лагеры Серакоўскага і ў баях, якія адбываліся пад яго камандаваннем. Міліцыяй кіраваў генерал Казімір Рушчыц. У ліпені яна налічвала 713 чалавек (коней у ёй было 199).

Ковенскі павет далучыўся да паўстання напрыканцы траўня: ён сфарміраваў батальён, у якім налічвалася 692 чалавекі пяхоты, і сабраў конны эскадрон у 100 чалавек; пазней ён накіраваў туды яшчэ 400 чалавек з усенароднага апалчэння. Ковенскім генерал-маёрам быў Ігнацій Прозар.

Да нас не дайшлі звесткі, якія датычаць удзелу ў паўстанні літоўскіх паветаў, і дакладныя спісы сябраў Упарадкавальных камісій, утвораных у Літве. Мы ведаем толькі, што, акрамя названых вышэй, у пачатку ліпеня існавалі яшчэ наступныя камісіі: пінская, слонімская, мерацкая, ваўкавыская, навагрудская, прэнская, расенская, цяльшэўская, шавельская і ўпіцкая.

Цяпер складана вызначыць дакладныя даты вайсковых перамяшчэнняў і бітваў паўстанцкіх атрадаў у Літве ў першыя месяцы паўстання. Мы толькі ведаем, што каля 5 траўня адбылася бітва пад Міхалішкамі, у якой "мелі гонар удзельнічаць" ад'ютанты камандзіра Пацей, Граноўскі і ўжо вядомы нам з падзей пад Няменчынам Нарбут. 11 траўня паручнік Корсак з першай брыгады напаў на авангард войскаў Цыцыянава паміж Жалудком і Шчучынам і ўзяў у палон многа расейцаў. Таго ж Корсака сустракаем у розных баях: пад Мікалаевам ён перайшоў Нёман, захапіў у палон жаўнераў, перамог карабінераў; пад Ашмянамі, дзе знаходзіўся Ясінскі, перабіў казакоў. Потым Ясінскі накіраваў Корсака разам з 200 чалавекамі конніцы ў распараджэнне Міхала Агінскага... Агінскі ўзяў 30 стралкоў і напаў на Валожын, дзе, па чутках, знаходзіўся моцны атрад непрыяцеля; высветлілася, што там было ўсяго 40 расіян, якіх лёгка перамаглі і ўзялі трафеі. Потым Агінскі, адаслаўшы нарабаванае ў Вільню, увайшоў у Івянец, дзе знайшоў велізарныя багацці і "здабычу" непрыяцеля: амуніцыю, грошы, сукно, срэбраныя ўпрыгожанні. Усё гэта ён пагрузіў на 170 вазоў і хацеў супра접ваджаць да Вільні, але пад Вішневам апынуўся акружаным 3-тысячным непрыяцельскім войскам. Пасля кароткай абарончай бітвы ён кінуў здабычу і гэтым выратаваў большую частку атрада.

У ваколіцах Шаўляў змагаўся Януш Тышкевіч, генерал-маёр з Расенскага павета; ён меў у сваім распараджэнні стралкоў і добраахвотнікаў, уласных уланаў і пяць гармат. Таксама на чале стралкоў і добраахвотнікаў у чэрвені ваяваў на мяжы з Курляндыяй, пад Загорамі, Статкевіч, генерал-маёр з Шавельскага павета. Яго атакаваў непрыяцель, але неўзабаве вымушаны быў адступіць, пакінуўшы на полі бою 120 чалавек. Вайткевіч, генерал-маёр з Цяльшэўскага павета, да паўстання адвакат, перашкаджаў сухапутным кантактам расейцаў з прусакамі, а калі ў выніку апошнія вымушаны былі наладзіць марскія зносіны, увайшоў у Курляндыю, пад Палангай паставіў марскую варту, якая складалася з некалькіх батальёнаў, арыштаваў прускую гвардыю і схапіў расейскага

кур'ера, накіраванага ў Прусію з Рыгі (у канцы траўня); нарэшце, з Лібавы ў Курляндыі вывез зброю і амуніцыю[11].

Пад Ашмянамі добраахвотнікі атакавалі лагер Лоўша, і яму давялося адступіць. Татарын Муха пайшоў з трокскімі добраахвотнікамі за расейскую мяжу, каб учыніць дыверсію. Жыхары Навагрудка ўзброіліся і пры дапамозе дзвюх невялічкіх гармат адбілі атаку казакоў і карабінераў непрыяцеля. У пачатку чэрвеня Ян Зянковіч, дазнаўшыся, што ў Валакаце, яго крэўным маёнтку, знаходзіцца расейскі полк, напаў на яго, палову непрыяцельскіх вайскоўцаў перабіў, а палову ўзяў у палон. У ваколіцах Біржаў бітву пад Пашалатамі выйграў ковенскі атрад Ігнація Прозара; ковенскія стралкі пад Радзівілішкамі, на чале з абываталем Кушалеўскім, пераследуючы непрыяцеля, наладзілі водную пераправу цераз Нёман. Адзін з добраахвотніцкіх атрадаў Прозара пад Шамбэркам перамог атрад казакоў... У Вількамірскім павеце мы сустракаем атрад Камара, які складаўся з сялян, узброеных пікамі і косамі (касінераў, – *заўв. перакл.)*, і жмудскіх добраахвотнікаў Пжэцішэўскага. Вядомы ўжо сваёй ахвярнасцю, выяўленай у 1792 годзе, Нагурскі за свой кошт узброіў конны полк з 500 чалавек, камандаванне якім узяў на сябе ягоны сын Ян, лейпцыгскі выгнаннік, цяпер генерал-маёр Жмудскага княства. Аб'яднаныя паўстанцкія сілы Ковенскага, Упіцкага, Вількамірскага, Брацлаўскага паветаў і Жмудскага княства ў траўні налічвалі не менш як 8 тысяч чалавек, у іх складзе была частка рэгулярнай арміі. Яны змагаліся пад Янішкелямі, Біржамі, Янішкамі, дзе Прозар быў паранены. У Жмудзі агульнае камандаванне корпусам, які знаходзіўся на мяжы з Курляндыяй, узяў на сябе Сулістроўскі. Па загаду ваеннага камісара Тамаша Ваўжэцкага той 20 траўня накіраваўся на самую мяжу з Курляндыяй, у Клебава. Пад Панявежай Людвік Сыруць, накіраваны ў разведку, сутыкнуўся з 300 расейскімі вайскоўцамі і сотняй казакоў з адной гарматай. Сулістроўскі пасля атрымання ад Сыруця рапарту схаваўся ў траншэях і ў лесе і сустрэў атрад расейцаў гарматным агнём – непрыяцель пакінуў на полі бою забітымі 40 чалавек.

Аб рэгулярнай арміі Ясінскага і Хлявінскага мы ведаем, што яна змагалася з неаднолькавым поспехам, але пра корпус Сапегі не было вядома нічога, акрамя таго, што яго пакінуў камандзір, а Беляк, які ўзяў на сябе камандаванне, заявіў, быццам з-за перашкод, учыненых ворагам, ён нічога не можа зрабіць. У пачатку чэрвеня з Вільні да калоны Сапегі былі накіраваны Тышкевіч і Грабоўскі, каб зрабіць войска сапраўды баяздольным. Чаму прызначаны Касцюшкам Грабоўскі не ўзяў камандаванне на сябе – аб гэтым няма ніякіх звестак. Пазней стала вядома, што "калона Сапегі, якая раней знаходзілася ў запасе, змяніла пазіцыю, і ёсць надзея, што неўзабаве яна далучыцца да змагання".

Так выглядае дзейнасць Літвы і яе жыхароў у пачатку паўстання. У жыхароў Літвы хапала мужнасці і рашучасці, нягледзячы на тое, што сілы непрыяцеля мелі значную перавагу... Пазней, застаючыся пад галоўнакамандаваннем Рапніна, расейскія карпусы Бенінгсена і Зубава спыніліся паміж Мінскам і Вільняй. Цыцыянаў у ваколіцах Іўя чакаў сустрэчы з небаяздольным корпусам Сапегі і, да таго ж, яму дапамагалі Кнорынг і Галіцын. Здзіўляе, што расейскія войскі, нягледзячы на сваю колькасную перавагу, на працягу двух месяцаў не ўступалі ў ваенныя дзеянні.

Слабым бокам літоўскага паўстання былі рознагалоссі і недахопы ў кіраўніцтве. Цяжка казаць, чаму ўзнікла апазіцыя Ясінскаму... Вынікам нязгоды стала няўдалае рашэнне аб утварэнні трох карпусоў. Адсутнасць галоўнакамандуючага адчувалася ўвесь час, сам Ясіньскі збіраўся прасіць Касцюшку, прыслаць некага, хто мог бы ўзяць у свае рукі ўладу над арміяй. Касцюшка таксама разумеў, што далей так працягвацца не можа, і яго выбар прыпаў на Міхала Вяльгорскага.

Адначасова з роспускам Часовай Літоўскай Найвышэйшай Рады, 4 чэрвеня, Касцюшка прызначыў Цэнтральную камісію Княства Літоўскага і вызначыў начальнікаў яе аддзелаў. Скарбовы аддзел ён аддаў наваградскаму ваяводзе Несялоўскаму, аддзел парадку ўзяў на сябе віленскі харунжы і прэзідэнт Вільні Тызенгаўз; аддзел забеспячэння быў аддадзены пісару Вялікага княства Літоўскага Марыконі, судовы аддзел – пісару Мірскаму; вайсковым аддзелам пачаў кіраваць Бялапётровіч, аддзелам грамадскай бяспекі – вайсковец Віленскага ваяводства Гарэцкі; аддзел адукацыі ўзначаліў віленскі біскуп-суфраган Ксавэры Пількоўскі.

На паўднёвай і паўночнай Кіеўшчыне знаходзіліся польскія

палкі, далучаныя да расейскіх войскаў. Акрамя вышэйшых расейскіх афіцэраў, імі камандавалі ранейшыя военачальнікі, афіцэрскі корпус заставаўся поўнасцю нязменным. Сярод польскіх афіцэраў, асабліва малодшых, даўно выспявала жаданне скінуць свае кайданы. Яшчэ ў красавіку 1793 года, калі чужаземныя захопнікі прымалі ад польскіх вайскоўцаў прысягу на вернасць імператрыцы Кацярыне, брыгада Сухажэўскага перайшла на тэрыторыю Турцыі і, рассеяная, чакала, калі стане карыснай сваёй Бацькаўшчыне. Гэтай хвіліны чакалі палкі, якія засталіся на Кіеўшчыне. Ёсць звесткі аб тым, што ўдзельнікі змовы, арганізатарам якой быў Дзялынскі, наладзілі сувязі з іх афіцэрамі. Планавалася, што калі ў Польшчы пачнецца паўстанне і наблізіцца да расейскіх межаў, усе польскія палкі збяруцца ў Кіеве і рушаць у бок Польшчы. Раскрыццё змовы Дзялынскага прывяло да сумнага выніку – расейцы сталі больш пільнымі.

Вестка аб паўстанні Касцюшкі, дакладней "бунце" Мадалінскага, дайшла да польскіх афіцэраў у сярэдзіне красавіка. Яна абудзіла ў іх жаданне далучыцца да братніх шэрагаў. У гэты ж час польскія афіцэры атрымалі паведамленне, што частка іх палкоў будзе раззброена, а частка – накіравана ў Крым. 17 красавіка быў атрыманы загад Суворава польскім палкам рыхтавацца да пераходу. Болей шанцаў не было, усе хацелі ісці не ў Крым, а за Буг да Варшавы.

Першым абраў гэты напрамак Юзаф Копаць, маёр ранейшай Пяцігорскай, або Пінскай, брыгады літоўскага войска, якая ўсё яшчэ знаходзілася пад камандаваннем брыгадзіра Сланімскага. Копаць выношваў гэтую думку даўно, але не адважваўся падзяліцца ёю са Сланімскім, бо лічыў яго чалавекам бесхарактарным і нерашучым. Копаць наладзіў перамовы з афіцэрамі размешчаных у ваколіцах эскадронаў, і тыя ўступілі ў патаемную змову... Працаваць было цяжка, бо расейцы, падазраючы бунтарскія намеры, акружылі польскія палкі сваімі войскамі. Копаць накіраваў за мяжу афіцэра для разведкі, і той прывёз яму газету з паведамленнем аб выхадзе Мадалінскага з-пад Астралэнкі. У гэты ж час Копацю было даручана аб'ехаць эскадроны з паведамленнем аб надзвычайнай ласцы, выказанай імператрыцай, якая даручыла выплаціць афіцэрам даўгі паводле іх рангаў за два гады службы



яшчэ Польшчы, а салдатам паабяцала "справядлівасць", сплаціць належнае жалаванне і кампенсаваць затраты на мундзіры. Копаць вынайшаў выдатны спосаб паразумецца з брыгадай: ад кожнага эскадрона ён адабраў 4-х афіцэраў і, паведаміўшы аб сваіх намерах, вызваліў ад дадзенай імі прысягі.

Паколькі нельга было сканцэнтраваць войскі ў Кіеве, ён вырашыў дзейнічаць паводле ўласнага разумення. 22 красавіка ў Оўручы сабраліся эскадроны, у якіх налічвалася тысяча коней; жаўнерам былі раздадзены баявыя патроны, што выклікала энтузіязм; з гарачай прамовай выступіў капелан, трынітарый а.Анёл, і эскадроны рушылі да Ушаміра. Ва Ушамірскім кляштары знаходзіўся славуты праароцтвамі і патрыятызмам кармеліт, канфедэрат а.Марэк. Да яго а другой гадзіне ночы звярнуўся Копаць, просячы блаславіць паўстанцаў; хаця і хворы, святы айцец узняўся з ложка і, стаўшы з крыжам у руках перад пастроенымі шарэнгамі паўстанцаў, блаславіў іх словамі: "Ідзіце ў імя Божае і перамагайце". І яны пайшлі, патаемнымі сцежкамі прабіраючыся наперад сярод расейскіх вайсковых частак. Падчас маршу яны спявалі песню: "Багародзіца Дзева, вядзі нас, наша маці!" Ішлі на Кожэц, Антопаль, Астрог хуткім маршам, які засцерагаў ад акружэння. На вачах непрыяцеля Копаць пераправіўся цераз Случ і Гарынь, – пры гэтым ён правёў пераможную бітву, захапіў непрыяцельскую гармату, а ўзятых у палон адпусціў, бо не ведаў, што з імі рабіць. У Камянцы з ім злучыліся батальён Любамірскага і іншыя вайсковыя атрады з гарматамі. Тут ён перадаў камандаванне вопытнаму палкоўніку Граноўскаму, які перайшоў Буг, 2 траўня спыніўся на Чырвоным Стане, а 10 траўня далучыўся да корпуса генерала Грахоўскага.

Камандзір валынскай брыгады Лазнінскі, даведаўшыся аб паўстанні Касцюшкі ад генерала Салтыкова, адразу напісаў афіцэрам лісты, і на працягу некалькіх гадзін адзінаццаць эскадронаў брыгады былі гатовыя да маршу (26 красавіка). Не прыбыў толькі эскадрон, які ўзначальваў Главінскі (ён потым перайшоў на бок Масквы і атрымаў званне маёра). У першы дзень, праследаваны непрыяцелем, Лазнінскі адолеў кіламетраў 15. Прыціснуты да Днястра, ён пераправіўся цераз яго і дайшоў да Валашчызны, дзе з ім аб'ядналіся рэшткі брыгады Сухажэўскага,

якая перад гэтым знаходзілася на турэцкай тэрыторыі. Потым Лазнінскі трапіў у Галіцыю і рушыў праз Крысцінопаль (17 траўня), Збораў (21 траўня) і Сокал, уцякаючы ад аўстрыйскіх карпусоў. Прыбыўшы ў Замойскую вобласць, пад Дубенкай ён апынуўся ў межах тагачаснай Рэчы Паспалітай. Тады яго сілы налічвалі каля 2 тысяч чалавек. Касцюшка прысвоіў яму званне генерала, а брыгада яго перайшла пад камандаванне Калыскі.

Праз два дні пасля Лазнінскага, 28 красавіка, на марш выйшаў Францішак Ксавэры Вышкоўскі, раней аўстрыйскі ротмістр, цяпер маёр брыгады, што раней называлася Дзёрзкай, потым была перайменавана ў Дняпроўскую і размяшчалася ў ваколіцах Белай Царквы. Ён, як і Копаць, нічога не паведаміў аб сваіх намерах камандуючаму, а даведаўшыся аб тым, што паўстанне пачалося, падчас знаходжання на кірмашы ў Бярдзічаве, разам з афіцэрамі і абодвума Развадоўскімі, Казіцкім і Ліберадскім, распрацаваў план далучэння да Касцюшкі. Размясціўшы свае эскадроны пад Аўсянікамі, ён накіраваўся да Паграбышчаў, адкуль уночы рушыў на Пікаў, Хмельнік, Бяларэнкавы да Канстанцінава. Вышкоўскі пакінуў з усёй брыгады на Украіне віцэ-брыгадзіра Кубліцкага, некалькі афіцэраў, якім не давяраў, і каля 160 шарагоўцаў...

На чацвёрты дзень паходу (1 траўня) пад Пагарэлым, каля Канстанцінава, шлях яму запыніў батальён грэнадзёраў Кацярынаслаўскага палка з сямю гарматамі. Жорсткая пяцігадзінная бітва закончылася перамогай Вышкоўскага... Трафеямі, акрамя 4-х палонных, былі 4 вазы з амуніцыяй (да таго ж, яшчэ два былі перакулены ў балота), дзве карэты лазарэта і палкавая каса – 356 тысяч злотых. Вышкоўскі страціў 41 чалавека і 50 коней, расейцы – больш за 800 чалавек параненымі і забітымі. Пазней Вышкоўскі падышоў да галіцскай мяжы, дзе наладзіў пераправу разам з памежнай стражай і казакамі. За аўстрыйскай мяжой, у Тарнопальскім павеце, ён апынуўся раніцай 2 траўня. Потым Вышкоўскі рушыў праз Злочаўскі павет да Белакаменя, дзе правёў дзень, прычым быў добра прыняты мясцовымі жыхарамі і ксяндзом базыльянаў. Калі ён не звярнуў увагі на заклік аўстрыйскага генерала Харнанкурта пакінуць Галіцыю, да яго прыбылі ад'ютант апошняга разам з капітанам і






прапанавалі свае паслугі ў пераводзе атрада праз Замойскі павет да польскіх межаў, абяцаючы дапамагчы за грошы правіянтам і фуражом. Але Вышкоўскі не скарыстаўся іхняй прапановай, паколькі жыхары павета задаволілі яго патрэбы. Па просьбе Харнанкурта Вышкоўскі вызваліў расейскіх ваеннапалонных і рушыў у накірунку Дубенкі. Па дарозе яго шэрагі павялічыліся за кошт 900 галіцыйскіх добраахвотнікаў на добрых конях. Пасля 12 дзён маршу праз Галіцыю, 14 траўня, ён размясціўся пад Дарагускам паблізу Дубенкі, дзе яго ўжо чакаў загад Касцюшкі, які прызначаў Вышкоўскага брыгадзірам. У Дубенцы ён прыняў камандаванне над 600 чалавекамі пяхоты, 200 кавалерыстамі Копаця, 450 чалавекамі з палка польнай булавы і 1 600 касінерамі з Холмскага і Люблінскага паветаў.

Ці з-за расейскай мяжы прыйшлі якія-небудзь іншыя атрады, акрамя брыгад Копаця, Лазнінскага і Вышкоўскага, – аб гэтым у нас няма звестак. У дакументах ёсць згадка аб залатым палку гетманскіх казакоў (Шчэнснага Патоцкага) і атрадзе Чыжэўскага, які ў колькасці 350 чалавек 27 красавіка мусіў даць ворагу паміж Рашкавам і Магілёвам пераможны бой, але ні з гэтым палком, ні з гэтым атрадам мы нідзе не сустракаемся.

"Наогул падлікі прыбылых з-за расейскай мяжы атрадаў і асобных груп, – сцвярджае гісторык Корзан, – уяўляюць адну з цяжэйшых для свайго вырашэння задач. Тагачасныя крыніцы ўражваюць супярэчлівасцю. У адпаведнасці з прускімі паведамленнямі, Сувораў і Салтыкоў мусілі абяззброіць 9 тысяч чалавек; яны ж не здолелі перашкодзіць руху нават 6 тысяч палякаў. Камажэўскі ўказвае, што з-за мяжы прыйшло толькі 3 тысячы, а Заёнчак, прыгадаўшы 2 100 чалавек – Вышкоўскага і Лазнінскага, – нічога не гаворыць аб Пінскай брыгадзе Копаця, якая раней належала да яго дывізіі, і коратка паведамляе, што "астатняя частка польскага войска была раззброена".

Пасля прыблізных падлікаў Корзан прыходзіць да высновы: Салтыкоў і Сувораў раззброілі каля 8 тысяч чалавек, а да Касцюшкі наогул з таго "ўключанага" ў расейскую армію войска прабілася толькі каля 4 тысяч.

Адно тут бясспрэчна – тое, што, акрамя брыгад, якія

правраліся ў Польшчу, жаўнерамі, якіх іншаземныя захопнікі рассеялі па расейскіх палках, рабіліся высілкі, каб далучыцца да паўстання. Уцякалі па адным, групамі, нават, здаецца, грамадой, з неаднолькавым поспехам. За імі кінуліся ў пагоню і частку (напэўна, большую) схапілі. Аб гэтым піша расейскі гісторык Кастамараў, які не абмінае аповеду пра лёсы гэтых няшчасных. "З імі абыходзіліся, – піша ён, – бязлітасна. Найстрашней каралі тых, хто аказваў супраціў пры затрыманні. Такім чынам быў прыведзены ў дзеянне прысуд, вынесены кіеўскім Крыгсгерыхтам (ваенным судом) у жніўні 1794 года: 280 з іх былі асуджаны на ламанне калясом (або ўпляценне ў калясо – у расейскім варыянце: *калесаванне*), і было загадана класці іх целы на кола. Іншых толькі павесілі. Многіх асуджаных каралі катаваннем і высылалі потым служыць у далёкія губерні [12].

Калі 280 "найбольш вінаватых" былі ўплецены ў калёсы, а іншых вешалі, катавалі або высылалі, то можна смела меркаваць аб тым, што колькасць гэтых няшчасных набліжалася да па меншай меры тысячы, а тых, хто ўцёк, было некалькі соцень.

**Пераклала з польскай мовы**
**Святлана САЧАНКА.**

---

[1] Звесткі аб падзеях у Літве ўзяты ў асноўным з "Газеты Вольнай Варшаўскай". Тут выкарыстаны таксама карэспандэнцыя, якую гэтая газета атрымлівала з Вільні і Гродна, і урыўкі з вайсковых рапартаў.

[2] Энгельгарт гаворыць аб тым, што Арсенneў быў закаханы ў пані Валадковіч і давяраў гэтак жа безаглядна, як ёй, усім палякам. (Мемуары Энгельгарта. С.108.)

[3] Кітовіч расказвае (с.160), што Хлявінскі прыехаў у Янава, каб схапіць Касакоўскага, які знаходзіўся там у брата, але гетман уцёк і дабраўся да Вільні.

[4] Яго захапіў у палон капітан артылерыі Нялепец (гл. рапарт Рапніна). Кітовіч сцвярджае, што сябар Ясінскага Хадкевіч з дзвумастамі жаўнерамі атакаваў Арсеннева.

[5] Падрабязнае апісанне ходу пакарання гл. у "Дадатках" да Кітовіча (т.3. С.189). Пасля гэтага (11 траўня) быў павешаны яшчэ Ігнацій Швыкоўскі, у часы Таргавіцы – маршалак Віленскай канфедэрацыі.









[6] Карэспандэнт "Газеты Вольнай Варшаўскай" у Вільні ўжо 13 траўня паведамляў: "Мы стварылі арганізацыю, якая мае назву Часовай Нацыянальнай Рады правінцыі Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Касцюшкі. Гэтая арганізацыя поўнасцю падпарадкоўваецца ўладзе Касцюшкі".

[7] Грабоўскага Касцюшка прызначыў на месца Сапегі. Аб тым, што Касцюшка аддаў камандаванне адным з 3-х карпусоў Сапегу, пішуць не толькі Стафан Грабоўскі, але і "Газета Вольная Варшаўская". У нас ёсць таксама пісьмо Касцюшкі да Сапегі (гл. у Корзана), у якім ён прызначае таго генерал-лейтэнантам. Грабоўскі нават гаворыць, што Сапега нейкі час камандаваў войскамі пад Слонімам, але пасля склаў з сябе камандаванне. Іншыя друкаваныя крыніцы сцвярджаюць: камандаванне ён склаў з сябе ў Бельску, і тады ён быў у чыне капітана, ахвяраваўшы 6 тысяч залатых чырвонцаў. ("Газета Вольная Варшаўская". №7.)

[8] Ва ўзгаданым вышэй пісьме Хлявіньскага можна прачытаць нараканні на адрас Рады. У ёй былі быццам бы людзі "бескарыслівыя і дастойныя", але былі таксама мужы і браты расейскіх утрыманак і палюбоўніц. Былі і тыя, хто "ўвайшоў у Раду з карысці", былі падазроныя, з якіх "адзін ужо ўцёк".

[9] "Урадавая газета". №22.

[10] Гарады Араны і Мерач былі поўнасцю спалены і разрабаваны – ад іх засталіся руіны; што тады казаць аб вёсках, дварах і корчмах. Расейскія салдаты гвалцілі жанчын, забівалі старых, дзяцей. Ваколіцы Гродна выглядалі як пасля нападу татарскіх ордаў.

[11] Паўстанцы за 120 цэнтнераў пораху, дзве гарматы і 2 тысячы адзінак зброі заплацілі гораду 7 тысяч альбярцінскіх талераў. (Ярахоўскі. Гістарычныя апавяданні: З нямецкай брашуры аб паўстанні ў Курляндыі, выдадзенай у 1795 г.)

[12] Гл.: Костомаров. Последние годы Речи Посполитой. Т.2. С.508.

Kazimierz Bartoszewiez. Dzieje insurekcji Kosciuszkowskiej.
Wiedeń, 1909



Мал.. Галіны Дубянецкай

*калі Бог памысліў сусвет*
*Ён стварыў чалавека*
*чалавек нараджаецца й памірае*
*і не вяртаецца зноў*

Агата
Кормак







# АФРЫКАНСКІЯ РЭЧЫТАТЫВЫ

***першае кола:***
***вясна (усходні вецер, агонь)***

## 1. СУСВЕТ

сонца што ўзыходзіць
у ружовым небе
моліцца Табе
вецер што варушыць
тонкія пялёсткі
моліцца Табе
месяц што хавае
светлае аблічча
моліцца Табе
пераліў птушыны
ў радасным сугуччы
іхнаю малітвай
напаўняе свет
і я адчуваю
кончыкамі пальцаў
гэтую вібрацыю
гэты дзіўны гімн

## 2. КРУГАБЕГ

калі Бог памысліў сусвет
Ён стварыў яснае сонца
сонца ўзыходзіць і заходзіць
і вяртаецца зноў

Ён стварыў тонкі месяц
месяц паўнее й сыходзіць
і вяртаецца зноў
Ён стварыў незлічоныя зоры
зоры разгараюцца й блякнуць
і вяртаюцца зноў

калі Бог памысліў сусвет
Ён стварыў чалавека
чалавек нараджаецца й памірае
і не вяртаецца зноў

*куды памірае чалавек?*

### 3. БОГ

Бог быў адвеку
вечнасць — ад Бога
я вечны бо вечны Бог

дзе ёсць Бог?
бліжэй за павекі
бліжэй за скуру
бліжэй за ўздых

Бог глядзіць мной
мной слухае
і дыхае — мной

Бог мяне мае ў Сабе
я маю Яго ўва мне
я чую Яго звонку

прысутнасць Ягоная —
твае слова
што зляцела з вуснаў






яго больш няма
яно прамінула
і засталося ў вечнасці
праз твае слова
да мяне прамаўляе Бог

прысутнасць Ягоная —
твой пагляд
што спыніўся на мне
выпадкова
і прамінуў
і застаўся ўва мне
праз твой пагляд
на мяне глядзіць Бог

нас ніштo
не разлучыць з Богам
нас ніхто
не раздзеліць з табой
нават ты нават я
нават Бог

## *другое кола:*
## *лета (паўднёвы вецер, зямля)*

### 4. ЗЯМЛЯ

зямля
чый дзень чацвер
прымі гэты хлеб і віно
гэта твой унук памёр
зямля
пакуль я жыву
я шукаю твайго разумення

я хачу цябе зразумець
зямля
з якой маё цела адно
я размаўляю з табой
і ты разумееш
зямля

## 5. ПЛЁН

о зямля што б ні рабілі мае людзі
будзь ласкаваю да іх будзь ласкаваю
калі яны даюць табе захоўваць
дробныя зярняты будзь плённаю
узгадуй іх добрым цяплом апладні іх
шчодрым дажджом будзь ласкаваю
дай ім набрыняць прарасці беручы
з цябе жыццядайную сілу для нас

о дрэвы спагадайце маім людзям
будзьце чуйнымі да іх будзьце добрымі
калі яны будуюць свае хаты слухайце
сякеры ляснога чалавека падайце
не навывырат ані ўпоперак але лёгенька давярайцеся
як вы давяраеце мне
дрэвы хістаюцца й падаюць маланка
бліщча і агонь рвецца ў сэрца дрэва
перад маланкаю дрэвы падаюць выпадкова
неспадзеўна без напрамку ці кірунку
але лясны чалавек вядзе дрэва куды хоча
ды кладзе яго ў спакоі далікатна

о рэкі й ручаіны плывеце вольна
выносьце ўрадлівасць з лясоў ды гораў
пакідайце багатыя скарбы ў садох маіх людзей
будзьце шчодрымі да іх будзьце шчодрымі
змоўцеся о зямля і рэкі






змоўцеся міжсобку зямля й рэкі й лясы
будзьце лагоднымі давайце нам
шчодра ад вашых багаццяў
бо гэта я Ламінгамой з Ідотаў кажу да вас
захавальнік зямлі маіх людзей ваш гаспадар

## 6. ПАДЗЯКА

табе Творца табе Добры
я прыношу свежы бутон
новы плод старажытнага дрэва

ты вечнае дрэва на якім мы бутоны
ты даў нам жыццё і цэлы сусвет
дзеля нашае радасці й плёнаў

табе Божа табе Кмвоўм
я ахвярую новую раслінку
я прысвячаю сваё жыццё

***трэцяе кола:***
***восень (заходні вецер, паветра)***

## 7. КРАІНА

Абук маці Дэнга
пакінь свой нябёсны дом
і прыйдзі ў наш дом
зрабі наш край чыстым
як першасны дом Дэнга
зрабі яго сваім жытлом
вярні нашай краіне радасць
краіне Аквол

яна не ёсць радаснай
ні ўдзень ані ўночы
аблічча Дэнга замглілася
ён сумуе разам з дзецьмі Акволу
о мы збіраемся пакланіцца
магілам нашых продкаў
яны ведалі як нараджаецца радасць
я набуў на ногі сандалі
Нійел ідзе да магілаў
дай мне дайсці да магілаў продкаў
дай дзецям Акволу дайсці да праўды
памажы нам вярнуцца ў радасць

## 8. БОЛЬ

я пяю табе Амарары
я пяю табе Амарары
Амарары суціш наш боль

усе дзеці нашы што маем
гэта дзеці твае Амарары
Амарары суціш наш боль

усе хлопцы нашы што маем
гэта хлопцы твае Амарары
Амарары суціш наш боль

і дзяўчаты нашы што маем
то дзяўчаты твае Амарары
Амарары суціш наш боль

я ізноў пяю пяю Амарары
пра тваіх людзей Амарары
Амарары скажы дзе наш дом

а-а што за плач я чую між азёраў
мы плачам да Амарары





а-а што за плач я чую ў мястэчках
мы плачам да Амарары

а-а што за плач я чую ў вашых сэрцах
мы плачам да Амарары

а-а гэта плач якім плачуць дзяды э-э
а-а гэта шлях які нам праклалі дзяды э-э

гэта я кажу да вас Амарары
кожны шлях вядзе вас да Амарары
працярэбце сабе свой шлях

ваш адвечны дом збудаваў Амарары
калі сэрца ведае Амарары
пераплавіцца ў радасць боль

## 9. ПАЛЁГКА

*кіраўнік хору:* Огвал
*старыя:* Огвал
*кіраўнік:* хай хвароба адступіць
*старыя:* адступіць
*кіраўнік:* хай хвароба забудзе
*старыя:* забудзе
*кіраўнік:* калі ўсё так ідзе — добра
*старыя:* добра
*кіраўнік:* калі край у спакою — добра
*старыя:* добра
*кіраўнік:* хай мёртвыя забудуць
*старыя:* забудуць
*кіраўнік:* хай мёртвыя даруюць
*старыя:* даруюць
*кіраўнік:* сёння мы здужалі смерць
*старыя:* Огвал

***чацвёртае кола:***
***зіма (паўночны вецер, вада)***

## 10. ПОЎНЯ

дай мне поўня тваё аблічча
тваё яснае — о! — аблічча
а сабе забяры маё
засмучонае — о! — маё
дай мне поўня тваё аблічча
маладое тваё аблічча
а сабе забяры маё
пасталелае — гэй! — маё

ты знікаеш ды йзноў прыходзіш
раз ад разу ясней абліччам
паміраеш ды йзноў прыходзіш
ды з усё маладзейшым абліччам

а я тут валачу жыццё
ды марнуюся штораз болей
і калі давяршу жыццё
не вярнуся сюды я болей

ты калісьці мне абяцала
ці ты помніш — гэй! — абяцала
што аднойчы вярнуся і я
як ты ўночы — о! гэй! — і я
што і я заззяю на свеце
рассвятлю я цемру на свеце
ці ты помніш? я мушу прыйсці
каб святло не згасла прыйсці

*дай мне поўня тваё аблічча...*






## 11. СМЕРЦЬ

*кіраўнік хору:* істоты жывуць
слабнуць і паміраюць
і прыходзіць вялікі холад
*хор:* гэта вялікі холад ночы гэта змрок
*кіраўнік хору:* птушка нараджаецца
лётае і памірае
і прыходзіць вялікі холад
*хор:* гэта вялікі холад ночы гэта змрок
*кіраўнік хору:* рыба нараджаецца
плавае і памірае
і прыходзіць вялікі холад
*хор:* гэта вялікі холад ночы гэта змрок
*кіраўнік хору:* чалавек нараджаецца
ён сталее і слабне
і адтуляецца азоранае неба
*хор:* тут унізе холад там уверсе святло
*кіраўнік хору:* чалавек сыходзіць
вязень вызваляецца
шкарлупка адпадае
*хор:* чалавек вяртаецца да Кмвоўма
*разам:* Кмвоўм Кмвоўм сустракай
сваё дзіця

## 12. МАЛІТВА

я малюся Табе о Божа
я малюся Табе ўночы
Ты трымаеш людскія душы
праз усе дні жыцця Ты з намі

Ты ідзеш у высокай траве
і я іду разам з Табою
і калі я сплю ў сваёй хаце
мая повязь з Табою мацнее

## Яно

Агата КОРМАК

я малюся Табе аб пасілку —
Ты даеш мне пітво ды ежу
душа жывая Табою
праз усе ночы і дні

над Табою няма нікога
і нічога па-за Табою
раскрываю Табе сваё сэрца
пачуй як яно пяе

Ты стварыў Божа Нйіканга
гэта ты Нйіканг ходзіш з Богам
ты стаўся продкам чалавека
ты і дзіця тваё Дак

Ты Бог каму нам узносіць
падзяку як не Табе
Ты не гуляеш намі
але душа ці ж не Твой набытак

Ты ўздымаеш нас ад сну ў новы дзень
Ты ўздымаеш нас ад хваробы
Ты ўздымаеш нас
Ты ўздымаеш нас
Божа

*Паводле матываў*
*афрыканскіх традыцыйных малітваў.*



*Шаноўны чытач і падпісчык!*

**"Крыніца" — твой часопіс.**

**Будзьма разам у плыні літаратурнага**
**і культурнага жыцця Беларусі!**
**Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на ~~газету~~ / часопіс **74824**
(індэкс выдання)

**КРЫНІЦА**
(назва выдання) Колькасць камплектаў

На 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на ~~газету~~ / часопіс **74824**
(індэкс выдання)

**КРЫНІЦА**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб.___кап. | | |

На 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

*Шаноўны чытач і падпісчык!*

**"Крыніца" — твой часопіс.**

**Будзьма разам у плыні літаратурнага
і культурнага жыцця Беларусі!
Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.**

## ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

**Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).**

**Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

**Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з картачкай дастаўкі запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**